Васіль Жуковіч

# Цудадзейны вітамін

Кніга сатыры і гумару

Мінск, «Кнігазбор», 2011

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
Ж86

**Жуковіч, В.**
Ж86 Цудадзейны вітамін : кніга сатыры і гумару / Васіль Жуковіч. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 220 с.
ISBN 978-985-7007-15-8.

Зборнік складзены з двух раздзелаў. У першым з іх — творы, заснаваныя часта на адмоўных якасцях людзей і негатыўных момантах рэчаіснасці, а ў другім — ураджанні паэта, што скаліся ад прачытання многіх беларускіх вешатворцаў; дасціпнаю моваю гумару ён дапамагае знакамітым і менш вядомым аўтарам усміхнуцца там, дзе яны надта сур’ёзныя.

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)

**ISBN 978-985-7007-15-8**

*Існуе, скажу вам смела,*
*Асаблівы вітамін,*
*Мо на цэлым свеце белым*
*Слаўны ён такі адзін.*

*Знікне кісленькая міна,*
*Стрэс не з’явіцца і ў сне*
*Ад жывога вітаміна*
*Пад вядомай назвай — смех.*

☺



# Смяяцца, каб не гараваць

## *Раздзел першы*

### Жарсці рублёвыя

На Беларусь прыйшла еўравалюта.
Рубель, наш галадранец, кажа: «Крута!»
І ну давай да панны заляцацца,
У шчырым у каханні прызнавацца.

Быць закаханым ёй рубель клянецца,
Паклоны б’е, ніжэй як можна гнецца,
Цалуе ёй ужо не толькі ножкі,
Каб прадавалася танней хоць трошкі.

Тых заляцанняў грыўна стала сведкай:
— Будзь асцярожная ты з ім, суседка!
Ты шчасця з ім ніякага не злепіш,
Адно, глядзі, інфляцыю падчэпіш.

*11.07.2011*

# Сорам беларускага рубля

Перад доларам нямала
Падаў хілы, нетрывалы
Беларускі наш рубель.
У валютных справах асы
Штурмам бралі ашчадкасы,
Каб не сесці тут на мель...

Час ішоў. Еўравалюта
Узышла раптоўна, крута
І на наш кірмаш прыйшла.
Ўся бліскучая, як пава,
Набыла імгненна славу:
Ўсіх яна пераўзышла.

Перад ёй ужо сам долар
Злёгку хіліцца дадолу,
Рублік наш упаў, ляжыць.

Бедалагі ўжо — не асы —
Змрочныя, стаяць ля касы,
Каб яго як-небудзь збыць,
Каб што людскае набыць.

— Што ты, зайка, што ты, бедны,
З пераляку гэткі бледны,
Нізка ўпаў, ты ўвесь дрыжыш?
— Як сябе інакш паводзіць,
Калі сорам не праходзіць,
Не дае спакойна жыць:
Злоты, лат, рубель маскальскі,
Грыўна з мяне зубы скаляць,
Не зраўняцца з імі мне.

Ўсе яны аблічча маюць,
Хоць таксама саступаюць,
Еўру, долару ў цане.
Бачу, кожны з іх спрытнейшы,
Я за ўсіх-усіх слабейшы —
Цень маскальскага рубля;
Хай вярхі задавальняю,
А нізы мяне скланяюць,
Бы якога круцяля.
Ля абменнікаў я чую
Ад людзей, што там начуюць,
Скаргаў цьму начной парой.
Там старыя наракаюць,
Што на смерць рублі трымаюць, —
Грошы робяцца трухой:
Дэвальвацыя з'ядае.
Люд у крамах прападае,
Панікуе шчыры люд:
«Кепска ёсць. Ці ж лепей будзе?»
Больш не давяраюць людзі
Мне, бяздарнаму рублю.
Людзі добрыя, паверце:
Я гатовы сам памерці,
Каб замена мне была.
Дзеля Бацькаўшчыны вольнай,
З беднасцю пакончыць здольнай,
З цемры выйсці да святла.

*Чэрвень 2011*

## Цяжкое выпрабаванне

*Міні-байка*

Калі Кузьму ў начальства выбіралі,
То асабліва коп'і не ламалі:
Здалося, за людзей ваюе ён...
Адкуль жа ўзяўся ментарскі ўжо тон?
Як ліха перажыць такое:
Начальнік затыкае ўсім раты!

Выпрабаванне ўладаю — цяжкое,
Глядзі, каб не ўпіваўся ёю ты.

*1988*

## «Біць альбо не быць!..»

Шэф не трываў павеваў новых —
Ён разаслаў па установах
Сваю тактычную «навінку»:
«За дэмакратыю — на словах,
Але на справе — за дубінку!»

*1988*

## Палонны

— За прапанову падымаю дзве рукі! —
На сходзе зычны голас раздаецца...
Суб'ект адзін адкрыўся ў нас такі:
Так галасуе, бы ў палон здаецца.

*1988*

## Помста

Не памаглі
                ні слёзы,
                        ні пагрозы:
Начальнік тых паскарачаў,
Хто недахопы прыкмячаў.
У суд яны прыйшлі. Але ў судзе
Калега іх начальніка сядзеў.
І справа дрэнь:
Кату пад хвост пайшоў іх дзень.

*1987*

## Мясцовая цемрашалка

*Наследаванне Якубу Коласу*

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку маламу:
Выцягнуў ён маму
У кнігарню з дому.

— Мамачка-галубка! —
Просіць сын так міла. —
Можа б, ты мне кнігу
Коласа купіла?

— То ж па-беларуску!
— Вось і добра, мама,
Разумею мову
Родную таксама.

(Два разы на тыдзень
Вучым яе ў школе...)

— Не куплю, сказала,
Не панятна, што лі?!

— Мамачка, матулька! —
Чуць сынок не плача. —
Мо шкадуеш грошай?..
Вырасту — аддзячу.

— Толькі паглядзеце,
Што чаўпе назола!
Ну ж і дабяруся
Я да вашай школы!..

*1985*

## Мясцовае гора, альбо Як сустракаў Яфрэм Ягора

1

Калі к Яфрэму пад'язджаў Ягор,
Як першы падхалім, Яфрэм страчаў яго.
Ён пашыраў і «прасаваў» катком дарогу,
Бардзюры, броўку лоўка фарбаваў,
Хоць дождж і фарбу ўсю змываў, —
Пашчыраваць прыйшлося многа!..
— А ў чым, — спытаеце, — прычына?
— Ягор вышэйшы за Яфрэма чынам.
Але абое, так сказаць, рабое.

*2*

Наведаў зноў Ягор Яфрэма,
Каб неяк падбадзёрыцца ў яго:
Прадстаўнікі застойнае сістэмы
Не могуць жыць адзін без аднаго.
А гэты раз перад Ягорам
Дастаткам зіхатнуў яфрэмаў горад,
Хоць гэта й быў дастатак паказны
(За ім стаяў падман скразны),
Бо размаітыя каўбасы,
Вяндліна, шынка, ананасы
У крамах толькі тых былі.
Куды заезджага вялі
(У крамах тых, заўжды пустых,
Дастатак існаваў адзіны міг).
Пра гэта ведаў і Ягор,
Ды хітрая гульня здаволіла яго:
Расхвальваць так пачаў Яфрэма,
Што гэта — самастойная ўжо тэма.
Кіруюць, нам на гора,
яфрэмы і ягоры.
Датуль на нашых карках ім сядзець,
Дакуль мы будзем іх цярпець.
Дык скіньма ж падхалімаў, верхаглядаў
І халуёў іх штатных,
Не падпускайма іх да ўлады
На стрэл гарматны!

*1989*

## Скарга ў дарозе

— Тыраж газеты падае, халера! —
Праблему найвастрэйшую сваю
Рэдактар спадарожніку даверыў. —
Я ўжо спакою штату не даю.
— А перчык ёсць?.. — пытае спадарожны.
— Што, крытыка? Даём у нумар кожны!
— Каго ж пясочыце?
— Ды ўсіх падрад:
І цешчаў, і курцоў, і ўсякіх «папуасаў»,
І хто бярэцца слаба за падрад,
Кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў,
Раённае звяно.
— І не вышэй?
— Вышэй?.. Там любяць, каб было цішэй.

*1988*

## Тутэйшы

Як на ліха, як на згубу,
Безгалосы і бяззубы
Ён. Вось думаю сабе:
Што за гэткі недарэка
Ўсё-ткі ў скуры чалавека?
І ці мае хоць хрыбет?

Ёсць яшчэ неўразуменне:
На бязвольнае стварэнне
Час затрачан для чаго?
Пэўна, мама яго й тата

Шклянак цяпнулі багата,
«Праектуючы» яго.

*1991*

## Пра каўбасы і прамовы

Старыя кажуць, што калісьці
Каўбасы доўгія вяліся;
Тады былі кароткія прамовы...
Пасля прыйшоў парадак новы:
Прамовы дужа доўгія пайшлі
І ўраз
Амаль не стала ў нас каўбас.
Так мы жылі:
Падобна, ад прамоў залежныя былі
(Штаны спаўзалі ў нас без рамянёў) —
Тым менш каўбас, чым больш прамоў.
А як цяпер? Цяпер у нас
Прамоў даволі і каўбас.
Але ж прамовы халастыя,
Хоць не такія ўжо й даўгія,
Каўбасы ж надта дарагія:
Панюхаць можна, ды за кукіш
Ніяк не купіш,
«Зайцы» бягуць, як на бяду,
Усё на іншую яду
Ды на патрэбы ўсё другія.
Каўбасы ж пахнуць дарагія
І раздражняюць жываты!
І што рабіць, калі шмат ласых
Якраз на лепшыя каўбасы?
Мо

Адрачыся ад прамоў
Тых —
Халастых?!

*1995*

## Школьныя прыпеўкі

Рэформа школьная —
Сяброўка даўняя,
Задачы новыя
Фундаментальныя.

Ах, мэты ставяцца
Зусім нявузкія,
Патрэбна справіцца
Нам з перагрузкамі.

На плечы ўзвалім груз,
Падціснем страўнікі...
Вы ўсе двухжыльныя,
Сябры настаўнікі.

У вечных клопатах
Вы сейце вечнае.
А дошка з крэйдаю
Вам забяспечаны.

*1995*

## О-ёй!..

1

Калі прылаўкі ўсё з таварамі,
Ты не пахвалішся наварамі,
Гандляр, о-ёй,
Такі застой!..
Як локці й мышцы не напружаны —
Мазгі не вараць; недагружаны.
Ой, пакупнік,
Такі тупік!
На фоне гэткай «ненармальнасці»
Знікае струнка прадпрымальнасці.
О-ёй, о-ёй,
Такі застой!..

*2*

Няма тавараў — тут і рух:
Усё гатовы вырваць з рук,
Усё гатовы ўзяць з рукамі.
Дык варушыся, не маргай,
Гандляр, давай
Хавай тавар,
Тавар хавай —
Рабі навар,
Ты будзеш мець мяшок з грашамі.
Не возьме канкурэнтаў шок,
Яны і самі ўсе з вусамі,
Здабудзе кожны свой мяшок:
Схаваў, купіў, перапрадаў —
І маху, так сказаць, не даў.

Варшаўскі рынак і базар —
Ну што азон, ну што бальзам:
Там пахнуць злоты і даляр.
О-ёй, блатнік, о-ёй, гандляр,
Жыццё суцэльны ёсць кірмаш,
Дзе капітальчык — не міраж.

3

Вярхі краіну раскрадуць,
Сябе у крыўду не дадуць.
Жывуць і тыя — будзь здароў,
Што круцяцца вакол вярхоў.
А нам — усім астатнім нам —
Жыць давядзецца як панам:
Без лішніх клопатаў душа.

Адно ў кішэнях — ні шыша.

*1990–1991*

## Вослікаў брат

На вősліку ехаў яздок невясёлы
І ўсё паганяў, біў дубцом ён жывёлу,
Яе абзываў ён стварэннем упартым...
А тут верхавога спыніў — не да жартаў! —
Даішнік сустрэчны, суровы ж ён быў!
— За што ты асла, — кажа, — дубчыкам біў?!
За здзекі з братоў нашых меншых павінен
Я ўзяць з цябе штраф, як дыктуе закон...
Гаротнік тады заплаціў, што быў вінен,
Ад'ехаў — пачаў вінавацілца ён:
— Даруй ты мне, вослік, за ўсе мае крыўды!

Я ўдзячны таму, хто караў мяне штрафам,
Бо ты ж такі сціплы, што сам не адкрыў бы,
Што меншым ягоным з’яўляешся братам!

*1996*

## Сны

Спрэчкі сняцца дэпутатам,
Поспех — мудрым дыпламатам,
Слава — шахам, каралям,
Вязням — воля, кара — катам,
Грошы — спрытным казнакрадам,
Праца — сейбітам, аратым,
Піва — дужым мужыкам...

Проста спіцца дзівакам.

*1996*

## Галавацяпы

Багацце нашанскіх садоў
Не ўбачыла ні рынкаў, ні складоў,
Ні магазінаў, як на зло, —
Пад яблынямі ўсё згніло.
А пасля восеньскай імжы
Пайшлі гандлёвыя мужы
Вазіць ранеты з-за мяжы...

*1996*

## Чэкі-недарэкі

Маёмасці чэкі,
Вы — ліпа ці не?
Не ўцямлю, навошта
Вас выдалі мне.
Багатым ніяк вас
Прадаць не магу,
А бедным не трэба.
Чаго ж берагу?

*1996*

## Ляснулі грошы

У спёку й парошу
У чэргах стаяў —
На акцыі грошы
З надзеяй мяняў...

Трывог нёс я ношу
Даўгія гады.
Як ляснулі грошы,
Падумаў тады:

«Капейку мо ўдача
Пашле мне ў руку —
У крамах патрачу,
Падам жабраку...

А лішку паволі
Змагу й прагуляць.
Ды акцый ніколі
Не буду купляць!»

*1996*

## Капюшоны з-за кардону

Неперспектыўнай вёсцы ў час імжы
Прывезлі капюшоны з-за мяжы
(Прыйшла гуманітарная падмога).
Іх дабрадзеі хутка раздалі
І адбылі
Сваёй дарогай...
Цяпер гаротнікам загадка,
Ніяк у галаву не йдзе здагадка,
А й думка з галавы не йдзе:
«А курткі дзе?
І хто, і дзе,
Й калі
Ад капюшонаў курткі адшпіліў?..»
Адно прыходзіць суцяшэнне:
Хоць не залез да іх ніхто ў кішэні.

*1996*

## Варацілава віла

Дачу будаваў начальнік,
Беларускі новы пан, —
Людзі поруч прыкмячалі:
Пан прыпёр пад'ёмны кран.
Кран той крадзеныя пліты
На паверхі падымаў.
Майстра выбітны элітны
Будаўніцтвам кіраваў.
А прараб знаёмы даў,
Разумеецца, рабсілу.

Нібы ў казцы, сабе вілу
Вараціла збудаваў.

*1993*

## Вярбоўшчыкі ў рабства

Часам з выглядам авечак
Сустракаюцца ваўкі...
Мяккіх душаў чалавечых
Ёсць у нас рабаўнікі.
Прыгажуняў не шкадуюць,
Запрашаюць за мяжу,
Завярбуюць — абрабуюць
Не кішэню, а душу.
Ім, дзядзькам і цёткам сытым,
Лёгка юных абдурыць.
Абяцаюць рай нібыта —
Рабствам прагнуць абдарыць.
Зграі тых дзядзькоў і цётак
З краю пушчаў і гаёў
Іх вязуць, нібы тых цёлак,
Да замежных бугаёў.
Варацілы спраў падпольных
Там здаюць за добры куш
Талерантных паднявольных
І зусім бяспраўных душ.

*2003*

## Паказуха

У ЖЭСах нашых на паперы
Бывае гладка найчасцей.
Паперы найпрасцей паверыць,
Ды варта справы ўсё ж праверыць,
Каб хітруны паўсюль без меры
Так не ашуквалі людзей.
О, ўсё яшчэ існуюць зухі
Карміць пладамі паказухі
Ці не любы кантроль!
Падман усякі дужа прыкры.
З такой нагоды просты прыклад,
Чытач, прывесці мне дазволь.
...Рамонт у доме касметычны
Час надышоў пачаць.
І вось у плоскасці практычнай
Пытанне сталі вырашаць.
Было прынятае рашэнне
Ў пад'ездах сцены фарбаваць,
А для яго ажыццяўлення
Майстрам адну каманду даць:
Каб толькі першыя паверхі
На выпадак якой праверкі
Скрозь выглядалі як свяжэй...
Даўно заўважана:
                    начальства
Не падымаецца вышэй.

*2000*

## Разумны конь

Каня-знаходку фурман мае,
Бо, калі ўдумацца, трымае
На свеце гэты конь яго,
Гаспадара свайго.
На ўвазе маецца, аднак,
Не сіла конская адна —
І нейкі нежывёльны розум,
Загадкавы, падобна, дар,
Калі ўлічыць, што нецвярозы
Бывае часта гаспадар.
Так, конскі гаспадар — не цаца:
Між працай гары каўтане
І надвячоркам, пасля працы,
Дадому едучы, засне.
Конь цягне фурмана дадому
Праз скрыжаванні, і масты,
І міліцэйскія пасты,
Як — Богу аднаму вядома...
Усе паблізу бачаць людзі,
Як да свайго жытла, двара
Прывозіць конь гаспадара,
Якога жонка доўга будзіць...
Дзівуецца народ, вядома,
Як цуд неверагодны стаўся,
Што бесталковаму такому
Разумны конь дастаўся.

*1993*

## Сама

Расце доня ў маці,
Шчырая пампушка.
Хоча памагаці,
З'ехаўшы з падушкі,
Прыбіраць у хаце.
— Дзякуй, — кажа маці, —
Я сама пакуль што
Спраўлюся, дачушка...

За гады нямала
Маці сіл паклала,
Стала ўжо слабая,
Хоць і не старая.
Думае нябога:
«Падрасла падмога!..»

Лынды б'е пампушка.
Клічуць мамы словы:
— Памажы, дачушка!
Ды адказ гатовы
Ў рагатухі нашай:
— Ты сама пакуль што
Справішся, мамаша!

*1990*

## Развітанне

У гаспадарцы у звычайнай
Аднойчы па пагодзе яснай
Пярун ударыў — і заўчасна
Адзін работнік адышоў навек.

Харошы быў ён чалавек,
Сумленна ён цягнуў свой «воз»...
Каля труны таварышы стаялі,
Прамовы пранікнёныя чыталі,
Іх напісалі цэлы стос.
Ну, прах, вядома, аддалі
Магіле, матухне-зямлі.
Пасля ў кафэ «Духмяныя малінкі»
Спраўлялі быццам бы памінкі,
Але на справе зладзілі банкет.
Як так, вы скажаце, дзе ж этыкет?!
Ён захаваўся б, можа, ды ў калгасе
Ўзялі замнога ў касе
(Усё афармілі як след —
Рабілі гэта вельмі проста).
Пілі бязбожна, прамаўлялі тосты;
І — дзе пад смех, а дзе й пад свіст
Салёныя пляліся анекдоты,
Маўляў, таму што не любіў сумоты
Нябожчык, быў ён аптыміст...

Замест маралі ў гэтай байцы
Сказаць пара:
Што ні бывала ў гаспадарцы,
Дзе не было гаспадара!..

*1985*

## Латарэя

Андрэя Летуна ў аддзеле бакалейным,
Калі яму давалі здачу,
Угаварылі ўзяць білецік латарэйны,

Як кажуць, у прыдачу.
Тры месяцы білет у пінжаку ў Андрэя
Ляжаў на дне кішэні, прызабыты.

Не думаў чалавек, што латарэя
Так выпадкова можа даць прыбытак:
Як па табліцы ён білет праверыў,
Ажно вачам уласным не паверыў:
Супала ўсё — і серыя, і нумар,
А выйгрыш — «Жыгулі», а-ёй, такая сума!
Не, не машыну ўзяў дзівак, а грошы,
Ды не таму, што меў ён апетыт харошы —
Не еў за тыя грошы і не піў,
Хоць бы на памяць што сабе купіў,
Дык не! Таму што не на жарт
Ён увайшоў ужо ў азарт, —
Прыкідка простая: калі
Яму ўдалося выйграць «Жыгулі»,
Тады, відаць, і шлях нядоўгі
Да пані «Волгі»...
Ішлі паціху зімы, леты,
І выпадковы наш герой
Увесь патраціў выйгрыш свой
На латарэйныя білеты.
А выйграў ён (што думаеце вы?),
Вядома, ад жылеткі рукавы.
Ды ў гэтай былі неблагі канец:
Хоць у даўгі не ўлез хлапец.

*1984*

# Як Тамаша язык падвёў

Была аказія такая:
У ціхай вёсцы Баравая
Ў галодны час дзядок Тамаш
Сабраўся зранку на кірмаш.
— Ты ж толькі не прагаварыся, —
Казала бабка Дамініся.
— Ну, за каго мяне прымаеш...
— Тады ідзі, нясі — што маеш.
Хто з чым на кірмашы, а ў Тамаша
Мясцо выглядвае з каша.
Тут мог бы толькі добры дока
Пазнаць забітага звярка.
А як звычайным кінуць вокам,
Дык чым не трусік у дзядка.
Ляжыць мясцо — як на выставе,
Мо чалавек глядзела сто,
А як купіць яго на справе,
Дык — трасца ў бокі — аніхто!
Хоць зрэдку й кажа дзед: «Бярэце,
Смачнейшае за марцыпан!..»
Нарэшце, клюнуў нейкі пан
У расфуфыраным берэце;
Ужо і злотыя шукае...
У дзеда — ластаўкай душа.
— Але ці свежае?! — пытае
Пан нечакана ў Тамаша.
— Панок, ці можа быць свяжэй:
Учора йшчэ лавіў мышэй!..

*1983*

# Драфа

Драфою, такою мянушкай кароткай,
Як рэдкую птушку, назвалі яе...
Ляжала гадоў пяць вясковая цётка,
Казала, што сілы ў яе не стае.
Бог даў дзве дачкі ёй без пэўнага мужа.
А выраслі донечкі ўвішныя дужа:
Старанна вялі гаспадарку яны,
У іх быў парадак і ў полі, і ў хаце,
Як след даглядалі ляжачую маці,
Ну, словам, спраўляліся ўсюды адны.
А маці здалося жыццё сваё сумным,
Лічыла яна сябе надта разумнай,
Але не прыходзіла думка раней,
А тут ёй знянацку ўжо так закарцела
Прыкінуцца мёртвай: уведаць хацела,
Якая дачка будзе плакаць гучней...
Задумана — зроблена: з раніцы самай
Дачушак дваіх непаўторная мама
Ўзяла й склала рукі на ўлонні грудзей...
Прачнуліся дочкі пасля цёмнай ночкі —
І роднае мамы злякаліся дочкі
Ды йшлі дапамогі прасіць у людзей.
Зайшлі да Параскі-суседкі спачатку...
— Ды што вы такое сказалі, дзяўчаткі!
Ды не, не магла ваша маці сканаць! —
Сказала Параска і рынула смела
У хату Драфы, там усё зразумела:
— Ты што, з глузду з'ехала ўжо, ачумела?!
Ну ты і артыстка!.. Ну ты й сатана!..
І венікам добра яе адхвастала,

І тая імгненна ўваскрэсла і ўстала,
Ўсё стала рабіць ад відна да цямна.
Дачок мілых замуж павыдавала.
З Параскай да скону Драфа сябравала.
Свой век дажывала прыстойна яна.

*2003*

## У страшна сярэдняй школе

З твару зялёна-бледны
Хлопчык загнаны Коля
Жыліцца — вучыцца, бедны,
Ў страшна сярэдняй школе.

У школьніка высокі ціск.
— Філоніш, ой філоніш!..
У хлопчыка нервовы цік.
— Упусціш — не дагоніш!..

Веды ўсё, веды з Колі,
Як пыл з дывана, выбіваюць,
А пра здароўе нікольki
Хлопчыкава не дбаюць.

Нарэшце хлапчынка бедны
Заняткі свае прапускае,
Зялёна-блакітна-бледны,
Ён знахарку ўжо шукае...

*2000*

## Абяцанка-цацанка

Радыё агітавала,
Дывідэнды абяцала —
І ў чаргу кабета стала,
Каб у касе грошы зняць,
На паперы абмяняць.
Цётка акцыі купіла,
Ёй праз год далі на мыла;
Каб мазгамі варушыць,
З мылам варта іх прамыць.

*2001*

## Балельшчыкі

Каманды паразу экран паказаў —
Балельшчык адразу адрэагаваў:
Схапіў тэлевізар, пабег на балкон,
З палёгкай вялікай уніз кінуў ён!

А ўнізе стаяў і курыў чалавек,
Бяды не жадаў ён сваёй галаве.
Між тым на яе і прыйшоўся удар —
Хіснуўся і ўпаў той нявінны жыхар.

Але пацярпелы ўсё ж крыўды не меў,
Бо й сам быў балельшчык, — усё зразумеў...
Хоць ён пасля ўдару пачаў паміраць,
Сказаў, што балельшчыка нельга караць.

*2001*

## Апярэдзіў свята

Нябога заўтрашняе свята
Сустрэў далей ад роднай хаты.
Сустрэў, вядома, не адзін —
Сяброў было даволі многа,
Былі кавярня, магазін,
Пасля ў калдобінах дарога,
Былі завулкі і вуглы,
За плотам быў сабака злы.
Пазней не стала ні душы,
Стаяла ліпка пры шашы.
Зялёненькую, маладую
Нябога моцненька абняў,
І за каго яе прыняў,
Калі шаптаў ён: «Расцалую!
Цябе... адной... мне не стае!..»

Так і прачнуўся ля яе.

*1972*

## Мірнае суіснаванне

Жыццё ў адной сям'і без сваркі
Было — што баль без горкай чаркі.
Раслі сутычкі з кожным годам.
Спачатку муж гразіў разводам,
Ну а затым, наадварот,
Гразіла жонка ўзяць развод...
А пажылі яшчэ нямнога —
Не стала страшна ім нічога.
Калі пасварацца — маўчаць,

Бывае — дзень, бывае — пяць.
І успрымаецца маўчанне
Як мірнае суіснаванне.

*1972*

## Няроўны падзел

Гаварыла жонка мужу:
— Пасадзіла Натка ружу,
Гэта бачыш ты ці не?
Ай, дачка! Уся — па мне...
Жонка мужу гаварыла:
— Не, ты толькі глянь, Гаўрыла, —
Гузічак прышыла Натка,
То ж мая ў дачушкі хватка.
Гаварыла жонка мужу:
— Зноў Алеська ўлез у лужу.
Ты сыночка пазнаеш:
Крошкі ўсе пабраў тваё ж!..

*1972*

## Знікненне жаніха

Быў Янка рад невыпадкова:
Сімпатыю знайшоў у прадуктовым...
Хадзіў, глядзеў, як кот на сала:
— Хачу, каб жонкай ты мне стала...
І пачалі яны гуляць,
Спаць разам, віны смакаваць,
А калі грошай бракавала,
З народнай касы дзеўка брала.

Здавалася, што маладыя скора
Пажэняцца. Але ж на гора
Пачаўся ў магазіне пералік —
І Янка... знік!

*1972*

## Буркун

Кузьма Бурчалкін кожны дзень
На нешта наракае,
Бо нездаволенасць, бы цень,
Яго не пакідае.

Ідзе праз вуліцу — бурчыць
На транспарт ён заўсёды.
Калі ж таксі яго імчыць,
Бурчыць на пешаходаў.

Сям'я спакою не дае:
То раздражняе жонка,
То гучны голас падае
Яго дзіця ў пялёнках.

Бурчыць ён шмат на што яшчэ,
Бурчыць Кузьма бясконца.
Ну, скажам, сонца прыпячэ —
Аблае само сонца.

Няма ратунку. Што рабіць?
Разважылі ў народзе:
— Ну, як з такою цацай быць?
У заапарк, дый годзе!

*1972*

## Аптыміст і песіміст

Здаровы хворага наведаў:
— Ну, брат, расказвай, як жывеш.
— Жыву, нядаўна паабедаў.
Што тут — палежвай, пі ды еш.
Ні табе клопату, ні працы,
І толькі воўчы апетыт…
— А смачна кормяць?
— Смачна, браце.
Я тут як пан. А як жа ты?

— І не пытай: жыццё — пакуты.
Хвароба нешта лезе ў бок.
У нашай хаце — холад люты.
Мой школьнік двойку прывалок.
У крыўдзе ведзьма — хмурыць бровы,
Не кліча нават на абед…

Наведаў хворага здаровы
З вялізнай торбай розных бед.

*1972*

## Рэўнасць

— Хочаш, — азалачу!
Будзь толькі мне адданы.
— Золата я не хачу, —
Ёй адказаў каханы.

— Што ж гэта я гавару,
Мілы?!

Хочаш, табе падару
Крылы?

Сэрца не чуеш майго,
Мілы, не будзь упарты...
І акрыліла яго
(Быў ён, напэўна, варты)...

Сочыць яна, глядзіць,
Дзе яе верны, абраны.
«Надта ж высока ляціць!..»
Вось ёй ужо і карціць
Крылы падкараціць,
Каб жа не ўцёк каханы.

Толькі вярнуўся:
— Чакай, —
Кажа яна з імпэтам, —
Мне справаздачу давай,
Як жа кахаеш мяне ты.

— Хіба не ведаеш, о дарагая,
Моцна цябе я кахаю.

— Можна падумаць, нельга мацней!
Можна падумаць, кахаеш!
З кім жа тады без мяне
Ты гэтак доўга бываеш?!

Шчасця няма юнаку,
Штосьці закоўвае сілы,
Хоць ты прапі у шынку
Падараваныя крылы...

*1977*

## Паварот

У аўтобусе поруч — дзяўчына адна.
«Прыгажуня!.. Хаця б не паспела сысці...
Як жа мне даспадобы яна!
Закрануць? Не хапае смеласці.

Ну а тут, як на зло, пазірае народ,
Як на зло, тут прамая вуліца...
Гэй, шафёр, дай круты паварот —
І красуня сама прытуліцца!

*1963*

## Аднойчы летам навальнічным

Я так спяшаўся на цягнік,
Так не хацеў спазніцца
(Нідзе спазняцца не прывык),
І раптам — навальніца.

І раптам:
                    — Мілы, пачакай,
Пабудзь са мною дома,
Малю, адну не пакідай —
Я ж так баюся грому!

— Ды перастань ты, не жартуй.
Яна ж ка мне з маленнем:
— Не пакідай, ну пашкадуй,
Ну... стану на калені.

«Мо чуе нейкую бяду
Жыцця майго сяброўка?»

І на цягнік я не іду —
Гарыць камандзіроўка...

А потым гладка ўсё пайшло:
Прывык спазняцца гэтак,
Бо навальнічным, як на зло,
Было ўсё тое лета.

Схапіў вымову. Знік настрой,
І не сказаць нікому,
Што больш, чым жонка, я парой
Пачаў баяцца грому.

*1964*

## Тры сустрэчы

І хадою, і станам, і тварам
Хлопцу ў сэрца запала яна,
Пра такую, здалося, і марыў,
У юначых сваіх бачыў снах.

А калі пры першай сустрэчы
Прыглядаўся, глядзеў на яе,
То заўважыў (так недарэчы!):
Косы ў дзеўчыны не свае.

А назаўтра, пры стрэчы новай,
Сутыкнуўся ён з фактам такім:
У яе намалёваны бровы,
Не свае пад вачмі сінякі...

Болей з ёй не жадае сустрэчы,
За вярсту абыходзіць яе,

Бо заўважыў у трэці вечар,
Што і думкі ў яе не свае.

*1965*

## Перад футбольным матчам

Прэ цераз вуліцу натоўп
Нястрыманым патокам.
А святлафор на той паток
Глядзіць чырвоным вокам.

І не адзін раве матор,
Мотораў рух няkволы.

Бяжыць натоўп на святлафор,
Натоўп ляціць на колы.

Знаёмы раптам бачу твар,
Увесь заліты потам.
— Паслухай, ты не на пажар?
Скажы мне, дружа, што там?

Штось буркнуў ды пабег і ён,
Таварышок мой школьны.
Аж чую: грымнуў стадыён.
Ну, ясна: матч футбольны...

Прымі, вадзіцель, мой наказ
(Табе я зычу ўдачы):
Правер, брат, тормаз лішні раз
Перад футбольным матчам.

*1972*

## Пра кансультанта-гумарыста і літаратара-аматара

Літкансультанту літаратар
Рашуча вершы паказаў.
Той бачыць — перад ім аматар,
Прабег вачыма і сказаў:
— У творах думкі малавата,
Затое шмат у іх вады...
І развітаўся вінавата
З ім літаратар малады.
Ён супакоіўся не скора,
Бязлітасны быў да сябе:
Вада з яго няспелых твораў
Заззяла потам на ілбе...
Цяпер ён вершы зухавата
Падаў:
          — Ну, як? Вады няма?
— Няма ні кроплі. А дарма!
Што толку з вершаў сухаватых?!

*1972*

## Клікаў бацька сына ў госці...

1

Піша бацька ў горад сыну:
«Стала сумнаю хаціна,
Не знаходжу месца штосьці.
Прыязджай, сынок, у госці...»

«Разаб'юся ў дошку, баця, —
Хутка буду ў роднай хаце.
Толькі ты да той пары
Мне грыбочкаў набяры».

*2*

Набліжаецца світанне.
Вёска ўся яшчэ ў тумане.
Ды не спіць Кузьма стары:
Думкі ўсе яго ў бары.

Апранаецца, выходзіць,
Ровар ціхенька выводзіць,
Кош прывязвае як след,
І — ужо ў дарозе дзед.

Каму дзед, а каму дзядзька,
Ды найпершым чынам — бацька.
А для роднага дзіцяці
Ўзяў бы ў птушак малака...

Цісне бацька на педалі.
Лес яшчэ здаецца далей,
Бо сцяжыначка віхляе,
Як ліса хвастом, віляе.

Вось нарэшце бор жаданы,
Чысты, быццам бы прыбраны.
Лоб Кузьма рукой працёр
І ўвайшоў у ціхі бор.

Азірнуўся на дарогу
І сказаў:
— Ну, дзякуй Богу...

У грыбны пайшоў раён.
І вось тут падумаў ён,
Што, бадай, яму, старэчу,
У грыбы было б дарэчы
Тэхнікай пад'ехаць той —
Сынаваю легкавой...

3

Ранак выдаўся грыбны,
Бы на нейкае ўжо дзіва:
Праз якія тры сасны
Важна грыб сядзіць праўдзівы.

Ззяе бацькава душа:
Назбіраў ён з паўкаша
Хараства-дабра такога!
Ды стаміўся ён, нябога.

Да асінкі трапяткой
Прыбачэніў ровар свой.
А каб як не заблудзіць,
Паўз дарогу стаў хадзіць.

Але мілы верасок
Непрыкметна звёў убок.
Тут стары і заблудзіўся,
Заблудзіўся — захадзіўся.

Кошык стаў цяжэннай ношай,
І паставіў ён свой кошык,
Каб лягчэй было ісці,
Ровар каб хутчэй знайсці.

Ды адной няўдачы мала —
І другая напаткала:
Кошыка ўжо не відно,
Ў галаве шуміць ажно.

Ад хады і ад турботы
Ён сыходзіць сёмым потам.
Толькі ўсё дарма, дарма:
Ані колаў тых няма,
Ні каша, ані грыбоў,
Не вяртайся хоць дамоў.

4

Крыўдай, стомаю прыгнуты,
Выйшаў з лесу наш дзядок.
Ад вялікае пакуты
Аж не ў той падаўся бок.

Шчасце, што шафёр знаёмы
Напаткаў яго тады,
Даказаў, нібы малому,
Што дадому — не туды.

5

Лёг стары зусім разбіты:
«Ну й дзянёчак, а згары ты!»...

6

...Піша сын да бацькі зноў:
«...Не турбуйся — я здароў.
Не прыехаў, карацей:

Сустракаў тады гасцей.
Баця, ты грыбы ў сталіцу
Перадай праз праваднiцу».

*1980*

## Наравістая кабета

Не Бог, а чорт задумаў справу,
Паслаў кабеце — от праява! —
Ад розных мужыкоў аж трох дачок
(Яна свайго не мела мужа,
Але сынка хацела дужа...)
Яшчэ з'явіўся і сынок!
Вось дочкі падраслі,
у хаце
Нібыта пышны сад расцвіў,
І кавалераў дочкам маці
Шукала, каб былі зяці.
Паклапацілася, бо мама ж,
Бо мела горкі свой урок... —
Павыдавала рана замуж
Усіх яна сваіх дачок.
Жыві ды радуйся на дзетак,
А помач трэба — памажы
Рукамі, ласкаю. Ды дзе там —
Зяці ўжо не даюць ёй жыць:
Здаецца, ў першае — п'янчук,
Сярэднюю запрог лайдак,
А ў меншай?.. Нейкі ён маўчун.
Усё не гэтак ды не так...
Хай Бог ратуе лёс жаночы,
Куды яе глядзелі вочы!..

А тут пайшлі паціху ўнукі,
Ад іх не ныюць цешчы рукі,
А ныюць сэрца і пячонка,
Яе не радуе жыццё:
Унукі ўсе яшчэ ў пялёнках,
А ўжо й падобны на зяцёў.
Адзін шмат патрабуе піць,
Другі занадта многа спіць,
А трэці... трэці ўсё маўчыць.
Між тым ідуць за летам лета,
Свякрухай робіцца кабета:
Прыйшла нявестка ў хату да яе.
Рухавая, прыгожая,
Не курыць і не п'е,
Вясёлая, не шкодніца,
Душой да мужа горнецца,
Не сварыцца — пяе.
Жыві ды радуйся, свякруха,
Ды дзе вы бачылі! Яе
Зноў фанабэрыя дзяўбе —
Нявестку заганяе ў скруху:
— Муж не раўня табе!
— Та-ак, — кажуць людзі, — не раўня:
Як набярэцца дзе пад плотам,
То ў хату прыйдзе — што свіння...
Смяюцца людзі з абармота.
А мацеры хваліць ахвота:
— Хоць п'е, ды за свае, бо зарабляе,
А галавы ніколі не губляе...
На складзе што б рабіў без галавы...
Зайздроснікі, эх вы!..

Хоць і шырэй пытанне ўзяць,
Убачым гэткую карціну,
Што горшыя нявестка й зяць
Звычайна за дачку і сына.
Ну а найлепшыя мы самі:
Хоць у крыві і чорт сядзіць
І ўся душа скрыпіць грахамі,
Ды любім некага судзіць.

*1980*

## З аглядкай

Кумір для Хведара — Ягор.
Відаць, ажно да скону
Маліцца будзе на яго,
Нібыта на ікону..

...На сходзе «супраць» хто, хто — «за»,
А Хведар азіраецца:
Ягор яму не падказаў,
Ну як з ім не параіцца?

...Шуміць застолле, трэба тост.
Тост Хведараў чакаецца,
А Хведар зноў падціснуў хвост,
Бо не паспеў параіцца.

...Даць трэба раз на ўсё жыццё
Свайму дзіцяці імя.
Мужчына з рабскім пачуццём
Мазгамі думае чужымі.

Выснова з верша — не сакрэт:
Ідзі дарогай яснай,
Цані чужы аўтарытэт,
Не забывай на ўласны.

*1980*

## Савось, Антось і Апанас

Гаворыць да Антося Апанас:
— Быў толькі што ў Савося, ён такое
Нёс, братка, на цябе ліхое!..
Між іншым, і не першы раз.
Антось гаркава зморшчыў лоб:
— Чаму ж ён мне не скажа ў вочы?
Будзь ласкаў, папытай, чаго ён хоча.
Ды Апанас, да звады ўсякае ахвочы,
Ужо Савосю на Антося нёс паклёп:
— Савоська, братачка, Антося бачыў,
Ты б толькі чуў, як лаяў ён цябе!
За што, не ведаю, няйначай,
Ты з ім у нейкай у цяжбе.
Савось задумаўся: «Ну за якія
Грахі такія
Мог на мяне пакрыўдзіцца Антось?»
Пачаў прыгадваць ён, і вось
Апоўначы як быццам прыгадаў:
Антосю закурыць аднойчы ён не даў...
«Ах, дробная душа, ах ты, паганец!
Знайшоў завошта злобу затаіць!» —
Запальчывы Савось Антося ганіць,
Як кажуць, на чым свет стаіць...

Не сустракаюцца цяпер Савось з Антосем,
Як ворагі, не размаўляюць нат.
Затое Апанас бясконца рад:
Касу на камень навясці ўдалося.

Зусім няблага, калі ў вас
Мой не прыжыўся Апанас.
Горш там, сябры, дзе часам
Заводзім шашні з Апанасам.

*1980*

## Тыпус грандыёзус браканьерус

Гіне рыба, гіне звер
Ад абжораў прагных гэткіх,
А бывае браканьер
І без стрэльбы, і без сеткі...
Ідучы з сякерай, ён
Разважае так прыблізна:
«Лес пілуецца здавён,
Лес сякуць, а ён — вялізны.
Лес адвечны, лес багаты,
Не збяднее, як адну
Елачку я пацягну
Раз у год сабе пад свята».
І калі ідзе вясна,
Браканьер — лясам пагроза:
Ад яго ўжо не адна
Плача белая бяроза.
Ён насечак насячэ
І ўпіваецца, як п'яўка.
Ручаямі сок цячэ

Па яго тупых заяўках.
Нам яго злоўчынкі ўсе
Не злічыць, не змераць.
Флоры шкоду прынясе
Нават без сякеры.
Знойдзе ў шчодрым лесе грыб —
Выдзера з грыбніцай.
А як толькі у бары
Выспеюць чарніцы —
Бы граблямі, праграбе
Ягаднік ён хрумсткі,
Абы выгадна сабе:
«Пасля нас — хоць пусткі».
Не яму — турбот цяжар,
Не яму — трывогі.
Ён агарак у гушчар
Шпурляне з дарогі.
Не яму баліць, калі
У агні і ў дыме
Гінуць на сівой зямлі
Дрэўцы маладымі.
Лёгка галаве тупой
Існаваць давеку.
Цяжка бачыць, Божа мой,
Звера ў чалавеку.

*1970*

## Пасля перагрузкі

Хоць не штангіст ён, не шахцёр.
Ды цяжкае ў яго жыццё:
Нясе нагрузак ён цяжар,
Душа гарыць і ў целе жар,
І сэрца ные заадно,
І галава трашчыць ажно,
Яму і млосна, сам ён бледны
І пахмяліцца прагне, бедны...
Дадаць павінен тут яшчэ:
Прасцей адмовіцца, лягчэй
Ад першай, чым ад пятай,
Ад горкае праклятай.

*1985*

## Прымакова шчасце

Я жаніўся, я зрабіўся прымаком.
І прыгожы, і прасторны жончын дом.
Ад сяброў я часта чую: «Ты — круты!».
Я прымак — я прадпрымальнік малады.

Я свой поспех абмываю дзень за днём —
З прахалодай сустракае жончын дом...
Трэба цешчы мне харошай дагадзіць —
Зарабіць паболей грошай, кінуць піць!

Тут вяртаецца з-за мора цесць дамоў,
Жыць было без жонкі — гора там яму.
Кажа: «Вып’ем, каб любілі нас жанкі!
Тут абодва мы з табою прымакі...»

Усміхаецца мне ясна новы дзень.
З любаю ўсё як па маслу ў нас ідзе.
Удвая мне добра, мужу і зяцьку.
Не кажыце, што нялёгка прымаку!

*2011*

## Скупому навука

Жыў-быў адзін калісьці багацей,
Не апісаць пяром яго багацця,
Не абысці было за цэлы дзень
Яго палёў, лясоў ды сенажацяў.
А парабкам паесці шкадаваў,
Ён раз на дзень
Карміў людзей,
Дый ежы з камарыны нос даваў.
...Разгар касавіцы, і многа
Яму трэба сена скасіць,
Наняць жа не можа нікога,
Нікога не можа ўпрасіць.
«Народ стаў разбэшчаны нейкі:
Не хоча і свежай капейкі...
Ці бачыць усё гэта Бог?..»
Тут раптам — цыган на парог.
Адразу яны між сабою
Дамовіліся пра цану.
Прыслуга перад касьбою
Сняданак нясе цыгану:
Грам бульбы, паўграма капусты,
Квасок на стале ды алей.
Цыган паглядзеў: «Эй, не густа
Прадуктаў на панскім стале!»

— На гэткіх харчах я наўрад ці
Як след памахаю касой,
Хачу паскароміцца, баця,
Сялянскаю каўбасой.
— Дык, можа, каб часу не траціць,
Абедай ужо заадно.
— Хай будзе па-твойму, баця,
Няхай будзе гэтак яно.
Ужо на стале і каўбаска,
А сонца глядзіць у акно...
Пан мовіць:
— А ты, калі ласка,
Вячэрай ужо заадно...
— Хоць пан эканомны праз меру,
Тут ёсць закавыка адна:
Вячэра яшчэ не вячэра
Без кубка віна ў цыгана.
— Каб доўга не ведаў ён зморы,
Каб сена усё пакасіў,
Прыслуга, пайдзі ты ў камору,
Кагору яму прынясі.
Цыган пастараўся, вядома, —
Ўсё чыста і выпіў, і з'еў.
— Ну дзякую гэтаму дому
За ўсё, чым ён госця сустрэў, —
Сказаў ён, і рыпнулі дзверы.
— Куды ж ты? Хто ж будзе касіць?!
— Пасля адпаведнай вячэры
Цыган не працуе, а спіць.

*1984*

## З гразі — у князі…

Мясіў пад Пінскам, кажаш, гразь,
Удзельны самазваны князь.

З гразі балотнай вылез ты.
Ну а ці многа толку ў тым?!

Успамінай паціху гразь.
А на трыбуну не вылазь!..

*1989*

## Хто вінаваты?..

*Светлай памяці В. А. Аўсюковай*

— Ляксандра, галубка! Няма ў мяне дроў,
Ці можаш мне трошкі пазычыць рублёў?
З авансу аддам я, Бог сведка, —
Ласкава прасіла суседка.
— Я чула, даўгоў у цябе ўжо нямала!
— Ды я хіба слова калі не стрымала?
— Не ўтою, суседка, што грошы я маю,
Збіраюся ў горад завезці,
Хачу там ашчадную кніжку завесці,
Да круглае сумы крыху не хапае…
Каб ведаць, хто грошы так проста трымае,
Пазычыла б трохі ў яго і сама я.
Быў вечар. На тым разышліся кабеткі.
А ранкам Ляксандра бяжыць да суседкі,
Трасецца-калоціцца ўся — проста жах,
Пакунак пасечаны нейкі ў руках.
— Няшчасная я! — і пакункам трасе, —
Вось грошы мае!.. Мышы струшчылі ўсе!

Таму што ўсё ты, гэта ты вінавата:
Чаму не сказала, што стала пузатай?!
Цяжарным жа нельга ні ў чым адмаўляць!..
— Цікава, і з кім я магла нагуляць?..
— Падумаеш, хочаш сказаць, удава ты!..
Суседка Ляксандру не выгнала з хаты,
Хоць тая, у прымхі паверыўшы, ёй
Віну прыпісала ў няўдачы сваёй,
Пры гэтым зняважыць так лёгка пасмела.
Ды з глупства суседка смяяцца умела
І тут пасмяялася трошку:
— Ты знаеш, Ляксандра, ты ледзь не ўгадала:
Цяжарнаю стала не я — мая кошка.
— Вось, вось! Я ката свайго з ёю застала!..
Ён знюхаўся з кошкай тваёй нехарошай —
І мышы тым часам патрушчылі грошы!
— Пры чым жа тут я?
— Не ты вінавата, дык кошка твая!

*1984*

## Жаніхі

*Дзявочае прызнанне*

Сватаўся рыбак аднойчы.
Пакахала б рыбака,
Толькі ж ён і ўдзень, і ўночы
З вудаю ў руках.
І ў размовах жаніховых
Толькі рыбка і рака...
Не чакаю больш нічога
Я ад рыбака.

Заляцаўся паляўнічы,
Знік пасля на сорак дзён.
Кажа, ў лесе прападае
Пастаянна ён.
І ні слова пра каханне
На спатканні зноў —
Толькі ўсё пра паляванне
На лясных звяроў.

Напаткала эрудыта.
Апетыт прапаў і сон:
Над камп'ютарамі чахне
Днём і ноччу ён;
Засынае кандыдат мой
Над маштабнасцю задач;
Зразумець, на што ён здатны,
Не магу, хоць плач.

Што рабіць, я разважаю.
Лепш адной мне сумаваць.
Жаніхоў не запрашаю
І на тое не зважаю,
Што няма каго кахаць.

*1994*

## Дзіва дзіўнае

Трапіў дзед у санаторый,
Не пытайцеся, ў каторы,
Гэтак проста адкажу:
Дзед не з'ездзіў за мяжу,
Ён знайшоў у нашых межах
Адпачынак з добрай ежай

І з паветрам чыстым, свежым.
Але ж як там адпачыць,
Калі добрыя харчы
Сон забралі уначы!
Сілы неяк па-юнацку
Абудзіліся знянацку.
Ноччу круціцца стары,
Так не спіцца, хоць памры!
А назаўтра, нібы лодка,
Праплыла прад ім малодка.
Дзед на лавачцы сядзеў
І нядоўга ўслед глядзеў —
Зухавата падхапіўся,
Наўздагон за ёй пусціўся.
Пазнаёміўся адно —
І паклікаў піць віно.
Дзіва дзіўнае, што з ходу
Прыгажуня дала згоду
І ў пакой яго прыйшла,
З ім чырвонае піла.
Дзеду з мілаю малодкай
Весела было й салодка...
Маладосць успомніў ён!..
Потым быў салодкі сон.
Ды шкада: пенсіянер
Трапіў хутка ў дыспансер,
Не пытайцеся, ў які.
Смеху варта, мужыкі!

## Святочная прыгода

Сустрэў «дэгустатар» з сям'ёй Новы год,
А быў ён аматар вясёлых прыгод.
Пасля неслабога застолля свайго
Да сябра яшчэ пацягнула яго.

Там лішку кілішкаў начны госць кульнуў,
Падаўся дадому, ды не дацягнуў.
На снег паваліўся, на снезе сядзіць,
Нібы развучыўся, гаротнік, хадзіць.

Прахожы нябогу руку падае,
З такою падмогай сядзячы ўстае.
Два крокі наперад, тры крокі назад,
Нібы ён у нерат папаў акурат.

Убачыла жонка «карціну» з акна —
З'явілася мігам ля мужа яна.
Пачысціла перад ад снегу і зад,
Сказала: «Наперад! Ні кроку назад!»

Прыгодзе святочнай на тым быў канец.
Дамоў зорнай ноччу прыйшоў маладзец.

Шанцуе, вядома, такім малайцам,
Калі дама дома — зусім не аўца.

*1991*

## Зануда і лекар

У горадзе вялізным
Свой пражывае век
Дакучлівы, капрызны

Зануда-чалавек.
Хай болька хоць якая —
Ужо ляжыць пластом,
Ляжыць і выклікае
Ён доктара на дом.
Спяшае бедны лекар,
Бяскрыўдны дабрадзей,
Хутчэй бы чалавеку
Дапамагчы ў бядзе!
А там зусім не кволы,
А гладкі чалавек,
Але на скаргі хворы,
Іх процьма ў галаве.
Ён скардзіцца, што сохне,
І плача, што «памрэць»!
Паслухаць, як ён стогне, —
Самому захварэць...
А зараз не да смеху —
Мо гэта чулі вы:
Загнуўся бедны лекар.
А «хворанькі» — жывы!

*2002*

## Жывучая

Лішняя ты, нібы скула,
Стойкая ты, як скала
Лоўкая, нібы акула,
Ліпкая, быццам смала;
З'ява ты не лакальная,
Сіла праклятая,

Непатапляльная
Ты, БЮРАКРАТЫЯ!

*2005*

## Ціхі бунт

Брат казаў, а я не верыў,
Што, падобна бульбе з салам,
У сяле парой праз меру
Спажываюць серыялы.

Абы цітры на экране —
Адусюль бягуць міране:
З поля, з лугу, з фермы, з крамы,
Некаторыя — і з храма...

Як не ўцяміць: вірус гэты
Стаў і ў горадзе жывучы,
Заразіў маю кабету,
Чым мяне зусім замучыў!

Аднаго ёй фільма мала
(А бяздарных — колькі хочаш) —
Усе запар серыялы
Праглядае аж да ночы.

Як наркотык, тэлевізар,
Што бясконца балабоніць;
Хоць заўсёды я паблізу,
Са мной жонка не гамоніць.

Я галублю, абнімаю
(Ды што ёй жывы мужчына...) —

Скардзіцца, што замінаю,
Парушаю адпачынак...

Я не кволы, я не хворы!
Бяру ў краме пляшку з гора
І з настроем заліхвацкім —
Да сяброўкі год юнацкіх.

Абшчаперыла, нябога,
Радуецца ад сустрэчы!
Думаю: «Ну дзякуй Богу,
Правяду хоць з ёю вечар;

Як з сяброўкаю пабуду —
Гора горкае забуду».
Узялі з ёй па кілішку,
Закусілі крыху-крышку —

І ў куток мая сяброўка
Шуснула, як мышка, лоўка
Ды (ратуй нас, Божа мілы!)
Серыял яна ўключыла.

Што рабіць? Як вінаваты,
Я — за шапку й ходу з хаты!..
Ратавацца цяжка стала
Ад бяздарных серыялаў.

*2005*

## Дзед і ўнук

Не важна, дзе унук і дзед
Жывуць на белым свеце.
Дзед пехатой паўсюль ідзе,

А ўнук на «Джыпе» едзе.
Дзед мае звычку працаваць,
З людзьмі гамонку весці,
А ўнучак — лішніцу паспаць
І цераз край паесці.
Дзед любіць сад і агарод,
Бабулі дагаджае.
Унук пускае карты ў ход —
На грошыкі гуляе.
Дзед на даўгім сваім вяку
Не знаў ніякіх лекаў —
З «маржамі» ходзіць на раку,
Ўнук ездзіць па аптэках.

*1999*

## Горкая навука

Мірон — адразу скажам —
Зладзюга быў са стажам,
Калі захамутаў Хаму.
Спачатку планы вылажыў яму
(«Пра гэта, — папярэдзіў, — ні гу-гу!»).
Хама сказаў:
— Я красці не змагу.
— Дзівак!
Не будзеш красці — дзверы патрымаеш,
А долю роўную са мною атрымаеш.
Вось так.
Угаварыў яго ён проста вельмі
І з ім авечку ўкраў на ферме.
Браў ён, Мірон,
Хаме даверыў толькі дзверы.

Затое абдзяліў Мірон Хаму:
Сабе ўзяў тушку, ножкі даў яму
— Не зарабіў ты, — кажа, — болей.
Ды вось Мірона сцапалі, накрылі,
Ён апусціў, няшчасны, крылы,
Чакае злодзея няволя,
Турма.
— Са мной, — ён кажа, — быў Хама.
Знайшлі Хаму. Сядзіць і ён пад вартай.
— Пусціце, — кажа, — што за жарты?
Я ж толькі дзверы патрымаў,
Я ж толькі ножкі атрымаў.
Ці даравалі на судзе Хаму?
Як і Мірон, ён трапіў у турму.

Хама і лёс ягоны
Нам кажуць: каб без гора жыць,
Не слухай розных там міронаў —
Сваім сумленнем даражы.

*1984*

## Сумная гісторыя

Калісьці на фарфоравым заводзе
Дырэктарам стаў злодзей;
Па густу кадры падабраў:
Ён ля народнага дабра
Паставіў свата-тарбахвата
І швагра, жончынага брата,
Што ўмее красці зухавата,
Яшчэ і братаву дачку,
Нячыстую таксама на руку,

Яе, канешне, мужа, гэты муж
Звівацца ўмее, нібы вуж.
З тае пары пайшлі у бок адзін
І ўлік, і збыт, і транспарт, і бензін...
У злодзея надзённыя турботы
Сыходзіліся ў плоскасці адной:
Ён несуноў лавіў на прахадной,
Сабе ж дабро вывозіў праз вароты.
Тым, хто ахоўвае закон,
Ішлі трывожныя сігналы,
Але у шуме-тлуме дзён
Яны глушыліся памалу:
Пагоду ладзілі падпольныя сервізы —
Прыемныя сюрпрызы...
Народ вышэй пісаць пачаў,
А там, вышэй, усе маўчалі:
Там казнакрада-лаўкача
На цёплую пасаду прызначалі.
(І там сядзелі лоўкія дзялкі, —
Відаць, быў час такі...)
Народ пісаў яшчэ вышэй,
Адтуль усе лісты спускалі
Ніжэй, ніжэй, яшчэ ніжэй
І ўрэшце казнакраду аддавалі...
Змяніўся час, і ўстаў рабочы,
Сказаў на сходзе праўду ў вочы.
За тое тры вымовы мае,
Ужо і зменам ён не рад...
Ці па заслугах атрымае
Непераможны казнакрад?

*1996*

## Пераўвасабленне

Ну, трэба ж гэтак навучыцца
Аблічча ўласнае мяняць:
З авечкі можна стаць ваўчыцай,
З ваўчыцы зноў авечкай стаць!..
Тут не сакрэту будзе ўцечка,
Адной начальніцы сюрпрыз:
Глядзіць уверх яна авечкай,
Але ваўчыцай — зверху ўніз...

*1996*

## Італійская прыпавесць

Жыў багацей (дабро ракою
Лілося), меў ён — што хацеў,
Адно не меў нідзе спакою,
Бо прыгажуню жонку меў.
З бязмежнай рэўнасцю сваёю
Не мог ён справіцца ніяк
І ўрэшце, неразлучны з ёю,
Аслеп на вочы, небарак.

Цяпер ад жоначкі увішнай
Не адыходзіць ні на крок,
А тут, як кажуць, трэці лішні
З'яўляецца, нібы знарок...

Жанчына ў сад адвесці душу
Ідзе, а следам — верны муж.
Яна і кажа:
                    — З лепшай грушы
Пакаштаваць хачу я груш.

— Ты загадай — і за хвіліну
Даставяць слугі, ці ж не так?
— Не, я сама дастаць павінна,
Іначай будзе не той смак.

Сляпы паверыў жонцы гожай,
На дрэва ўзлезці ёй памог
І ствол абняў ён, каб — крый божа! —
Ўзабрацца чорт які не змог.

Тым часам жонка панацэю
Прымала — груш гарачы град
Лупіў сляпога багацея,
Аж закрычаў ён на ўвесь сад:
— Злазь, хопіць груш!
— Не, — кажа жонка, —
Пладоў жаданых я хачу
Дастаць з галінкі самай тонкай...
Яе хлусню Пятро пачуў.

Узяў святы за локаць Бога:
— Бог, дай распусніцы урок:
Ты ад яе пазбаў сляпога,
Вярні няшчаснаму ты зрок.
І Бог сказаў Пятру святому:
— Глядзі, я зрок вярну сляпому,
Але сухенькаю з вады
Жанчына выйдзе, як заўжды.

Калі сляпы знячэўку ўбачыў
Усё як ёсць на дрэве тым,
Успыхнуў гневам ён гарачым:
— Як здрадзіць мне пасмела ты?!

А жонка мовіла суцешна:
— Раўніўчык мой, не будзь тупым!
Каб засталася я бязгрэшнай,
Да смерці быў бы ты сляпым.

*1994*

## Сляпая любоў

Рос сынок у мамачкі,
Меў на шчочках ямачкі,
Носік меў курносенькі,
Мяккія валосікі;
Мамачка дзівілася:
Сонейка ўрадзілася,
Урадзіўся месячык —
Шчасцейка Алесічак.

Быў ён самы блізенькі,
Стаў расці капрызненькі.
Стала «гнаць» матулечка
Рублікі сынулечку,
Шыць яму, пястунчыку,
Ў год па тры касцюмчыкі:
Хай сыночак родненькі
Будзе гожы, модненькі,
Клопату не ведае —
Радасці адведае...

Вырас сын у мамачкі
І смяецца з рамачкі,
З рамачкі зашклёнае —
Фота там ягонае:
Ён, як стаў на ножанькі,

Рушыў у дарожаньку,
Напаткаў каханачку
І забыў пра мамачку.

*1975*

## Байка пра Байку

Спаткаўся неяк з Байкай Верш лірычны
І кажа ёй усхвалявана-зычна:
— Сястра мая, о, дай мне зразумець,
Як ты такі характар можаш мець?!
Без падкавырак, шпілек жыць не можаш,
Людзей бянтэжыш, чуткі множыш,
Расказваеш — на нешта намякаеш,
У былях, небыліцах соль шукаеш;
Табе ўсё гэта на якое ліха?!

— О браце мой, — сказала Байка ціха, —
Павер, каб свет пакінулі хваробы,
Замоўкла б я.
— Сястра мая,
А час які выдатны!..
— Хай час выдатны, ды мікробы
Жывучыя на глебе на прыдатнай.
— А я красу нясу і апяваю
Ды ў людзях абуджаць дабро не забываю.
— Мой сябра, зычу табе ўдачы,
Адно дадаць хачу я:
Сляпы
Паэзіі не ўбачыць,
Глухі
Паэзіі не ўчуе,

І покуль ёсць на свеце душы
Сляпыя, подлыя, глухія,
Даваць пілюлі часта мушу —
Такая ўжо мая стыхія.

*1982*

## Блізарукі Леў

*Байка*

Быў Сабака памочнік у Льва,
Друг выдатны,
А галоўнае — кемлівы, здатны,
Пра яго гаварылі кругом: «Галава!»
Ну а Леў розум хіленькі меў,
Хоць і ўладу цара над звярамі займеў.
А рабіў ён усё напаказ;
Неяк раз
Паказальную даць загадаў ён вячэру.
Там накрылі на стол аж праз меру:
Ўсё было — ад ікры, балыка
Да птушынага аж малака,
Хоць з прадуктамі ў лесе было тугавата.
Ну, вядома, гасцей насклікалі багата.
Іх пампезнай прамовай вітаў гаспадар,
Меў ён «дар» —
У кішэню лазіць па слова...
Госці елі, пілі,
Адпаведна сталу ўсе іх тосты былі,
Надта пышныя тосты;
Лёва наш дасягнуў тытанічнага росту,
Ён ужо і вялікі мысліцель,
І пісьменнік, і слаўны вучыцель,

Тэарэтык, амаль геніяльны,
І таварыш такі абаяльны,
Як ён мудра бяседу вядзе,
Без яго, пэўна, лес прападзе...
Аж за поўнач пустое застолле гудзе.

Не сыходзіць ніяк з языкоў
Леў-мысліцель,
Пісьменнік, вучыцель
І вялікі, вядома, карміцель,
Зноў і зноў абаяльны
І амаль геніяльны,
Зноў і зноў ён — аснова асноў.
Тут Сабака і кажа Льву ў самае вуха:
— Леў, ты толькі паслухай,
Як трываеш ты столькі маны?!
Дастаткова
Аднаго твайго слова,
Нават жэста, каб змоўклі яны.
Тут наш Лёва укінуўся ў гнеў:
— Кепска думаеш, пёс, пра мяне!
А таму і з вачэй маіх — прэч!

Вось якая у лесе тым стрэслася рэч.

*1981*

## Казёл і Салавей

*Байка*

Да траўкі, да кары бязмерна ласы,
Казёл зубамі браў зямлі дары
І набіваў жывот свой. А тым часам

Спяваў салоўка весела ўгары.
Казёл прыслухаўся: «А што, няблага...
Дык нездарма ўсе хваляць Салаўя!»
І ўжо Казла бярэ свая адвага:
«А паспрабую заспяваць і я!»
Напружыўся як след — адно замэкаў:
Казлу прырода дару не дала...
Ну, пазайздросціў птушцы, недарэка,
Чужая слава звабіла Казла.
Ды каб паразумнеў! Ды каб жа ціха
Суцешыўся карою, грыз кару,
А то ж ізноў, як на якое ліха,
Ён голаў задзірае ўсё ўгару,
І раздражнёна тупае нагамі,
І Салаўя перакрыўляе ўсяк,
Гатоў яго дастаць, бадаць рагамі,
І гэтым суцяшаецца так-сяк...

Бывае зло — ўсяго чакай ад зла! —
З характарам вось гэткага Казла.

*1986*

## Лісіны рэпартаж

*Байка*

Чытаючы Лісіны рэпартаж,
Ад смеху Вожык пакаціўся аж:
— Тут пішуць пра лясгас пра наш.
— Няўжо так смешна? — жонка запытала.
— Вось прачытай, што Ліска накатала.
Дарэчы, і ты была на той сустрэчы,
Калі вучоны госць Барсук,

Які абараніўся ад навук,
Адно ківаў бясконца галавой,
Калі расповед слухаў мой,
А напісалі, быццам ён даваў парады,
Якім усе мы вельмі рады.
— Дзівак ты, — Вожыку сказала жонка, —
Тут разбірацца трэба тонка:
Каб напісалі так, як ёсць,
Што галавой адно ківаў наш госць,
Усе смяяліся б тады,
А так — рагочаш толькі ты.

*1985*

## Лясныя навіны
*Байка*

Здаля, з-за рэчкі, у Вялікі Бор
Да Мішкі завітаў Бабёр.
Там адбылася гутарка жывая.
А напісала «Праўда Баравая»,
Што ў гонар госця ў баравой сталоўцы
Абед прайшоў у цёплай абстаноўцы.
Узяў Мядзведзь газеты свежы нумар,
Прабег вачыма: «Вось дык гумар!
Пісалі гэта, пэўна, ачмурэўшы...
Няўжо мой госць паедзе не паеўшы?

Няўжо, як прывядзеш яго ў сталоўку,
Халодную там створыш абстаноўку?»

*1985*

## Вінаваты... лёд

Ваду са студні Клава даставала,
Ступіла нейк не так на лёд,
Упала і нагу, гаротніца, зламала.
Тут раззлаваўся на яе Фядот:
— Вось будзеш, разгірака, зараз клыпаць,
Няўдаліца! — муж лаецца, крычыць,
Заміж таго, каб лекара паклікаць,
Пясочкам каля студні лёд пасыпаць.
А жонка і не войкае — маўчыць.
Яе ж усё-такі лячыць
Адвезлі ў райбальніцу.
Туды праз дзень патрапіў і Фядот,
Ён паламаў сабе рабро, ключыцу
Непадалёк ад роднай хаты.
А вінаваты
Той жа лёд.

*1984*

## Лянівы болей траціць сілы

Пад вечар дзядзька Герадот
Паліць сабраўся агарод,
Які ажно гарэў ад спёкі,
Узяў у рукі два вядры,
Паплёўся ціха да вады, —
Раўчук паблізу цёк там неглыбокі.
Ды раптам ветрыкам прырода
Дыхнула — і над агародам
Сівыя хмаркі паплылі гурмой.
У Герадота — радасны настрой.

«Ну, — думае, — парадак,
І паліваць не трэба градак,
Бо зараз дождж пальe», —
Сеў, пакурыў, а дачакаўся грому —
Пустыя вёдры ўзяў свае.
Пашкандыбаў дадому.
Ну а дажджу і не было.
І ўсё смяялася сяло:
Зноў неўзабаве Герадот
Паплёўся паліваць свой агарод.

*1985*

## Пра сваяка, сваячку і звычайную качку

— Ну што табе даць? — у турботах сваячка
Свайго сваяка гарадскога пытае. —
Зарэзала б качку — не выпадае:
Занадта худая,
І гусак таксама не рэжу цяпер я:
Худыя ўсе — косці ды пер'е,
Крыху падкармлю, а тады забярэш.
Сваяк гаварыць аж не можа ад смеху,
Ды кажа:
                — Вядома, нічога не рэж.
Хіба я сюды па прадукты прыехаў?..
Другі раз наведаў сваячку сваяк,
Прывёз падарункі, ласункі, каньяк,
І дроў накалоў ёй, і дрэўцы садзіў,
І ў лес па грыбы са сваячкай хадзіў,
А толькі прыходзіць пара ад'язджаць —
Пытае сваячка:
                              — Ну што табе даць,

Каб было на вячэру?
Зарэзала б качку, дык здохла ж, халера,
А гускі здзічэлі
І ў свет паляцелі,
Ужо выбачай, што няскладна ўсё так.
Паехаў сваяк.
А неяк у горад яна завітала.
Прывозіла яблычкі — утаргавала —
І не абышла сваяка, як-ніяк,
Шчыруе, частуе сваячку сваяк.

Калі павячэралі, кажа сваячка:
— А зараз пара мне цябе пакідаць.
Сваяк усміхнуўся, бо ўспомніў пра качку,
І кажа:
            — Ну што табе даць?
Даў бы каўбаскі — не выпадае:
Занадта худая.
— Яна ж не паправіцца, пойдзе й такая.
— Пойдзе-то пойдзе, — такі быў адказ, —
Ды гастраном зачынілі якраз.

*1979*

## Арол і Курыца

*Байка*

Арол па п'янцы раптам апынуўся
У лапухах,
Задумаўся, калі прачнуўся:
«Гэткі жах!
Кашмар!
Ну трэба ж так — з-пад хмар,

З-за гор
Чорт прывалок мяне на нейкі двор!
А што за птушка на маім крыле?!»
Ён крыльмі варухнуў, але:
— Ты куд-куды?! — тут Курыца пытае, —
Арлюха!..
— А ты хто такая?
— О-хо-хо-хо, я — жоначка твая!
— Ты нешта блытаеш, бо не жанаты я.
— О-хо-хо-хо, пагляньце вы, ён нежанаты! —
Тут наляцела Курыцы радня, —
Ці думала твая пустая мазгаўня,
Што, як яна наплодзіць Арлянятак?
(Усе тут паглядаюць на Арла.)
Так абкруціў, а сам гатовы лататы! —
І ўжо крычаць на Курыцу:
                                        — А ты
Таксама цаца — знюхацца з Арлом!..
Кажы як на духу: было?!
— Я не схлушу:
Грэх на душу
Ўзяла...
І ўсе тут заківалі ў бок Арла...
Арол быў малады, сумленны дужа,
Ён для Чубаткі стаў законным мужам.
Жыве ўжо з Курыцаю, дужы і прыгожы,
Але і без палётаў жыць Арол не можа —
Ляціць высока, аж да гор.
Тут Курыца як псіхане,
Як закудахча на ўвесь двор
(Бо мухі ў носе мела):
— Вось я нарэшце зразумела:

Мяне
Зусім ты не кахаеш,
Арліцаў модненькіх шукаеш.
Табе са мной перад раднёй
З'явіцца сорам,
А я... а я хачу хоць чуць
Красу, паветра горнае адчуць!..
І Курыцу Арол нясе над морам,
Яе высока ён нясе
У край, які не знае межаў
І дзе ўзвышаюцца ў красе
Вяршыні гор, дзе вее вецер свежы, —
Прынёс, жыві, Чубатка, зведай асалоду.
Але Чубатка пратэстуе з ходу:
— О-ёй, які тут дзікі холад
(А я ж баюся скразнякоў!)
І да таго — страшэнны голад:
Ані жукоў, ні чарвякоў!
Хачу на сметнік я, хачу ў свой двор,
Там цёпла, сытна, там — прастор!
— Ды не крычы,
Ты памаўчы,
Вось дачакаемся маіх бацькоў,
І хоць бы глянеш ім у вочы.
— Не, я памру без чарвякоў!
А можа, ты таго і хочаш,
Бо да майго кахання ты глухі!
Джэнтльмен Арол узяў Чубатку
І, каб усё ў яе было ў парадку,
Каб век не наракаць на горкі лёс,
Яе аднёс
І скінуў незваротна ў лапухі,
А з ёй — сваёй няволі ланцугі.

Жыве Арол высока на гары.
О, ён зусім цвярозы з той пары!..

*1980*

## Цыганскі конь

*Байка*

Калісьці жыў такі Цімох:
Каня прадаў, пасля купіць не мог;
Хацеў мужык не прамахнуцца:
Каб конь дастаўся як танней,
А воз цягнуў як найспрытней...
Параілі яму да цыганоў звярнуцца.
Калі Цімох у цыганоў каня купляў,
Той конь ласкавы быў, рахманы,
Ён прысядаў і спінку падстаўляў —
Сядай, маўляў, наезнічак жаданы.
Конь добра быў дрэсіраваны,
Яго і падпаілі чымсьці цыганы —
Былі майстры яны
Пусціць туман у вочы.
— Глядзі (каб толькі не сурочыў!),
Не конь — агонь, не конь — карцінка:
Якія ножкі, шыя, спінка!
А грыва чорная — дугой
І хвост, глядзі, трубой!..
Загіпнатызаваны, наш Цімох
Аддаў усё, што толькі мог.
Ён на кані ужо гарцуе,
Канёк пад ім ледзь не танцуе,
Ён і не сніў каня такога!
Ляжыць Цімохава дарога,

Улёгся весні ветравей,
Над галавой Цімоха — сонца,
І галасісты салавей
Яму спявае недзе ў кронцы,
Цвітуць палеткі з краю ў край,
Нібыта едзе ён у рай.
Ды не праехаў чалавек і мілі —
Цыганскага каня як падмянілі:
Ён нечакана рэзка павярнуўся
І задам кінуў, з месца ірвануўся —

І скінуў конніка, і стрымгалоў
Пабег да тых жа цыганоў.
Цімох канаў сярод дарогі
(Тады не зналі «хуткай дапамогі»),
Не чуў ён болей салаўя.

Вось тут хачу заўважыць я:
Людзей, падобных да Цімоха,
Даволі многа.
Мо байка іх засцеражэ мая:
Калі вялікай выгады шукаеш,
Глядзі, не страць таго, што маеш.

*1978*

## Барбос

*Байка*

Барбос, начальнік фірмачкі адной
Лясной,
Пачуў, што Льва цікавіць дысцыпліна, —
Усе паперы ў кабінеце кінуў

І стаў на прахадной,
Там ён пачаў сачыць да поту,
Хто як з'явіўся на работу.
Каню, свайму намесніку, сказаў
Завесці кнігу дадатковых спраў,
Камісій розных наствараў,
Каб правяралі, каб сачылі,
Каб болей дакладных страчылі.
Хто як жыве, Барбосу напляваць.
Ён думае, галоўная спружына —
Суцэльная на фірме тузаніна;
Калі ж кантроль — умець хвастом віляць.
Дачуўся пра Барбоса раптам Леў,
Ён не чакаў такога перакосу:
«Загубяць справу гэткія барбосы!»
Леў перагібы супыніць паспеў:
Газеце даручыў «Лясной»
Тлумачыць ясна і аператыўна,
Што дысцыпліну нельга прымітыўна
Рабіць казённа-паказной!
Убачылі б Барбоса вы цяпер:
Як лёгка, лоўка тактыку мяняе!
За «недавер» свайго Каня скланяе,
На сходах выступае за давер.
Лізнуць гатоў, каб далажылі Льву,
Што на плячах ён носіць галаву.

*1984*

## Спакуса

Дома быць прасіла мужа маладзіца,
Ну а мужа спакусіла горкая вадзіца.
Ён дамоў спяшаўся ўпоперак дарогі,
А калі вяртаўся, ледзь трымалі ногі.
Ой, гаротнік муж ляжыць! Вось якое ліха:
Ў галаве шуміць-шуміць, а ў кішэнях — ціха.
Дома быць прасіла мужа маладзіца,
А яго ўжо спакусіла пышная ўдавіца.
Зноў дамоў спяшаўся, збіўшыся з дарогі,
Зноў, калі вяртаўся, ледзь трымалі ногі.
Жонка дарагому есці не зварыла
І пасцель міламу, ой, не пасцяліла!
Маладзіца дома ўжо й не начавала,
Грознае пасланне мілага чакала.
Ой, гаротнік муж ляжыць — вось якое ліха.
Ў галаве шуміць-шуміць, а на кухні — ціха.

*1995*

●

# НА СЁННЯ Й НА ПАСЛЯ ПАРАДЫ ДЗЯДЗЬКІ ВАСІЛЯ

## Давай жару, не ўчыні пажару!

Часцей давай у працы жару.
А справу з жарам маеш ты —
Пабойся нарабіць пажару
І даць пры гэтым лататы.

## Вушы не апускай, а нос не задзірай

Кагось я падбадзёрыць мушу,
Засцерагчы кагось пара:
Не апускай заўчасна вушы,
Ах, дужа й нос не задзірай!

## Язык і думка

Што часам выдасць твой язык,
Ты не сатрэш ніякай гумкай...
Да мудрасці, жаль, не прывык:
«Язык, не апярэджвай думку!»

## Калі разлік вялік...

Калі не хочаш, панна,
Служанкай быць давеку,
Ты не выходзь за пана —
Выходзь за чалавека.

## Суцешся

Калі ты ўляпаўся у гразь,
Хутчэй з яе вылазь.
Пры гэты думай, што з гразі
Парой вылазілі ў князі.

## Глядзі сюдэма і тудэма

Паспей, як шлях перабягаеш,
Направа і налева азірнуцца:
Тут лепш з машынай не сустрэцца,
А размінуцца!

### Ні ноччу, ні днём не жартуй з агнём

Пайсці сабраўся з кухні ў гастраном —
Скавараду здымі з гарэлкі.
Ты не куры ў пасцелі перад сном,
Тым болей — цяпнуўшы гарэлкі.

*2001*

●

## ПАРАДЫ МУЖЧЫНАМ АДНОСНА ЖАНЧЫН

### Жанчыны хочуць, каб кахалі

Машыны любяць змазку.
Жанчыны любяць ласку,
Жанчыны любяць, каб кахалі.
Каханне, брат, — не тралі-валі!

### Хай кажуць...

Хай кажуць:
«Жанчына кахае вушамі»,
(Хай трапнае слова ідзе век-вяком!),
Аднак жа, мужчына, —
скажу я між намі, —
Дагодзіш ёй справай, а не языком.

### Не так грашыў!

З канапы вылезлі пружыны ўсе —
За інструмент бярыся хоць ахвотна,
Бо ты яе не з жоначкай мясіў,
А гледзячы футбол, хакей, гаротнік!

### Спяшайся!..

За свята жаночае ўмееш папіць,
Чаго ж ты амаль што разлёгся
у трамваі?
Спяшайся ты месца сваё саступіць
Жанчыне,
бо толькі сумленне праспіць —
І старасць сустрэнеш сваю ты
ў адчаі.

### Шануй жанчыну!

Жанчыну няможна і кветкаю ўдарыць
І словам няможна абразіць яе!
Жанчыну кахай,
прывыкай з ёю марыць,
Хай пройдуць з ёй лепшыя леты твае!

*2002*

●

## ПЕРЛЫ ПАДПАЛКОЎНІКА В-ВА

### Хто ж лішні?

— Што такое?
Вы чуеце, не?!
Эй вы, трое!
Абодва — ка мне!

## Навошта ведаць?..

— Мый, панімаеш, кацялкі,
Бо схопіш дэзынфекцыі плады.
— А што яна за звер такі?
— Падчэпіш — будзеш знаць тады!

## Аж гэтак папулярна?..

— Запісваць пакуль што нявартa
(Я вам папулярна тлумачу):
Тапаграфічная карта —
Разгорнуты глобус — іначай.

## Амаль адзнака…

Вялікія ўсе паміраюць раней…
Чорт, нешта пашальвае сэрца ў мяне.

## З усёй шчырасцю…

*Унушэнне курсанту*

Не строй з сябе разумніка цяпер:
Ты ўжо амаль што афіцэр.

*1989*

●

# ЭПІТАФІІ

## Паўтатку

Паўтатка неяк дух спусціў,
Хоць доўга зло ён сеяў:
Калі дзяцей на свет пусціў,
Пайшоў касіць сабакам сена.

## Маці-зязюля

Жыццё пракукавала мама,
Што век з адной дружыла крамай,
Была мянялаю няўдалай:
Дзяцей на пляшку прамяняла.

## Юнаму наркаману

Не начытаўся і раманаў,
Не зведаў радасці ад спраў,
Падаўся рана ў наркаманы
І лёгка дозу перабраў...

## Кіроўцу-выпівоху

Хто, выпіўшы, за руль сядае,
Дабра нікому не жадае,
Найперш — сабе самому,
Ўсім, хто чакае дома.
Ужо не можа піць,
Бо моцна-моцна спіць...

## Курцу, што закурыў у ложку

Бяды так многа нарабіў
І ў час пажару не прачнуўся;

Смярдзючы гэтак дым любіў,
Што й дымам задыхнуўся.

## П'яніцу, які, закурыўшы ў ложку, спаліў сябе, сям'ю і дом

Ён на той свет, гарэлкі раб,
Забраў сям'ю і гаспадарку —
Напэўна, ён прыкінуў, каб
І ў пекле з гора мець на чарку.

## Кар'ерысту

Усё ён меў,
Бо ўзяць умеў.
А што яму ўдалося ўзяць?
Ён быў высокай шышкі зяць.

## Казнакраду

Спакойна спі ты, наш харошы,
Зусім спакойна спі, наш мілы:
Не спяць накрадзеныя грошы...
Дзяржава помнік падарыла.

## Ліхадзею

Нарэшце ў яму той папаў,
Хто ямы на людзей капаў.

## Сварлівай даме

Прымі падзяку ад сямі кварталаў:
Больш не чутно тваіх скандалаў.

### Лавеласу

Начамі плачуць тут, каля пліты,
Твае любоўніцы, ці чуеш?
Яны не ўпэўнены, што ты
Там, у сваёй труне, начуеш.

### Паклёпніку

Ты пры жыцці амаль не спаў:
Паклёпы на людзей кляпаў.
Хай т а м хаця спакойна спіцца,
І пастарайся нам не сніцца.

*1985*

●

## МІНІЯЦЮРЫ, ЭПІГРАМЫ

### Кнігі

Адну, каб сон прагнаць, бяруць,
Другую — каб хутчэй заснуць.

### Оптам

Гляньце, людцы мае,
Чый жа, чый халоп там
Беларусь прадае
Не ў розніцу — оптам.

### Кіраўнік з мінулага

Хаця жыццё кіпіць кругом,
Ісці наперад вымагае,

Дзе трэба зрушыць рычагом,
Ён толькі лозунгам махае.

## Прахадная пешка

На пешку ўсе фігуры ў лад
З насмешкаю глядзелі справа, злева.
А пешка прахадной была —
І стала ўрэшце каралевай.

## І такое здараецца

Абяцаў зладзей выгоды —
Вушы ўсе развесілі.
Як на карак сеў народу,
Дык насы павесілі.

## Страх

Цяжка мафіі жывецца:
Многа п'ецца і жуецца,
А начамі сніцца крах,
Не жыццё — суцэльны страх.

## З трох пальцаў

Камбінатары імкнуцца
То на захад, то на ўсход...

Камбінацыю з трох пальцаў
Сёння маеш ты, народ.

## Жывучы тып

Для падначаленых мае бас,
А для начальства — тэнар;

Перад вышэйшымі кожны раз
Выцягваецца антэнай.

## Варыянт угодніка

Перад начальнікам нямеў:
Лепш дагадзіць не ўмеў.

## Пад і над законам

Украў свініны кілаграм —
Прыгаварылі к тром гадам.
Мільярд узяў — не вінават:
Далі даведку, што — вар'ят.

## Кадры на пляжы

Галоўны нама стрэў на пляжы
Ў рабочую пару ды кажа:
— Ты што тут робіш?!
— Загараю. А вы?
— Я? Кадры правяраю!

## Як даносчык 1937-га года знаходзіў «ворага»

— Дай закурыць.
— Я не палю, прабач.
— Таварыш Сталін курыць, ты, смаркач!
— Хай Сталін курыць… Нам якая справа?
— Што ты сказаў?! Якое маеш права!..

Данос-паклёп за вечар быў гатоў.
Хто не курыў, таму ўпаялі сем гадоў.

## Даставайла

Дыплом ды ардэнок дастаў спачатку,
Ну а пасля — і круглую пячатку.
Вы скажаце, зусім сумленне страціў!
Усё прасцей: не атрымаў ад маці.

## Скнара

За шмат гадоў сабраў мяшок ён грошай,
Ды як жабрак і еў і піў
І ўрэзаў дуба ў кіцелі й галёшах,
Якія шчэ пры Сталіне купіў.

## Пошук способу

Калісьці краў —
Злавілі за рукаў.
Цяпер прасцейшы способ пазнае:
Пазычыць... і не аддае.

## Успомніў

Калі не стала ў бацькі сіл,
Успомніў, што ў яго ёсць сын.

## «Эвалюцыя»

Каханаму клялася назаўжды:
— Я ж без цябе — што рыбка без вады.
А выйшла замуж — стала дыбам:
— Мне трэба ты, як вадзе рыба!

## Знайшоў слухача

Сустрэў знаёмага, спытаў
Па добрай звычцы: «Як здароўе?»
Мо сто рэцэптаў ён дастаў.
І развітаўся, і пайшоў я,
А ён рэцэпты ўсё чытаў.

## Рыбаку

Як на рыбалку будзеш ты збірацца,
І кашалёк вазьмі, апроч прыначкі.
Як на кручок не будзе рыбка брацца,
То ў «Акіяне» возьмеш за траячку.

## Грыбніку

Не шанцуе у лесе табе на грыбы —
Заблудзіся, дзе сосны, бярозы, дубы.
А шукаць будзеш сцежку дамоў —
Не ўбярэш і ў кашулю грыбоў.

## Маланка і громаадвод

— Што захачу, — гразілася маланка, —
Ўсё паглыне агонь мой быстры, яркі.
Громаадвод пачуў хлусню здалёк
І на той свет маланку павалок.

## Літаратару-зайздросніку

Калі губа зайздросціць носу,
А вуха — воку,
Кінь ты асадку, вазьмі косу, —
Мо лугам пройдзеш, брат, далёка.

*1965–1993*



# Давайце, творцы, жартаваць

## Раздзел другі

### Як умеў…

Я аддаўся табе, як умеў…

*Алег Лойка*

Сапраўдны, далібог жа, я мужчына,
Ў цябе, жанчыну, дужа закахаўся
І ўзяць павінен быў цябе, жанчыну,
Ды сам табе знячэўку я аддаўся.

Не ўцямлю ўжо, што ты з мяне рабіла,
Як плоць твая на плоці гарцавала.
Ды я быў твой, а гэта досыць міла
І ў прынцыпе не так ужо і мала.

# Сны курыныя, напасці камарыныя

> Не ведаю я, што сніцца арлам...
> Ды ведаю я, што сніцца курам...
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Спаць доўга не давалі камары.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Успомніў — недзе я чытаў раней, —
> Што нас кусаюць не самцы, а самкі...
>
> *Анатоль Вярцінскі*

У курыцы доля цяжкая:
Толькі і знае, што несці яйкі,
А гонар ніякі.
А слава якая?
Што курыца — гэта зусім не птушка,
А толькі нясушка ды квактушка...
Што ёй спакою яшчэ не дае:
Быў бы хоць певень верны ў яе!
А ў гэтага выгляд хаця і баярскі,
Ёй не дае баярскае ласкі.
Ён «бабнік», за чужымі хвастамі бяжыць
Як жа ёй горачка перажыць?!
Чаму яе вернасць зусім не цэніцца?!
Вось ёй, бадай, і летуценіцца,
Калі яе ноч на жэрдках гушкае,
Што стала яна сапраўднаю птушкаю,
Што слава лябёдкі ў яе,
Што ў яе тонкая шыя
І што першае месца яна выйграе
На конкурсе красы птушынай,
І што побач птах яе адзіны,
Пяшчотны, з шыяй лебядзінай...

А яшчэ, чытач, павер, знаёмы я
З тым, што сняць насякомыя.
Што сніцца, напрыклад, пчале руплівай?
А тое, што трутням мёд перастала насіць,
Што можа нарэшце спакойна піва
Ў гасцях у шэршня папіць...
Вусеню сніцца, што стаў матыльком.
А камару — што ляціць у мой дом,
Каб салодкай крыві паэта напіцца!
Божа мой, Божа, яму ўжо не спіцца!
Камар не хоча кімарыць,
Ён ужо і ляціць
Крыві маёй папіць,
Пра гэта толькі й марыць...
Няўжо ў яго кацялок не варыць,
Што буду з ім біцца
На ўласнай пасцелі,
Прыхлопну на ўласным целе,
Калі не заб'ю ручніком на сцяне?..
Ды раптам, чытач, узгадалася мне,
Што нас кусаюць не самцы, а самкі,
А жонкі камарыныя і мамкі.
Што ж, гэта ў корані справу мяняе, —
Я нават сцягну з сябе майку,
Ды што майку — нават плаўкі,
Няхай за што хоча кусае,
Самка ёсць самка,
Аддамся ёй цалкам.
А заўтра ў кампаніі першай
Скажу філасофскі тост вершам —
За сны курыныя
І ўкусы камарыныя,

Не, тост выйдзе шырэй — за самак,
За камарыных жанок і мамак.
А за няшчасных удоў
І выпіць да дна гатоў.

## Клопат пра душу

> Не запірайце душу на завалы...
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Ва ўсё, што ствараеце,
> Не забывайце, —
> Бы дрожджы у брагу,
> Душу ўсю ўкладайце!
>
> *Кастусь Цвірка*

Не запірайце душу на завалы.
Каб не зачахла душа, не завяла,
Раю трымацца бліжэй да вады;
Лепей мачыце яе, не сушыце —
Будзе жывая яна заўсягды.

Сам я ствараў адмысловую бражку
(Ну, разумеецца, дрожджы купіў),
Толькі падумайце: хто б яе піў,
Каб гэта я ўсю душу-бедалажку
Разам з дражджамі туды не ўляпіў!

## Чмялі загадку задалі

Пасля ў садах, налітых чыстым сокам,
Над яблынямі загулі чмялі.
Ні слыху не хапіла мне, ні зроку,
Каб зразумець, пра што яны гулі.

*Уладзімір Някляеў*

Не школьнік я, а чалавек бывалы,
Хадзіў і ездзіў многа па зямлі,
Глядзеў і слухаў гэтак жа нямала,
І вось пачуў, як загулі чмялі.

Я разгубіўся, прызнаюся, людзі,
Перад жывой загадкаю, дальбог, —
Пра што гулі чмялі, што ў іхнім гудзе,
Спасцігнуць, як ні тужыўся, не змог.

Ні слыху мне, ні зроку не хапіла,
Не дапамог і паэтычны клёк,
Каб зразумець чмялінай мовы сілу.
Хай бы чмялі далі мне хоць намёк...

Чаму (і гэта ўцяміць я не ўмею)
Чмялі усхвалявалі мне душу?
Але калі іх мову зразумею,
Я верш пра гэта новы напішу.

# Позняя споведзь

Дзе жывеш ты сёння, Ленка?
З кім ты сёння ходзіш, Нінка?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я ж і сёння не забыўся,
Што было калісьці з намі.
Як дружылі з гузакамі,
Не баяліся сурокаў
І ў чаромхавую замець
Уцякалі ў лес з урокаў.

*Генадзь Бураўкін*

Кашміровая хусцінка,
Паркалёвая сукенка...
Праз паўсотні год падумаў:
Дзе вы сёння, Нінка, Ленка?

Вас у лес з урокаў зводзіў
У дваццатым тым стагоддзі.
Прызнаюся ў дваццаць першым
Я ў сваім лірычным вершы.

Кашміровая хусцінка,
Паркалёвая сукенка...
Як жывецца вам сягоння,
Адкажыце, Нінка, Ленка.

Напішыце без прынукі,
Час успомніўшы далёкі,
Ці хоць вашыя унукі
Не прагульваюць урокі.

# Ліхтары для паэта

> Твае грудзі, як два ліхтары,
> Сярод ночы сляпілі мне вочы.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> ...ліхтары прыцягальных грудзей
> Суцяшальна з мінулага свецяць.
>
> *Іван Лагвіновіч*

Багдановіч на сонца глядзеў...
Ну а я, да пяшчоты ахвочы,
Цешыўся ліхтарамі грудзей:
Сярод ночы сляпілі мне вочы.

Што было, не прыпомню далей...
Без цябе халаднее мой ложак.
Патанаць бы мне ў шчырым цяпле
Рук тваіх і маланкавых ножак!

Адно з той незабыўнай пары,
Як застогне за вокнамі вецер,
Бы дзве поўні, грудзей ліхтары
Суцяшальна з мінулага свецяць.

Іх святло праз адлегласць ідзе,
Хоць табе ўжо даўно я нямілы.
Ў ліхтарах прыцягальных грудзей
Адчуваю шмат атамнай сілы.

Калі ноччу я ў спальню зайду,
То, удзячны грудзей тваіх цуду,
Галавой я падушку знайду,
Спатыкацца аб ложак не буду.

# Шкадоба

> Крадком ад жонкі на дзяўчат
> гляджу:
> эх, Юлі, Насці, Олі!
> Хаця ўжо хутка пяцьдзясят
> гадкоў адмерае мне доля.
> ...нібы праспаў жыццё ўначы.
>
> *Анатоль Зэкаў*

Дажыў з адною да паўста.
А поруч — Юлі, Насці, Олі!..
Знячэўку роздум мой паўстаў
Пра ўласную скупую долю.

Чаму не мусульманін я?
Чаму жыву не па Каране?
На Ўсходзе — там мараль свая:
За мнагажонства не караюць.

Быў на зямлі калісьці рай
І быў куточак проста райскі,
Як сведчыць нам Бахчысарай,
Вярней, палац Бахчысарайскі...

Што ж застаецца мне? Хаджу
Каля дзяўчат, іх талій тонкіх,
Не гладжу іх — на іх гляджу,
Дый то, сябры, крадком ад жонкі!

Так пачуваюся, йдучы
Да сонечнага юбілею,
Нібы праспаў жыццё ўначы...
Калі ж я ўсё-ткі пасталею?

# Споведзь перад прададзеным канём

Мог бы й я застацца дома
Несці вернасць баразне,
Бо выбітных і вядомых
Тут хапае без мяне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Проста ў Сашкі Пісьмянкова
Мог бы іншы быць Пегас.

*Алесь Пісьмянкоў*

Ты жывы напэўна, косю.
А пакулькі ты жывы,
«Хто табе там сена косіць?» —
Не йдзе думка з галавы.

Той, каму ты мной прададзен,
Ці аўса табе дае?
Ці ласкава шыю гладзіць?
Ці хоць пугаю не б'е?

Ці дае, каб меў ты сілу,
Пасля працы падрамаць?
Ці ты сніш той поплаў мілы?
Мне ж ён сніцца нездарма!

Як дакор мне поплаў сніцца,
Сніцца родная зямля...
У руках я меў сініцу,
Кінуў вёску — і ў сталіцу
Кінуўся па жураўля.

Горад моцна агарошыў.
Грунту горад мала даў.

Мабыць, косю мой харошы,
Я дарма цябе прадаў.

Тут увішных і вядомых,
Ой, хапае без мяне.
Лепей мо застаўся б дома
Несці вернасць баразне!

Там вісіць мая падкова,
Там агонь мой не пагас.
Думаю невыпадкова,
Што для Сашкі Пісьмянкова
Ты — сапраўдны ёсць Пегас.

## Суіснаванне

> Ты раіш: «Выцісні раба!»
> І я згаджаюся, што варта б...
> Ды толькі раб мой не слабак,
> Мой раб, як чорт, упарты.
> ...Яшчэ ніхто не перамог,
> Але мяне ён паважае.
>
> *Алесь Пісьмянкоў*

Раб-дармаед даўно ўва мне
Жыве, хаця і выганяю.
Мяне ніколі не кляне
І ні на кога не мяняе.

Які мой раб! Хвала яму!
(Не знаю, хто з нас пераможа.)
Ўва мне жыве ён, а таму
Не паважаць мяне не можа.

У гэтым — логіка свая,
Што паважае й не знікае.
Але падумаў раптам я:
Навошта ласка мне такая?!

Хачу (не ведаю — каму)
Задаць яшчэ адно пытанне:
Такое доўгае чаму
Ў мяне з рабом суіснаванне?

Сябе не стану дакараць,
Бо ў сітуацыі пікантнай
Тут вінаватая, відаць,
Няўжо ўсё тая ж талерантнасць?

## Тушылі поўню

Я забываю, забываю,
 але помню
Недарагое перакіслае віно,
Якое мы з табой
 лілі ажно на поўню,
Каб хоць на хвілю
 не было відно.

*Уладзімір Марук*

Шмат што забыўся,
 але добра помню,
Як я дастаў пракіслае віно
І як мы ім тушылі ноччу поўню...
На што ж яшчэ прыдатнае яно?!

Як добра, што віна мы не ўжывалі,
Бо, не дай Бог, калі б яго ўжылі,

Качаліся б да ранку з жыватамі
І ні на што не здатныя былі б.

Я поўню не тушу даўно «чарнілам»,
Не стаў ужо саромецца яе.
С а л о д к а е віно прыношу мілай,
Бо кіслае нічога не дае.

## У кайфе

Ты ціха коўдру адгарні,
Пагладзь мне валасы рукою...

*Навум Гальпяровіч*

У кайфе я — ў душы ракой
Ліецца музыка Вівальдзі,
Калі з-пад коўдры мне рукой
Ціхутка валасы ты гладзіш.

Ужо нічога мне не жаль,
Нібы ўзыходжу я на неба.
Гладзь валасы і не зважай,
Калі растуць не там, дзе трэба.

## Узаемаабмен

Я б цябе цалаваў і зімою, і летам,
Я б цябе цалаваў сярод спёкі і сцюж.
Я б цябе цалаваў... Ды што скажуць на гэта
Мая жонка і вельмі раўнівы твой муж?

*Міхась Міранові*ч

Цалавацца хацеў ты з чужой...
Ну а як жа яна?..

І чужая з табой хоча дужа?..
Тут парада адна:
Жонку родную выпраў ужо
Да чужога раўнівага мужа.

## Не заслужыў

Кахання я чакаў ад Вас,
Вы ж дружбу мне прапанавалі —
Нібыта наліваюць квас,
Тады як на каньяк пазвалі.

*Міхась Міранович*

Не заслужыў каханнейка ў яе,
Але ў абозе ты ў яе, ў запасе.
Каханаму хай каньячку налье,
Ты ж пройдзеш стажыроўку
І на квасе.

## З гумарыстаў — у лірыкі?

Пад вербалозам плешчацца рака,
І спевам задае салоўка перцу.
Вісіць у небе серп маладзіка,
А Ваша «не» — тупым сярпом па сэрцу.

*Міхась Мірановіч*

Ах, Божа мой, адно ўжо Ваша «не»
З насмешнікаў знячэўку так штурхае
У лірыкі, у трагікі мяне:
Пакутую ад думкі: «Не кахае!»
І сон прапаў, і ў рот не лезе скварка...
Так не пакутаваў і сам Петрарка!

## Дарма злякаўся

Ідзе дзяўчо — вачэй не адарваць!
Але дзяўчаты мне — не ў галаве:
Калі красунь я буду заўважаць,
Дык галаву мне жонка адарве.

*Міхась Міранові́ч*

Калі ў паэта хоць бы вочы ёсць,
Павінен заўважаць і прыгажосць.
Чаго ж злякаўся я, немалады?
Няхай бы асцярога задрамала,
Калі і ў лепшыя мае гады
Мне жонка галаву не адарвала!

## Што застаецца?..

Стаю на прадзьмутай вятрамі платформе.
Яна не прыехала... Хочацца выць...
Шукае ўвесь свет мадэрновыя формы,
А сэрца і сёння класічна баліць.

*Сяргей Законнікаў*

Як хочацца выць, і класічна
Паэтава сэрца баліць,
Тады застаецца — публічна
Класічныя вершы дарыць.

*P. S.*
Паэт закахаўся...
Чытач зачакаўся...

*P. P. S.*
Парвалася нейкая ніць?
Згубіўся мабільнік недзе?

А можа, усё ж пазваніць?
Магчыма, я н а  і прыедзе?

## Жарты з віном — як з агнём!

> З віна гаючую ваду
> хачу стварыць —
> атрымліваю воцат.
>
> *Валянціна Аксак*

Навошта антыцуд, калі
Сумуе белы свет па цудах?
Ды дзівакі заўжды былі
І, пэўна, будуць...
Дадам да гэтага адно
(Усім скажу, хто меру забывае):
Гаючым можа быць віно,
Але і воцатам яно
У алкаголікаў бывае.

## Між двух агнёў

> Хочацца зноў у расчыненай далечы
> бачыць гуканне вясновага позірку...
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> А на шляху да непазбежнай брамы
> кладуцца лісцем дробныя правіны,
> мінулых жарсцяў белае каменне.
>
> *Аксана Данільчык*

Мне твайго позірку бачыць гуканне
Хочацца; хочацца зноўку кахання!
Сталая я, больш не сварыцца мама.
Ды на шляху да няўмольнае брамы

Жарсцяў мінулых чарнее каменне, —
Кожнае грэшнае помню імгненне.
Хоць асуджаць сябе і не бяруся,
Я ж валуноў на дарозе баюся...

## А дарэмна...

Мы забудзем кладкі ўсе,
Ад мастоў адмовімся.
Плынь нас лёгка панясе
Да гаёў прыцішаных,
Покуль зоркі на расе
Замігцяць па-змоўніцку,
А на згубленым вясле
Поўня закалышацца...

*Генадзь Бураўкін*

Хоць масты і кладкі ўсе
Удваіх забудзеце —
Паўбяды, але, калі
Вы і вёслы згубіце,
Куды ж плынь вас занясе?
Як вяртацца будзеце?

## Даволі з мяне

Ах, як гулка праносіцца поезд
Пасажырскі, пасля таварняк.
Я, бывала, жыў творчым запоем,
А цяпер не жыву аніяк.

Я і сам бы пабег за саставам
Хоць на ўсе на чатыры бакі.
Ды ізноў, як ваўка ў аблаву,
Акружаюць мяне сябрукі.

*Павел Вераб'ёў*

Перастаў жыць я творчым запоем —
І, лічы, не жыву аніяк.
Я сачу, як праносіцца поезд,
Хуткі поезд, і як — таварняк.
Прабягаюць шляхамі сваімі
На усе на чатыры бакі.
Я і сам бы панёсся за імі —
Не пускаюць мяне сябрукі.
Так яны, як ваўка ў час аблавы,
Акружаюць усюды сабой,
І дзялюся я колішняй славай,
Ну а ім давай творчы запой!
«Адпусціце!» — крычу я ў блакаду.
«Не да вершаў! — як можна ясней
Ім тлумачу. — Я маю пасаду,
Гэта значыць — даволі з мяне».

# Адкрыццё

> З той пракаветнай біблейскай часіны,
> Як Бог свае вымыў рукі ад гліны,
> Мала адной для мужчыны жанчыны
> І аднаго для жанчыны мужчыны.
>
> *Леанід Дранько-Майсюк*

Як не падумаць зрэдчас мне пра тое:
Ёсць у паэзіі штосьці святое.
Толькі мяне штось на грэшнае цягне,
Аж зубаскаліць нячысцік у багне.
Хоць я заручаны з жонкай адною,
Чую дыханне красунь за спіною:
Некаму я
ды і мне хтось
патрэбны.
Гэткі матыў не лічыце ганебным!
Можа, не Божанька даў мне жанчыну
Тую, што я называю адзінай?
Можа, сапраўднай маёй палавіне
Выйсці, нарэшце, насустрач павінен?
Можа, й вялікім паэтам я стану,
Як адналюбам быць перастану?
Новага зместу святло праліłося —
Мне адкрыццё надвячоркам далося:
Мала адной для мужчыны жанчыны
І аднаго для жанчыны мужчыны.

## Не лапцем па вадзе

Таемнасць, маладосць — бальзам адзіны,
Адзіны для мужчыны і жанчыны,
Які дапамагае не старэць.

Але мацней жаданне — піць і плакаць,
Крыштальны туфлік твой мяняць на лапаць
І ні сяброў, ні ворагаў не мець.

*Леанід Дранько-Майсюк*

Жаданняў у мяне заўсёды поўна.
Быць маладым увогуле цудоўна,
Яшчэ цудоўна доўга не старэць.

Каб заслужыць было у Бога можна,
Сабе такое пажадаў бы кожны,
Схацеў бы кожны й любую сустрэць.

Ды часам д'ябал завітае ў хату,
Заблытае цябе так зухавата —
Сябе самога цяжка зразумець:

Нашто яны, жаданні піць і плакаць,
Крыштальны туфлік твой мяняць на лапаць,
А нават і сяброў саўсім не мець?

## Змораны раманам

Я пісаў раман пра Лету і напісанае рваў.
Выпадковаму сюжэту сваё сэрца давяраў.

*Леанід Дранько-Майсюк*

Першы раз з такім імпэтам
Уначы раман ствараў...

Выпадковаму сюжэту
Душу, сэрца давяраў.

Я раман пісаў да рання...
Шмат знайшоў у ім заган.
Без пакут і без кахання
Дзе вы бачылі раман?

Я парваў раман пра Лету,
Я яго стаміўся рваць
Выпадковаму сюжэту
Больш не стану давяраць.

Тэме вечнага кахання
Неяк здрадзіла рука —
І ўзяла раман-пісанне
Лета, забыцця рака.

Замарыўся я пад ранак,
У шкадобе я цяпер:
Ноч даецца для раманаў,
А не для рвання папер.

## Да сябе — з сімпатыяй

> Ды вось і пяцьдзясят
> табе ўжо, Толя Зэкаў.
> . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Сябе хвалі лепш сам,
> бо хто цябе пахваліць?
>
> *Анатоль Зэкаў*

Не хваляць? Ды чаму ж?
Пахваляць, безумоўна,

Калі ты добры муж
І гаспадар цудоўны.

Пахваляць заўсягды
І на ўсялякай працы,
Калі, як малады,
Шмат будзеш завіхацца.

Калі ж яшчэ як след
Дагодзіш Апалону —
Не вырвацца, паэт,
З літкрытыкі палону.

Дбай пра свой творчы рост,
Не скардзіся на долю...
Знай: пяцьдзясят — не ўзрост,
Калі ты — Зэкаў Толік.

## Анатоль аб'ягорыўся

Я самога сябе аб'ягорыў,
Я свой слых аб'ягорыў і зрок.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я спяшаўся, напэўна, дарэмна,
Да вяршыні да лесвічнай лез,
Бо ўсё роўна вышэй мяне дрэвы...

*Анатоль Зэкаў*

Жыў, здаецца, не знаючы гора, —
І мікіціў, і петрыў штокрок,
Аж самога сябе аб'ягорыў,
Я свой слых аб'ягорыў і зрок;

Колькі мог, я імкнуўся угору,
Да вяршыні упарта ўсё лез,

Ды заўважыў: вышэй мяне горы,
Ай, што горы — вышэй нават лес!

Хай бы я занатоўваў без зморы
Думкі свежыя, чорт вазьмі,
Але ўзяў жа сябе аб'ягорыў,
Гэта горш нават, чым падкузьміў.

Бачу я, акунуўшыся ў мора
Філасофскае, пенай што б'е, —
Не магчымасці рушылі ўгору,
А з гадамі — праблемы мае.

Падкупіць застаецца, пад'юдзіць
Мне самога сябе ў гэту золь
І сказаць сабе: не, больш не будзеш
Аб'ягорвацца ты, Анатоль!

## Славаблудная душа

> Неба ноччу — зыбучае золата —
> так і смокча маю душу...
> Не ўратуюся кавай молатай,
> вершагрэшнік — зноў саграшу.
>
> Словаблудная, несуцешная,
> будзе плакаць душа і пець
> і у рай — на святло бязмежнае
> за анёлам услед ляцець.
>
> *Эдуард Акулін*

Пасля порцыі кавы молатай
Не ўсыплю ні плоць, ні душу.
Падуладны начному голаду,
Вершагрэшнік — зноўку зграшу.

Над радкамі чало азмрочыцца, —
Усявышні, мяне не карай:
Словаблуднай душы ўсё ж хочацца
За анёлам ляцець у рай.

## Я хацеў бы...

*Я хацеў бы спаткацца з Вамі,*
як з прынцэсай набожны паж,
каб да ранку чытаць на памяць
Ваша цела, як «Ойча наш»...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я хацеў бы, згубіўшы галаў,
заблудзіцца ў начным бары.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я хацеў бы... Хачу нямнога —
Вас на рай абмяняць у Бога.

*Эдуард Акулін*

Як з прынцэсаю паж набожны,
Стрэчай з Вамі я трызню аж.
Я на памяць чытаю кожны
Ваш капрыз, нібы «Ойча наш»...

Я хацеў бы, згубіўшы галаў,
Заблудзіцца сярод бароў
І ўсю ноч даланёй някволай
Адганяць ад Вас камароў.

Вас кахаць — гэта справа святая,
Ды і грэшная ў той жа час.
Што рабіць, калі Бог запытае,
Ці гатовы я ў пекла за Вас?..

## Не сумнявайся...

Я не аддам цябе нікому,
Я за цябе сябе аддам.

*Віктар Шніп*

Не сумнявайся ні хвілінкі:
Я верны буду назаўжды;
Штурхну сябе ў твае абдымкі —
Не адвярніся ж ты тады!

Даверся слову трапяткому:
Я не аддам цябе нікому.
Я за цябе сябе аддам.
Грашыць гатоў, як той Адам.

## Перасцярога

Не любі мае вершы, бо я
Прыраўную да вершаў цябе.

*Леанід Пранчак*

Не любі, не хвалі, не чытай,
Не чапай лепей вершаў маіх,
Бойся іх, як агню, уцякай
І дзе-небудзь хавайся ад іх!

Хоць яны й пра цябе, о мой цвет, —
Прыраўную да іх, трапяткіх;
Шчэ не бачыў зямны белы свет
Закахана-раўнівых такіх.

Мая рэўнасць ніколі не спіць.
Завітаеш да нас на Парнас —

Не падумай хоць што палюбіць:
Не хачу раўнаваць лішні раз.

Гожы світар на мне — не зважай,
Не краніся знячэўку рукой —
Прыраўную ізноў, так і знай!
Захапляйся выключна ты мной.

Я не ведаю, што мне рабіць.
Моўчкі я над пытаннем стаю:
Ці дазволю табе палюбіць
Незвычайную рэўнасць маю?

## Трэці — не лішні

> Апоўдні расчаруюся ў Мантэні,
> надвечар — у Разанаве.
> З кім трэцім застануся начаваць?
>
> *Валянціна Аксак*

Ніякай не шукайце тут інтрыгі,
загадкі — аніякае.
Хто трэці?
Ну, вядома, — сам Арлоў.

Напэўна, лёсам ён наканаваны,
пісьменнік і законны муж.
Ну як тут не застацца
начаваць!

## Мы з вераб'ём

> Сарвецца з-пад страхі крыклівы верабей —
> зладзюжка, скандаліст, абарыген паддашкаў...
> Ён нечым неўпрыкмет нагадвае цябе...
>
> Я, бабнік і плэйбой, гляджу на вераб'я,
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Ён, як і я, адзін, а ты... ў цябе сям'я...
>
> *Зьміцер Дзядзенка*

Сарваўся з-пад страхі імклівы верабей,
Зладзюжка, скандаліст крыклівы.
Ён чымсьці так мне нагадаў мяне,
Хутчэй за ўсё нахабствам, не наівам.

І з вераб'ём пасябраваў жа я:
Мы — бабнікі з ім. Чым табе паможам?
Вось каб быў я ў кагорце салаўя,
Мы песню з ім табе спяялі б гожа.

## Хранікальная споведзь

> У жыцця аднастайнай хронікі
> ты падзея мая і падзенне.
>
> *Наста Кудасава*

Як прыходзіць вясна, вуснам цесна,
Сэрцу цесна, грудзям — яшчэ болей.
Я тужу, а расту — быццам цеста.
Мне сабе даць так хочацца волі!

Шэры дом, шэры вечар. Бяссонніца.
Без цябе надакучыў мне дзень мой!

У жыцця аднастайнай хронiцы
Ты падзея мая і падзенне...

Вам, дурніцы усе маладзенькія,
Дам такі караценечкі ўрок:
Ад падзеі ў жыцці да падзеннейка —
Толькі крок, неабачлівы крок.

## Перадумаў быць гладышом

...Калі адвекую век свой
На гэтай грэшнай зямлі,
Мне б стаць гладышом гліняным
Для самай прыгожай кветкі,
Зняволенай у гладышы...

*Леанід Галубовіч*

Дзівак-чалавек, не дбаю
Пра выратаванне душы —
Ўвасобіцца я жадаю
Ў гліняным нямым гладышы,
Каб гожую кветку няволіць,
Пялёсткі яе цалаваць...
Павінен сабе дазволіць
Цвяроза паразважаць:
Навошта кветцы няшчаснай
Магільны камфорт гладыша?
У галаве стала ясна,
Ажно забалела душа.

# «Як каню мурагу...»

Мне цябе не хапае,
Як каню мурагу.
Не тужу, не ўсыхаю,
Не іржу, не ўздыхаю,
Не здыхаю,
Не ведаю сам,
Ці кахаю.
Ведаю —
Без цябе не магу.

*Рыгор Барадулін*

Раз цябе не хапае,
Як каню мурагу,
Пра каханне
Пытанне
Зусім адпадае.
Але, хоць не іржу я,
«Дай паесці» — кажу я...
Ведай: больш
Без цябе не магу!

## «З вуллёў прагнаныя трутні»?

А хто там ідзе
па вушы ў глыбокай багне...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Паэты ляцяць у вырай,
з вуллёў прагнаныя трутні.
І кожны — з гучнаю лірай,
і кожны — пры звонкай лютні.

*Андрэй Хадановіч*

Як лёс па паэтах бабахне,
Забудуць сяброўства з лірай, —
То ледзь не тонуць у багне,
То ціха ныраюць у вырай.

Марнуюць слоў самацветы,
Канаюць пры звонкай лютні...
А ўсё таму, што
паэты —
З вуллёў прагнаныя трутні.

## «Я рыфмую ўнутрывенна»

У цішы бібліятэкі
я рыфмую ўнутрывенна.

Ўнутрыслыхава спяваю,
ўнутрызрокава малюю...

*Ярына Дашына*

Ваша Дашына Ярына
Гнуткая, як балярына...
З мікрафонам не бываю —
Ўнутрыслыхава спяваю.

І з мальбертам я не днюю —
Ўнутрызрокава малюю.
Я ў сабе самой зімую.
Ўнутрывенна я рыфмую.

Можа, і жыву фармальна:
Ўсе ўнутры дары схаваны.
І сыду я, натуральна,
Недарыфмаванай...

## Зачыталася...

> Нeяк на днях чытала якраз
> Вашыя вершы...
> Мне захацелася Вас абняць
> па-мацярынску.
>
> Не атрымалася так, было б,
> можа, крыху па-жаночы спакусна.
> Вы цалавалі б мяне ў лоб,
> я Вас — у вусны...
>
> *Ярына Дашына*

Залпам глынула Ваш колішні верш —
Зведала чары
(Гэтак бывае, калі каўтанеш
Нейкае гары) —

І закарцела мне ўраз пабываць
Неяк у Мінску,
Аўтара каб напачатку абняць
Па-мацярынску.

Ах, разумею, на справе было б
Крыху спакусна:

Пацалавала б, вядома, не ў лоб
Я Вас, а ў вусны.

Можа, мы з Вамі знянацку пайшлі б
Сцежкаю коўзкай,
Бо і мяне Вы тады абнялі б
Не па-бацькоўску...

Ой награшыла ж я!.. Трэба сказаць,
Паразумнеўшы:
Шкодна, ой шкодна запоем чытаць
Дрэнныя вершы!

## Як пад гіпнозам

дзяўчына з поступам бусла
я гляджу на цябе быццам сом
быццам слон
я стаю як абарыген з вяслом
у маіх вачах няма
ні думак ні слоў
я зачараваны ад магічнага святла
дзяўчынай з поступам бусла

*Зьміцер Вішнёў*

Дзяўчына з поступам бусла,
Навошта да мяне прыйшла?
Магічным я тваім святлом
Зачараваны, не ўтаю,
Аслупянелы, я стаю,
Нібы абарыген з вяслом;
Няма ні думак, ані слоў,
Гляджу я на цябе, як сом,

Як слон,
А сам гатовы стаць буслом!..

Дзяўчына з шыйкаю бусліхі,
О, прачытай жа верш мой ціхі!

## Дзіўная прага

Прагнецца абрасець
Запыленаму бальшаку,
Няцерпіцца вісець
Пакамечанаму пінжаку.

Мроіцца аблясець
Выкарчаванаму ляду.
Хапае дасвецця лысець
Утуманеламу далягляду.

*Рыгор Барадулін*

Хочацца павісець
Дужа стомленаму кажану,
Прагнецца абвусець
Невусатаму качану.

Хай мроіцца аблясець
Выкарчаванаму ляду...
Не варта паэту лысець —
Няхай сівізне будзе рады!

# Спагада злосным насякомым

Камары хварэюць на бяссонніцу.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Коні
Б’юць па іх хвастамі доўгімі.
Труцяць іх
Начлежныя кастры.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Незайздроснай долі камарынай
Хоць бы хто хоць раз паспагадаў.

*Генадзь Бураўкін*

Божа мой, хварэюць на бяссонніцу
Болей чым мы самі, камары,
Мілым звонам вось паветра поўніцца —
Звоняць насякомыя-сябры.

Птушкі, і жывёліны, і гады
Гоняць камароў і камарых,
Бедным — аніякае спагады,
Коні дык хвастамі хвошчуць іх.

Ну а чалавекі бессардэчныя
Не даюць нідзе спакою ім:
Вогнішчамі, дымам труцяць вечна, —
Выжыць як гаротнікам маім?!

І такія ўжо худыя, кволыя
Нашыя найменшыя сябры!
Гора: ні таблеткамі, ні ўколамі
Ім не дапамогуць дактары...

Мабыць, толькі донарская кроў
Уратуе бедных камароў...

## Жывая ахвяра

> ...Я слепнуць і глухнуць гатовы,
> згадаўшы цябе — ад Кахання.
>
> *Эдуард Акулін*

Здараецца — сохнуць ці пухнуць
Ад мукаў-пакутаў Кахання.
Але каб і слеплі і глухлі —
Не стрэнеш такое ў рамане.

Адкуль жа (ўзнікае пытанне)
Сарваліся лёгкія словы,
Што быццам бы я ад Кахання
І слепнуць і глухнуць гатовы?

Не дай мне бяды гэткай, Божа,
Тады бо ні тата, ні мама,
Ніхто й з дактароў не паможа
Змагчы маю цяжкую драму.

Такое жахлівай няўдачы
Ніколі спазнаць не хачу я,
Бо як тады любую ўбачу
І як яе словы пачую?!

## Цяжкая задача

Ты сёння зноўку з ім, а не са мной,
А я рашаю цяжкую задачу:
Навошта ты забрала мой спакой,
Яшчэ й мой сон і сны мае ў прыдачу?

Табой адной я трызню па начах.
А ты, скажы, хоць раз мяне згадала?
Напэўна ж, не. Я хто? Бяскрылы птах,
Якога ты ніколі не кахала.

Ты маладая, ружаю цвіцеш,
Але ж зімой, бывае, мерзнуць кветкі.
Не пакідай, не пакідай мой верш,
Яму з табой так хораша і светла!

*Мікола Шабовіч*

Ты, маладая, зноўку не са мной.
Ах, як падняць мне рэйтынг мой упалы?
Не цяміш: сохну па табе адной.
Як жыць, калі мяне не пакахала?!

Такая ты крылатая, мой свет!
А я... Хто я такі? Як птах бяскрылы,
Начным бяссоннем змучаны паэт,
Якому без цябе Сусвет нямілы.

Ты пасмяешся мо, што я грашу,
А я рашаю цяжкую задачу:
Нарэшце чым цябе я спакушу?
Я ўсё куплю!.. Махнём, мой цвет, на дачу!

Ты ўсё забрала — сон мой і спакой,
А мне пакуль што не дала нічога.

Ну ўзнагародзь хоць раз сваёй красой,
Яшчэ не позна, не пабойся Бога...

Ты мне сваё хоць абяцанне дай —
Ад слоў тваіх свае памножу сілы.
Не пакідай мой верш, не пакідай!
Я сведка: без цябе мой верш — бяскрылы.

## Форум збаноў ды іншыя цуды

> Статак рагаты — арганы з латынню —
> Выйшаў на поплаў траве памаліцца.
> Форум збаноў паліваных на тыне
> З выпасам першым вітае дайніца, —
> Salve amici! (Вітанне, сябры!)
>
> *Васіль Зуёнак*

Дзе вы такія шчэ ўбачыце цуды:
Моліцца статак — арганы з латынню,
Форум збаноў ленавата-пузатых
Шчыра вітае дайніца ля тыну.

«З выпасам першым, — гаворыць, —
вітанне!
Бачыце, статак ідзе пажывіцца;
Хоць і рагаты, а рады маліцца, —
Пэўна, дзядка-пастуха выхаванне...»

Форум багата праблем абмяркуе, —
Хутка пачнецца збаноў асамблея;
Марля, цадзіць малако праз якую,
Сцягам на ўвесь родны поплаў бялее.

## Нехта Трэці

> П’ём каву. Ну і смак —
> Прагоркла ўся журбою.
> І Трэці хтось няўзнак —
> Між мною і табою.
>
> Хачу цябе абняць.
> Дарунак нам — свабода.
> Ды нехта Трэці нас
> Разводзіць назаўсёды.
>
> *Зінаіда Дудзюк*

Нас двое — я і ты.
Ды тайна не ў сакрэце,
Што нехта не святы
Паўсюль між намі Трэці.

Нідзе не збыць яго!
Нясу да вуснаў кубак —
Ды Трэцяга кагось
Ля кубка бачу губы.

Хоць анікога я
Не запрашала ў госці,
Між намі існуе
Цень Трэцяга кагосьці.

Абцасаў ціхі гук,
А сэрца гулка б’ецца,
У думках зноў бягу:
«Вось ён, вось ён!» — здаецца.

У садзе я прашу:
«Праследаваць мо хопіць?!»

А ён плоць і душу,
Здаецца, зараз схопіць!

Абняць хачу цябе —
Здаецца ж, ён штосілы
(Ад рэўнасці сапе!)
Разводзіць рукі-крылы.

Суняцца аніяк
Не хоча з той прычыны,
Што гадкоў сорак я —
Замужняя жанчына...

Трывога ў галаве.
І тайна не ў сакрэце:
Я свечачку ў царкве
Куплю табе, мой Трэці.

## «Трэба толькі з дуба ўпасці...»

> Ах, як проста, брат, прапасці
> (ні за проста хлеба лусту):
> трэба толькі з дуба ўпасці,
> трэба толькі з'ехаць з глузду.
>
> Вершы стаць пісаць уночы...
>
> *Сяргей Рабчун*

З глузду я пакуль не з'ехаў
І таму ўсё добра помню:
Вечар быў маёй уцехай,
Залатыя зоркі з поўняй.

Апынуўся я за лесам,
Там сустрэўся дуб высокі,

На яго тады залез я
І наўкола кінуў вокам.

Нечакана адбылося
Галавы маёй кружэнне
І тады ўсю зведаў сілу
Я зямнога прыцяжэння.

Як ляцеў, пра вершы думаў,
З музай быць хацеў у згодзе,
Як упаў, пабіў калені
І сярэдзіну пашкодзіў.

З той пары не сплю ад болю,
Я на свет расплюшчыў вочы,
Па сваёй па добрай волі
Вершы стаў пісаць уночы.

## «Над старою галавой»

> Я не грашу любоўю, а жыву,
> Яе ў душы сваёй перажываю.
> І на маю старую галаву
> Пялёсткі бэзу прылятаюць з маю.
>
> *Алег Салтук*

Калі яшчэ мой розум малады,
Зусім не шкодзіць галава старая.
Хоць менш грашу апошнія гады,
Ды вершы па-ранейшаму ствараю.

Закрочыў май па вуліцы са мной,
Як зорачкі, вісяць пялёсткі бэзу

Па-над маёй старою галавой,
І клічу я цябе, мая гарэза.

Абцасікам ты па Зямлі дасі —
Яна, як мяч, закруціцца бясконца
Не тое што вакол сваёй асі —
Вакол самога Сонца.

Шуміць вада, лістота і трава.
Іду, тапчу траву я маладую.
А што ў мяне старая галава,
Паверце, я ніколькі не шкадую.

## Маладая мроя старога чалавека

> Якія сталі мы старыя —
> Ні паказаць, ні паглядзець...
> Імчаць шалёна вараныя
> У смутку, радасці, бядзе.
>
> *Алег Салтук*

Якія мы старыя сталі:
І зубы, што радзей тырчаць,
Амаль эмаль не захавалі,
І вочы праз туман глядзяць.

Ужо і выпраўка не тая,
Зусім не тая ўжо хада...
І толькі памяць маладая,
Якой гадкоў былых шкада.

Вось паўзабытую смуглянку
Я не магу забыць ніяк,

Віно й каханне аж да ранку
З ёй піць ізноў хацеў бы я!

Хацеў бы, толькі ж як спаткацца?
Не знаю, дзе любоў мая
І ці захоча сустракацца,
Калі не дужа здатны я?

## Як зразумець?..

Я пачынаю разумець вясну,
Якой не зябка грэць сваю завею.
Я пачынаю разумець віну
Сваю.
Адно сябе не разумею...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сон глытае мяне,
Як кіслае малако...

*Рыгор Барадулін*

Да разумення спакваля іду,
Усіх і ўсё амаль што разумею:
Пачаў я разумець найперш ваду.
Вясну тым больш я зразумець умею.

Паціху разабраўся і з жудой —
Карцела зразумець яе таксама.
Я доўга біўся над сваёй віной,
Няпрошанай і нежаданай самай...

Сябе ж самога летам і зімой
Разгадваў я — у спёку і ў завею, —
Зрабіў выснову розум мудры мой,
Што ўсё яшчэ сябе не разумею.

Сябе самога зразумець мне як?
Ноч каратаю — думкі ўсё чытаю.
Я кісну пакрысе, і, як кісляк,
Салодкі сон мяне бярэ, глытае.

## Хутаранін у горадзе

> Ішоў я
>             у шырокі свет
> з бабышаўскага хутара...
> ...І хутар здзірванеў, і след
> хлапца пераабутага.
> . . . . . . . . . . . . . . . .
> Цяпер,
>             бы з абмалота куль,
> тырчэць я буду ў горадзе.
>
> *Сяргей Панізнік*

Выходзіў з хутара я ў свет,
З бабышаўскага хутара.
У горадзе узрос паэт
З хлапца пераабутага.

Ці йшчэ ўдалося што знайсці
У гэтым самым горадзе?
Ды ён мяне ж абмалаціў,
Як жыта сноп, — во гора дзе!

Цяпер,
            нібы саломы куль,
Тырчэць тут і застаўся.
А ён: «Ідзі, прыйшоў адкуль!
Ты мне навошта здаўся?!»

Я да ўсяго прывык, але
Скажу душой адкрытаю:
Не ведаю, як жыць далей
З такой вялікай крыўдаю.

## Які тут сон?!.

> Не лезе сон пад парасон.
> Дзе вы, дажджы на хутары?
> Азяблы час. Маё крысо
> Твой кантынент ахутвае.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Я да калматага камля
> Прыму цябе — уаначкі.
>
> *Сяргей Панізьнік*

Няма дажджу, спіць парасон.
І цішыня на хутары.
Але які быць можа сон,
Калі плашча майго крысо
Твой кантынент ахутвае!

Сярод лугоў, сярод садоў
Сатчэцца ноч тут хараша.
Няма й слядоў ад халадоў —
На кантыненце горача!

Але ні зблізку, ні здаля
Не свішчуць берасцяначкі,
Бо да калматага камля
Прыняў цябе я ў наначкі.

## Была фантастычная спёка

Прысеў ад спёкі
ў рэчку мост...

*Уладзімір Мазго*

Скуголіць вецер, як шчаня...
Такі не шкодны вецер!
Не спаліць нас гарачыня
Калі і возьме ў сеці.
Наўсцяж дарог пыл праплыве,
Папудрыць нас нядоўга.
Крынічкі голас ажыве.
Не мулка стане стогу.
І да вады трава наўпрост
Няхай бяжыць патроху...
Калі ж прысеў у рэчку мост,
Дык бойся катастрофы!

## Мне ўсё-такі пашанцавала

...І я там быў, і я там піў,
Усё, як іншыя, рабіў.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Тры дні балела галава,
Хадзіў, як безгаловы.
Загадка мучыла адна:
«Піў за здароўе я да дна,
Чаму ж я нездаровы?..

*Анатоль Вярцінскі*

Калісьці Бахус падбадзёрваў,
А д'ябал спрытна падліваў...

Пасля дурнела галава —
Я шлях дадому ледзь агорваў.

Мяне апанавала скруха:
Ніякага не меў я руху.

Ляжаў назаўтра — як калода;
Як безгаловы, я хадзіў
І ўсім сямейнікам наўздзіў
Тры дні майстэрствам не валодаў.

Канстатаваць павінен тут:
Адбыўся незвычайны цуд!

Бы нейкі дух шапнуў на вуха:
«Ты глупства болей не рабі —
Глядзі: як іншыя, не пі,
Каб не ўпадаць надоўга ў скруху!»

І з кожным разам я мудрэў,
У лішніх дозах не гарэў.

Заззяла неба ідэала,
І я ў нябачнай барацьбе
Паволі ўтаймаваў сябе.
Мне ўсё-такі пашанцавала:

Не спіўся я ды не зачах,
І галава ёсць на плячах.

Яшчэ прызнацца я гатовы:
Відаць, таму што меру знаў,
Як творца я вядомы стаў,
Стаў майстра адмысловы.

(Хоць і не толькі ў тым сакрэт,
Бо з ласкі Боскай ёсць паэт!)

Цяпер скажу, чаму мне прыкра.
Таму што іншыя шмат п’юць,
Бы д’яблу душу прадаюць,
З мяне узяць не хочуць прыклад!

Хоць за здароўе кажуць тост,
Хірэюць і спыняюць рост.

## Помста за касы позірк, альбо Суцэльны мардабой

Мне раптам здалося,
                    што мой візаві
Глядзіць на мяне неяк коса.
Я ўдарыў яго вышэй носа.
Як хочаш ты гэта назаві...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А мой візаві размахнуўся
                    і — раз! —
Ударыў мяне па твары.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Значыць, правільна я зрабіў,
Што першы морду яму набіў...

*Анатоль Вярцінскі*

Не з тых я, не з тых,
                    хто падставіць шчаку
(Не важна — васалу ці босу);
Адчуе, што сіла мая ў кулаку,
Хто хоць бы зірнуў неяк коса.
Вось так і майму аднаму візаві

Урэзаў быў я вышэй носа,
Як хочаш, так гэта і назаві.
«Ты варвар!» —
мне крыкнуў хтосьці. —
Навошта волю даў кулаку?!»
А мой візаві
стаў чырвоны ад злосці —
Ні раку не зраўняцца, ні бураку —
І ўмазаў рашуча мне па твары!
Ну, вось ён, важкі мой аргумент:
Варвар я ці не варвар?..
І тут я ўрэшце адчуў асалоду:
«Значыць, правільна ўсё зрабіў.
За погляд касы яго
з ходу
Я морду яму набіў.
Нахабнік, як ён паспеў
даць здачы?!
Яму не зашкодзіў разбіты нос...
Няхай жа ведае, што я значу!
І ўжо болей злосна кулак занёс!

*P. S.*

Даўно ўсё было
у стагоддзі былым.
Гарачы я быў маладым.
Цяпер часам сніцца мне
мой візаві
З пытаннем адным
і з дакорам адным:
«За што ты мне морду набіў
да крыві?..»

## Не ўцямлю, анёл ты ці злодзей

Ты, мабыць, анёл цнатлівы
З нябёсаў пад нумарам сем.
Мяне ты зрабіў шчаслівай,
Адкрыўшы пачуцці ўсе.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мяне навучыў каханню
На коўдры пяшчотнай нябёс...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Спакуснік, мой злодзей ласкавы,
Застанься, са мной не марудзь.

*Кацярына Цвяткова*

Мяне ты зрабіў шчаслівай,
За шчасце, як кажуць, пацеў,
Пасля, бы анёл цнатлівы,
На сёмае неба ўзляцеў.

Смяльчак ты пад маскай анёла,
Спакуснік, пад коўдрай нябёс
Каханню вучыў ты, няквола,
Так лоўка заблытаў мой лёс.

Рашучы мой, злодзей ласкавы,
Мяне навучыў ты грашыць.
Чакаю цябе, грэю каву...
І верш напішу — для душы.

Крадзеш ты мяне часткова,
Сапраўдным зладзюгаю будзь,
Ты не прамарудзь — канчаткова
Ўсю ўкрасці мяне не забудзь.

## У непагадзь

Дождж па шыбе стукае абцасам,
Кроплі нібы просяць паратунку.
Непагадзь...
А мы з табою разам,
Цешымся асеннім пацалункам.

*Кацярына Цвяткова*

Непагадзь — надзейны мой ратунак:
Поўня патанае разоў сто;
Я твой п’ю асенні пацалунак,
Грэх жа мой не бачыць аніхто.
Да таго ж і аніхто не чуе,
Недзе людзі і аўто снуюцца...
Можа, ў непагоду заначуеш?
Твае вочы для мяне смяюцца!
Для мяне твае смяюцца губы,
Для мяне і сэрца твае б’ецца.
Зноў і зноў мяне галуб, мой любы!
Любы ты? Ці толькі мне здаецца?
Пацалункам цешымся асеннім,
Так дарэчы мы з табою разам!
Ды навошта, страціўшы сумленне,
Лупіць дождж па шыбіне абцасам?
Мабыць, так раўнуе госць нябёсаў,
Стукае не пальцам — б’е абцасам!
Думала, увогуле ён босы...
Мабыць, боты абувае часам?
Хваліцца сваёю сілай грубай,
Смаліць па акне, як безгаловы!
Што, як выб’е шыбу, о, мой любы?!
Ў крыўду не дасі сваю Цвяткову?

# Пасланне віноўніку, альбо Плач «куточкамі вачэй»

> Цяпер ты ведаеш мяне усю
> навобмацак, усе яры й абрывы,
> з глыбінь якіх не бачна нават зор.
> Ад галавакружэння плакаць слёзна.
> Цяпер ты ведаеш, наперакор
> каму мне заставацца несур'ёзнай,
> да непрыстойнасці шчаслівай і яшчэ
> банальнаю да казытання ў горле?..
> Я плачу ў столь куточкамі вачэй —
> так невыносны зморшчынкі міжброўя!
>
> *Ярына Дашына*

Калі ты ведаеш усю яе
Навобмацак, усе яры й нізіны,
Чаму ў цябе ўжо клёку не стае
Не крыўдзіць болей
шчырую дзяўчыну?
Ці думаў ты, цяпер навошта ёй
Банальнай заставацца, несур'ёзнай?
Ёй, пэўна, з ласкі не чыёй — тваёй
Да галавакружэння «плакаць слёзна»!
Калі зрабіць яе аднойчы змог
Ажно да непрыстойнасці шчаслівай,
Чаму яе ты шчасце не збярог
У гэтай кругаверці мітуслівай?
Прызнайся, прычыніў дзяўчыне боль
(Не важна, непасрэдна а ці ўскосна)?
Ты зразумей: яна рыдае ў столь
«Куточкамі вачэй», ой, невыносна!

## Паэтка «сыходзіла з Неба»…

Калі я сыходзіла з Неба,
маліўся адчайна Анёл:
там цёмна, зласліва й ганебна,
там выесць душу груганнё…

Ні праўды, ні зоркі, ні шляху
на зглохлых абсягах зямлі.
А я паляцела над жахам,
аж нервы прасторы гулі.

А я абярнулася птахай…

*Антаніна Хатэнка*

Хрыстос на зямлі нарадзіўся,
Тут рос, ахрысціўся Хрыстос,
Пасля на нябёсах з'явіўся,
Калі на зямлі уваскрос.

Зямная была і Марыя,
Святая матуля Хрыста…
Ды знайце, малыя й старыя:
Хатэнкі на небе быў старт:

Расла тут і духам і целам,
Галубіла вершы свае.
Калі ж да людзей захацела,
Анёл папярэджваў яе:

Там цёмна, ні шляху, ні зоркі,
Там праўды заўжды дэфіцыт,
У той рэчаіснасці горкай
Твой сон прападзе й апетыт…

Яна ж абярнулася пташкай,
А ў мёртвую ўпала ваду
І скардзіцца ўжо, бедалажка:
«Ніяк берагоў не знайду».

Бяда, відавочна, без сушы,
Бяда без жывое вады:
Згубіць гэтак можна і душу, —
Гарчэй не бывае бяды.

Вісіць над душою пытанне,
Бясконца яно паўстае:
У шчырым яе пакаянні
Ці вернуць нябёсы яе?

## Простае шчасце

Ні Беатрычэ — Дантэ, ні Лауры
Петрарка нават не пацалаваў,
Тады як да тваёй атласнай скуры
Мне лёс магчымасць дакранацца даў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
На жаль, мой талент не такі ўжо яркі,
Някідкая паэзія мая...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Высокім стылем Дантэ і Петраркі
Табе ў каханні прызнаюся я.

*Уладзімір Скарынкін*

Петрарка й Дантэ горача кахалі,
Аддана гэтак мала хто кахаў,
Сваіх каханых так абагаўлялі, —
Высокі стыль абодвум памагаў!

Паэты Апалона і Амура
Жаночаю натхняліся красой,
А я, Скарынкін, — хіба толькі скурай,
Ну, адпаведна творчасці маёй.

Натхнёны скураю тваёй атласнай,
Ў каханні сціпла прызнаюся я, —
Ці можа ўзяць Петраркі стыль
прыўкрасны
Някідкая паэзія мая?

## Наглытацца б!..

наглытацца з ракі тваёй душы
спакою і цішыні
вада празрыстая аж бачныя на дне
каменьчыкі тваёй пяшчоты

з ласкавасцю ўсміхаецца Буда
усе дарогі свету
скручаныя ў абаранак часу
кінутыя да яго ног.

*Віка Трэнас*

наглытацца б з ракі душы тваёй
спакою і цішыні
ды замінаюць мне на самым дне
пясчынкі тваіх дурных звычак
каменьчыкі тваёй самоты
а больш — тваіх капрызаў валуны
а горш за ўсё што свавольнік Буда
прастору Сонечнай сістэмы
скруціў у абаранак часу
як жа мне дабрацца да цябе

шкада як не дабяруся
я табе спадабалася б
валасы ў мяне доўгія
а спадніца кароткая
таленавітая модніца

## З кіпцюроў ненаеднага лёсу

> шлях да цябе пакручасты,
> быццам горная сцяжынка...
>
> *Віка Трэнас*

шлях да цябе пакручасты,
бы твой хрыбетнік і плечы,
заблытаны,
быццам твой лабірынт пачуццяў,
бы сутарэнні тваіх абяцанняў,
быццам пасма тваіх валасоў,
ускудлачаных маёй
жартаўлівай рукою...
помніш, цябе як схапіў ненаедны
гострымі лёс кіпцюрамі сваімі,
падсілкавацца гатовы,
ды спалохаўся ён,
як цябе я ўхапіла зубамі —
з кіпцюроў выдзірала!
зубы — сіла на беразе дзікага мора;
не збяжыш ты цяпер ад мяне
да бяззубага лёсу ў абдоймы!

## Я, вецер і ты

Паклікаў мяне вецер, а я
Якраз табе ўслед паглядаў,
А ты была зусім не мая...

Памацаў вецер мне галаву,
Сказаў, што не пустая яна...

Памацаў вецер мне галаву,
Сказаў, што пасівела яна...

*Алесь Камоцкі*

Самоты я калісь не цярпеў,
І ты была не такая раней.
Калісьці клікаў я цябе.
Было — і клікала ты мяне.

Які той час аказаўся круты —
Усё так хутка паспеў змяніць:
Ужо са мной гамоніш не ты,
Таму галава ў мяне баліць.

Тут раптам хуткі, нібы экспрэс,
Паклікаў вецер, кажа: «Саш!..
Бачу, перажыў ты нейкі стрэс,
Давай галаве зраблю масаж».

Я паслухмяна сеў на траву,
Памацаў вецер мне галаву,
І вольны вецер гукнуў: «Ого,
Зусім не пустая яна!»
А я падумаў: «І што з таго?!..»
Бо ты стаяла моўчкі адна.

Кранула вея маю галаву,
Кажа: «Ой, пасівела яна!»
А я не верыў, бо я зірнуў
Туды, дзе ты стаяла адна...

## За якія грахі?..

Я стаю прад іконамі,
Прабачэння прашу.

Ды журбы не паменела
І даўгоў за грахі.
. . . . . . . . . . . . . . .
Я душу сваю грэшную
Ўсё ірву на шматкі...

*Міхась Башлакоў*

Ні ў жытле, ні пад кронамі
Вершы я не пішу,
А стаю прад іконамі,
Прабачэння прашу.

Не забыў незамоленых
Размаітых грахоў —
Знаю, маю няўмольны я
Свой рахунак даўгоў.

Думкі ж гэткія кволыя —
Не знаходзіцца слоў,
А без іх думкі голыя —
Не знаходзяць шляхоў.

Пакаяннямі скуты я,
Слоў не маю, хоць плач,

І таму я пакутую,
Мой трывушчы чытач.

Хоць душа — і не шмотачка,
І не аркуш які, —
Як калісьці рваў фотачку,
Рву душу на шматкі...

## Затарможаныя

> Ніводнае нядзелі
> Мы разам не сядзелі...
>
> Самотныя нядзелі,
> Тужлівыя суботы...
> . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Зруш
> Згук
> Мук
> Душ.
> Зруш
> З рук
> Пук
> З руж.
>
> *Уладзімір Мархель*

Ніводнае нядзелі
Вы разам не сядзелі...
А што з таго сядзення,
Калі няма трымцення?!

Калі няма імпэту,
Тады ідзе самота,
Самота без прасвету,
Тужлівая субота.

Калі звядзеш надзею
Да бытавой турботы,
Што прынясе нядзеля,
Што можа даць субота?!

Дуж
Будзь,
Сум
Збудзь!
Зруш
З душ
Сон
Дзён!

## Круты паварот

> Непадалёк ад лугавіны,
> дзе ёўня некалі была,
> язмін пытаецца ў каліны,
> чаму так рана адцвіла.
> . . . . . . . . . . . . . . . . .
> ...Шуміць чарот і гнуцца вербы
> там, дзе мяне цяпер няма.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Я кахаў цябе кожным вершам...
>
> *Іван Лагвіновіч*

Сцяжынка тупкая ад весніц
Вяла паўз плот за агарод.
Там нам дарэчы, нібы ў песні,
Шумеў пад вербамі чарот...

Непадалёк ад лугавіны,
Дзе ёўня некалі была,

Не запытаўся я ў жанчыны,
Чаму так рана адцвіла.

Сцяжынка крута ўбок паверне,
Ў кусты знячэўку сігане...
Шуміць чарот, дзе быў я верны
І дзе даўно няма мяне.

Магчыма, ты і не паверыш:
Я не хачу цябе шукаць.
Прабач, прабач, я толькі вершам
Яшчэ магу цябе кахаць.

## Я — такая!..

> Я благая, благая, благая,
> І намеры мае благія,
> Сёння я з табою гуляю.
> Заўтра кіну цябе на гібель.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Прыналежнасць маю да багіняў
> Ты пацвердзіў сягоння ўночы...
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Проста сёння ты быў каханак.
> Ну а заўтра — малы ды смешны...
>
> *Людміла Шчэрба*

Дадатковы кайф атрымаю
Ад таго, што адна не згіну,
Што я сёння з табой гуляю,
А ўжо заўтра на згубу кіну.

Прыйдзе ясны цвярозы ранак —
І заўважу пасля ночкі грэшнай:

Ты, пры месяцы ладны каханак,
Стаў пры сонцы малы ды смешны.

Ды чаго забягаю наперад?
Самаўпэўненасць, знаю, не згіне:
Калі трапіў ты у мой нерат,
Залічыў мяне ажно ў багіні!

Хоць, у прынцыпе,
ранкам цвярозым
І пакрыўдзіць мяне можаш крышку:
Як прачнецца твой ясны розум,
Назавеш мяне мо замухрышкай.

## «Сам сябе абдымаю за шыю»...

Ложак стыне завейным пагоркам —
Не сагрэцца і не заснуць...

Сам сябе абдымаю за шыю,
Быццам маю намер задушыць...

*Васіль Зуёнак*

Дзе ты, дзе, майго лёсу жанчына?
Існую без цябе дзень другі.
Жонка-нянька мая, ты — прычына
Хваляванняў маіх і тугі.

Як пакінула ты Лысагор'е.
Не знайду супакою ніяк.
Ці адужаю гэткае гора:
Без цябе не сагрэюся я;

Спальня выстыла, стыне мой ложак,
І на кухні я — нібыта госць,

Не знайду ані місак, ні лыжак
І не ў курсе, паесці што ёсць.

Зрэшты, што я кажу! Ці да ежы,
Калі цалкам прапаў апетыт?
Ад цябе я так моцна залежу!
Ну навошта ад'ехала ты!

Нават гузічка сам не прышыю
Да кашулі, а трэба прышыць.
Сам сябе абдымаю за шыю —
Па табе прадаўжаю тужыць.

Ходзяць павамі жонкі чужыя,
А ў мяне цяжка так на душы!
Сам сябе абдымаю за шыю,
Быццам маю намер задушыць...

Цяжка слухаць мне шыны машынаў,
Што імчацца па блізкай шашы...
Прыязджай, майго лёсу жанчына,
Пакуль сам сябе не задушыў.

## «Мне хораша ў метафарах куляцца», або «Мой стог радкоў расце»

> Пластуе век зацята дні і ночы...
> Мой стог радкоў расце,
> кранае хмары.
> Як у маленстве на духмяным сене,
> Мне хораша ў метафарах куляцца...
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> «Да навальніцы трэба стог завершыць» —
> Падкажа лёс з душою селяніна,
> А я і сам даверлівыя вершы
> Гніць пад крутой залевай не пакіну...
>
> *Сяргей Законнікаў*

Мой стог расце й расце,
кранае хмары,
Ён радуе душу, чаруе вочы;
Пра гэткі рост
калісь мог толькі марыць,
Мой гэткі рост
ніхто не мог прарочыць.

Малым куляўся на духмяным сене,
Цяпер люблю ў метафарах куляцца.
Ды ці не стане справа, ці не стане,
Калі куляннем буду захапляцца?

Да навальніцы ж трэба
стог завершыць
(Так дзеецца са звыклымі стагамі)...
Хто спажывацьме сена маіх вершаў,
Калі залез на іх, стаю нагамі?

Стаю на стозе й думку я гадаю,
Папрацаваўшы слаўна, у ахвоту:
Метафару маю хто ўпадабае,
Як раптам стог мой загніе у слоту?

Ці не зашмат на сене я куляўся
І верш пасля
застагаваць
спяшаўся?
Цяпер мая хвалюецца душа ўся:
Метафарай ці тою захапляўся?

## «Калі ў кішэні грошы маеш»

Ўсё прадаюць, што пажадаеш,
Калі ў кішэні грошы маеш.
Дыхнуць гандлёвыя рады
Духмяным водарам грады —
Спакусяць спелым ураджаем.
Укусяць цэны — не зважаем.
Ах, Камароўка, Камароўка!..
Чаруе нас, нібы салоўка.

*Уладзімір Мазго*

Ах, Камароўка, Камароўка!..
Забудзеш пошчакі салоўкі,
Калі зайграе страўнік маршы
І ўжо аб смачнай ежы марыш.
Рады гандлёвыя спакусяць —
Тады знайсціся грошы мусяць.
Калі знячэўку цэны ўкусяць,
Зважаць ну хто сябе прымусіць
На камарыныя укусы?

Не меўшы градак і кароўкі,
Не прамінеш ты Камароўкі.

## Абразанне слоў — абраза Слову

...і кожны мінак — манах
бо ў сэрцы неба і Бог
і ты ім патрэбны нах...
але й табе яны пох...

*Андрэй Хадановіч*

не думай, што ты — атлант,
што скажаш за ўсіх мудрэй;
а хтось абзывацьме: Анд... —
дадай неадкладна: рэй.

## «Ты такі старажытны, каханы...»

Ў кучаравай тваёй барадзе
Быццам зоркі блішчаць дзе-нідзе...
Ты такі старажытны, каханы,
Як мастацтва Месапатаміі!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Лягу-стаюся,
Перлінкай закачуся
У шчылінку прасторавую:
Буду чакаць званка тэлефоннага...

*Людка Сільнова*

Ў кучаравай тваёй барадзе
Бліскавіцы блішчаць дзе-нідзе...
Ты такі старажытны, каханы,
Й неабходны такі, як дыханне!

Думка ўсё з галавы не ідзе
(Сумна мне па тваёй барадзе):
Ці мабільнік табою нажыты?
Без яго нельга, мой старажытны!

Ну калі ўжо
звaніць ты мне станеш?
Сваю перлінку ты ці дастанеш?
Я лягла-стаілася,
Ды чакаць стамілася!

## Пляжны роздум

І чакаеш такога марозу,
Каб на ім да знямогі ўкалець.

Але птушка, што ў сцюжу ўцалела,
Мне аддасць сваіх колькі пушын,
Каб да кроплі ўкалелае цела
Прыгарнулася зноў да душы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І ў пене марскога прыбою,
Якому падстаўлю руку,
Мне пахне здалёк малацьбою.
Мая — вось на гэтым пяску.

І ўзнікнуць, падобныя цуду,
Аўсянае поле і плёс...
Ды ўгрэю мазгі і забуду,
Як сыплецца ў кузаў авёс.

*Уладзімір Марук*

Я кампост пад авёс вывозіў.
Быў мароз там драпежны, як леў.
І, прызнацца, на лютым марозе
Ледзьве-ледзь я не акалеў.

Гэта шчасце, што дзікая птушка
Даравала мне цёпленькі пух,
Болей вершы б свае
ўжо не гушкаў
Бо, як кажуць, спусціў бы дух.

А калі ўкалелае цела
Прыгарнулася зноў да душы,
Закарцела яму, закарцела
Раз — за мноства гадоў —
саграшыць.

Грэх пякучы такі, грэх мой цяжкі:
У жніво я на мора махнуў;
Землякі на жніве, бедалажкі,
Я ж ляжу на пяску, хоць бы хны.

Хоць паветра марское так пахне
Мне палескаю малацьбой,
Але думка трывожная прахне,
Як гляджу на марскі я прыбой.

Хоць і ўзнікнуць, падобныя цуду,
І аўсянае поле, і плёс.
Ды, угрэўшы мазгі, я забуду,
Як ліецца у кузаў авёс.

Разважаю ж даволі цвяроза,
Не згарэўшы на пляжы
ледзь-ледзь,
Што цяпер
не паддамся марозу,
Больш ніколі не буду калець.

## «Тут не бэсцяць, не лаюць, не чубяць»

Захацелася зноў на прыроду...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Тут не бэсцяць, не лаюць, не чубяць
Тут, мажліва, жаданы я госць.
І мяне неспакойнага любяць,
Ну такога, які я і ёсць.

*Алесь Жыгуноў*

Захацелася зноў на прыроду,
Дзе раса, і грыбы, і дубы...
Дзе яшчэ так адчую свабоду?!
Так даўно на прыродзе не быў!

Ёсць куткі, дзе не швэндаюць людзі.
Калі б нават пачаў там крычаць,
Не аблае ніхто, не асудзіць,
Будзе нават асіна маўчаць.

Дуб, яліна ніколькі не чубяць,
Аніколі ніхто не кляне.
Там бярозкі пяшчотныя любяць,
Як маленькага, гладзяць мяне.

Адпачну я душой на прыродзе,
Дзе анёлаў чутны галасы,
А пасля і ў жыццёвай нягодзе
Ўспамінаць буду я свет красы.

Ён ад ліха мяне ахавае,
Захаваецца аўра мая.
Хто б ні бэсціў, ні чубіў, ні лаяў,
Буду я, нібы камень, стаяць.

## «Каля зачыненых дзвярэй»

Я прыпыніўся на парозе —
За ім вяло каханне рэй.
Так і застаўся на марозе
Каля зачыненых дзвярэй.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Па восені, а можа па вясне,
Ты вернешся аднойчы да мяне...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
«Дзе ты была? — спытаць не захачу,
А проста так і мудра прамаўчу.
Ды вочы найсамотныя мае
Раскажуць, як цябе мне не стае.

*Алесь Жыгуноў*

Спыніўся я перад парогам.
Пра тое, што было за ім,
Тады падумаў я з трывогай:
«Ці ты з сапернікам маім?!»

Лічы, здранцвеў я на парозе
(Хай бы ўцякаў дамоў хутчэй),
Так і застаўся на марозе
Каля зачыненых дзвярэй.

На дыванку, як кот, скруціўся,
Сагрэцца марыў я дарма,
Бо аж да раніцы круціўся:
Мароз не даў і падрамаць.

Твае ж зачыненыя дзверы
Не праклінаў нікольki я,
Я толькі верыў, моцна верыў,
Што радасць вернецца мая!

*

Пытаць не буду:
«З кім жа ты была?
Ці добра тую ночку правяла?»
Я проста так і мудра прамаўчу
На радасць ці на гора чытачу.

## Рука на пульсе гісторыі

Рэсурс гісторыяй не выбраны,
Ёй не вядомы жаль і страх.
Яна такія робіць выбрыкі,
Што аж бянтэжыць іх размах.

Яна нязведанымі торамі,
Нібыта лбом, у вечнасць б'е...
А я гляджу на шал гісторыі
І супакойваю яе.

*Сяргей Законнікаў*

Дзівачка матухна гісторыя —
Такія выбрыкі ў яе!..
Яна нібы псіхічна хворая,
Нібы ілбом у вечнасць б'е.

Асобы роля у гісторыі
Даўно вядомая, і я
Гісторыю як след настройваю —
Такая місія мая.

Адкладваю, заняты працаю,
Ўсе справы лепшыя свае,
Я пульс гісторыі ўсё мацаю
І супакойваю яе.

## Навошта грэцца вечнасці?

Світанне і змярканне
Хмураць бровы.
Аб лоб нябёс
Пытанне хмарай трэцца:

А можа, людзі —
Маладыя дровы,
Якія вечнасць паліць,
Каб пагрэцца?

*Рыгор Барадулін*

Гасподзь жанчыне
Даў на заглядзенне
Красу — і ля яе
Мужчына трэцца.

Няўжо красуня —
Паміж дроў палена,
Якое вечнасць паліць,
Каб пагрэцца?

Вучоны Ньютан,
Творца адмысловы,
І геній Моцарт,
Пакарыцель сэрцаў!..

Няўжо іх вечнасць,
Нібы тыя дровы,
Спаліла, каб
Пацешыцца, пагрэцца?!

Хто толькі Барадуліна
Не хваліць!

Ён піша мудра —
Ўсякі стыль даецца.

Няўжо й яго,
Нібы палена, спаліць
Яе вялікасць вечнасць,
Каб пагрэцца?!

Але ж навошта
Вечнасці так грэцца,
Калі з уласным сконам
Ёй не стрэцца?

І ў халадку
Ці блага ёй жывецца?
Хіба дарэмна
Вечнасцю завецца?

Калі ж ёй сонца
Цёплага бракуе,
То нафты, й газу,
Й торфу да халеры,

Каб наталяць
Уволю жарсць такую, —
Палі ды грэйся
Ў меру і без меры!..

## «Я шаленству свайму не дарадца»

> Думкі хочуць забыцца цябе,
> Але
> Напамін — забыццю не дарадца.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Я хачу цвярозым пабыць,
> Але
> Я шаленству свайму не дарадца.
>
> *Рыгор Барадулін*

Так маркоціцца сёння віно
На стале,
І да закусі лёгка дабрацца.

Запрасіць я хацеў бы цябе,
Але
Жонка верная тут не дарадца.

Часам хочацца зрушыцца
Нават скале,
Вогнішчу — з ночкай пабрацца.

Я пайшоў бы і сам да цябе,
Але
Ўсё ж баюся: магу не дабрацца.

Відавочна, што самадакор
Пасталеў.
Будзе доўга віна дакарацца.

Я хацеў бы забыцца цябе,
Але
Я самому сабе не дарадца.

Самы пост, хлеб ды бульба ёсць
І алей,
І за чарку можна не брацца.

Я хачу цвярозым пабыць,
Але
Я шаленству свайму не дарадца.

## «Навошта мне вочы?.. Навошта мне рукі?..»

Навошта мне вочы, калі я не бачу,
Навошта мне рукі, калі не абняць
Жанчыну, якую кахаю і плачу,
Як неба, якое не ведае дня,
Бо хмары яго запалонілі з ночы,
Нібыта мяне, калі я быў адзін
І думаў пра лёс свой самотны
і воўчы...

*Віктар Шніп*

Не бачу цябе,
не гляджу табе ў вочы,
А рукі не могуць ласкава абняць —
Падобны мой лёс на сабачы,
на воўчы,
Гатоў я завыць сярод белага дня,
Не толькі сярод цёмнай доўгае
ночы,
Калі неўтаймоўная думак гайня.

Але не пытайся,
навошта мне вочы.

Ды што без вачэй я рабіў бы
цяпер?
Хачу захапляцца красою жаночай
І плакаць, калі не пабачу цябе!

Яшчэ не пытайся,
мне рукі навошта,
Бо, нават калі ўжо цябе не абняць,
Без рук як адправіць мне вершыкі
поштай
Дый як на камп'ютары
мне іх набраць?
Без рук нецікава увогуле жыць,
Бо нават не можаш сябе абслужыць.

## Пакуты кахання

Я гатоў свае вершы спаліць,
Каб сцяну паміж намі разбіць
І пачаць свае вершы наноў
Пра каханне сваё і любоў
Да цябе да адной...
. . . . . . . . . . . . . . .
Каб паверыла ты і мяне
Утапіла ў каханні, нібыта ў віне...

*Віктар Шніп*

Каб сцяну паміж намі разбіць,
Каб змагла ты мяне палюбіць,
Быў гатовы ўсе вершы спаліць,
Што раней выдумляў, спапяліць!
Уяві: ахапіў іх агонь!
Ды падумай, прыкінь: што з таго?
Я спалю, а пасля — хоць ты плач, —

Бо запомніў іх пільны чытач.
Дый ці спаліш усе тыражы?
Немагчымае, што ні кажы!
Тыражы падпаліць — то не жарт:
Можа ўзнікнуць вялікі пажар...

Так што можаш мяне не любіць,
У каханні сваім не тапіць,
Бы ў шыкоўным чырвоным віне, —
Адпакутаваў, досыць з мяне!!!

*P. S.*

Ўсё ж раўнуеш да вершаў былых.
Эх, дарма: выдумляў жа я іх!

## «Не баламуць людзей, браток!»

Чытаў я вершы ў электрычцы
Пра хлеб, пра маці, пра любоў...
Дзяўчо ў кароценькай спаднічцы,
Бабулька з торбай буракоў,
Жанчына, з твару — Магдаліна,
Мой вольны слухалі радок...
Ды раптам голас: «Кінь, мужчына,
Не баламуць людзей, браток!»
Нібы здрапежаны палонны,
Я ў сэрцы халадок адчуў...
«Хто Вы?» —
«Ніхто. Твой цень няўлоўны,
Я за табой даўно сачу!»

*Змітрок Марозаў*

Раз я ў халоднай электрычцы
Абдаў цяплом сваіх радкоў

Дзяўчо ў кароценькай спаднічцы,
Бабулю з торбай буракоў;
Жанчыну з тварам Магдаліны
Таксама неяк абагрэў,
Расчуліўся з тае прычыны,
Што слухачоў такіх сустрэў, —
Вільготныя шчаку і вочы
Насоўкай прамакнуў разок.
Ды чую голас я прарочы:
«Не баламуць людзей, браток!
Я — цень твой, і няма сакрэту,
Што за табой даўно сачу.
Ты вершы пішаш дзвюм кабетам
І легкадумнаму дзяўчу,
Красой і сілай дзеяслова
Не авалодаўшы як след,
Не маеш вершаў адмысловых
Узрушваць гэты грэшны свет!
Не знаеш, як жывуць мільёны,
Мякінай корміш ты людзей;
Цябе не клічуць стадыёны —
Хутчэй, браток, ідзі ў музей!»
Жыву пад небам Беларусі,
Ды толькі з моманту таго,
Бы хто пракляў мяне, баюся
Ў вагонах ценю я свайго.

## Што хвалюе паэта?

> Пытанне гэтае
> Без адгадкі:
> А ці свярбяць
> У нябожчыка пяткі?..
>
> *Рыгор Барадулін*

Пытанне пойдзе прэч
Без аглядкі,
Бо не свярбяць
У нябожчыка пяткі.

Яму нядаўна ўсё
Так балела,
І ён забыў,
Ці калі што свярбела.

Ах, справа іншая:
Да творчай мукі
Могуць свярбець
Ў літаратара рукі;

Прадчуўшы рублікаў
Хоць бы жменю,
Могуць свярбець
Нагавіцаў кішэні.

# «Я ляпіла цябе...»

Я стварала цябе,
каб сваім назаўсёды назваць!...
Я ляпіла цябе,
каб апоўначы больш не скуголіць!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты здрадзіў мне тройчы,
пакуль развіднела наўкол!
Бяжы, калі хочаш, —
я ўслед выпускаю ваўкоў!

*Таццяна Сівец*

Я стварала цябе,
Я ляпіла цябе днём і ўночы,
Так ляпіла,
Як толькі я ўмела;
Выць па-воўчы,
а не па-жаночы,
Па-сабачы скуголіць
я больш не хацела...

А ты здрадзіў, аматар, мне тройчы,
Ажно тройчы, пакуль развіднела!
Чым займаўся, калі
Не было каля нас анікога —
Толькі мы
у кватэры з табою былі!
Як жа здрадзіў ты мне,
бойся Бога!

Ох, адпомшчу табе
за бязглуздую здраду
Я, пакуль развіднее вакол, —

Я цябе пакараць буду рада:
Не сабак нацкую, а ваўкоў!

Стой, не бойся!
Ваўкоў я хачу затрымаць...
Як ні дзіўна, цябе
я ўсё ж не разлюбіла!
Што мне здрадзіў, дык я
вінавата сама:
Я, напэўна, цябе
вельмі доўга ляпіла.

## «Што падарыць табе?»

О берагіня! Бярэжніца!
Ратунак ад завейных зім!

Ты дорыш свята прыгажосці,
Сабой расквечваеш Сусвет.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Што падарыць табе? Мо вершы...

*Мікола Шабовіч*

Магу я шчыра пабажыцца,
Што падабаешся ты мне,
О берагіня! Бярэжніца!
Ты промнік і ў маім акне!..

І захаплення, і мілосці
Ты заслужыла, не сакрэт.
Ты дорыш свята прыгажосці,
Сабой расквечваеш Сусвет.

Што ж падарыць табе?
Машыну?

О Божа мой, што я кажу!
Клянуся гонарам мужчыны:
Я пехатою сам хаджу.

Не абяцаю рамантычна
Падараваць табе зару.
Я мыслю так рэалістычна:
Табе я вершы падару.

Цяпер, магчыма, сыдуць вершы
І за прадукт, і за тавар,
Бо сталі рэдка, ці паверыш,
Даваць за вершы ганарар.

Але чакай, о промнік лета,
Ратунак ад завейных зім!
А мо табе ўсяго паэта
Раз падарыць — і назусім?!

## Душа бунтуе

Я прыручаны ласкай жаночай,
Я прыніжаны звонам манет...
А душа быць свабоднаю хоча...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Парадню́ся з пчалой і сцяблінай
Кожным нервам і клеткай жывой,
І да вечнасці сумнай часінай
Прытулюся вільготнай шчакой.

*Змітрок Марозаў*

Ах, душа пастаянна бунтуе,
Б’ецца з плоццю адчайна яна,

Я субстанцыю гэту бінтую,
Ахвярую цярпеннем спаўна.

Разумею, што грэшнае цела
Яе носіць нямала гадоў,
Заклікаў мірна жыць — не схацела,
Я ж яе угаворваць гатоў,

Бо прыручаны ласкай жанчыны
І прыніжаны звонам манет;
Я, прабачце, здаровы мужчына,
Ўсё зямное цікавіць мяне;

Завядзёнку няпроста парушыць:
З рук ласкавых не ўмею ўцякаць,
І да свята жаночага мушу
Падарунак па крамах шукаць.

А мо ўсё-ткі з душой пагадзіцца
І махнуць да вятроў і да траў,
З пчаламаткай навек парадніцца,
Пакуль нервы ушчэнт не парваў?!

Парадніцца мо з раніцай сіняй,
Незамглёнай, свабоднай такой,
І да вечнасці светлай часінай
Прытуліцца змакрэлай шчакой?!

# Нататнік лёсавызначальны

Што б я рабіла без цябе,
Мой верны сябра, мой нататнік?
Як зерне курачка дзяўбе!
Як певень ціснецца ў куратнік!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Што б я рабіла без цябе,
Мой добры кодэкс, мой нататнік?..
Загінула б у баразне,
І муж, напэўна, быў бы дачнік.

*Людка Сільнова*

Нататнік, ты не спарахнеў!
Цябе люблю, цябе шкадую.
Ты абнімі ізноў мяне,
Цябе за гэта пацалую.

Ты ціха вызначаеш лёс:
Калі б не ты, о мой нататнік,
Куды б суровы час занёс?
Магчыма, нават на куратнік!

Калі б не ты, мой залаты,
Ну дзе я ісціны сцвярджала б?
Мой зорны, о, калі б не ты,
Я сеяла б, палола б, жала б!

Яшчэ цягала б каравяк
На беднае, пустое поле
У клопаце: аздобіць як
Мне грады, заадно і долю?

Рашаеш ты, нататнік мой,
Амаль усе мае задачы,

Камфортна, лёгка так з табой,
Спакойна без так званай дачы!

Калі фазэнда — кабала,
У галаве — хрэн ды салянка...
Ах, без цябе хто я была б —
Ні гарадская, ні сялянка!

Калі б не ты, пагана мне
Было б, як адвяла б бяду я?!
Загінула б у баразне,
І ўзяў бы дачнік маладую!

## Згнаіла яблыкі

Трэба жыць цяпер, а не пасля.
Нараджаць, а не чакаць жылля.
Есці добрае, а не найперш гнілое,
Каб жыццё не сталася з гнілля.

Бо жыццё адно, як ёсць адно!
Ведай: не паўторыцца яно...
Ты не зможаш так шумець лістамі,
Калі з дрэўца станеш бервяном.

*Людка Сільнова*

У аблоках я пакуль была,
Яблыкаў карзіна пагніла,
Выкінуць бы іх, ды я, паверце,
Есці іх паціху пачала.

Час, бальшавікі ці сваякі
Прышчапілі стыль жыцця такі:
Жыць адно што будучымі днямі,
Паўбяды — галодныя дзянькі...

Думала, гнілое з’ем спярша,
Можа, супакоіцца душа,
Што я надта шмат згнаіла яблык.
Дужа памылілася, на жаль.

Яблыкі здаровыя былі,
Толькі захавацца не змаглі:
Покуль я гнілыя паядала,
Новыя і новыя гнілі.

Стала я над яблыкам гнілым,
Думаю міжволі аб былым,
Каюся: была я эканомнай,
Надта эканоміла ў малым.

Помні, чалавек: жыццё адно,
Вельмі ўжо кароткае яно!
Покуль дрэўца ты, шумі лістамі,
Знай, што хутка станеш бервяном!

## Простае прароцтва

Паэце, не хадзі
І не рукайся
З малазнаёмымі!
Сядзі, пішы, хавайся.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты тут — апошні,
Хоць сабе ты — першы.

*Людка Сільнова*

Паэце, па сабе
Я добра знаю,
Што над паэтамі
Пануе доля злая.

Стамілася была
З людзьмі рукацца,
Хавацца пачала,
Каб неяк захавацца.

У век
Інфармацыйнае прасторы
Каму патрэбны
Нашы, братка, творы?!

Павінен цяміць ты,
Паэце любы:
З прызнанняў найсвятых
Хтось можа скаліць зубы.

Мо звузіцца калі
Інфармпрастора,
Хіба адно тады
Ты не зазнаеш гора.

Апошнім каб не быць,
Сабе застацца першым,
Павінен ты забыць
Пра напісанне вершаў.

Сядзі ты, не хадзі
І не рукайся, мілы, —
Мікробы не пладзі
І не бяры бацылы!

# Жыві, паэт!

> Душою юнай абдымаю
> Вас, зорак юная гурма,
> Вам песню веснюю спяваю,
> Хоць знаю: вас даўно няма.
>
> Мільёны год з глыбінь сусветаў
> Яшчэ вы будзеце свяціць, —
> І верш мой, мёртвага паэта,
> Да вас, пагаслых, даляціць...
>
> *Васіль Зуёнак*

Хоць зоркі ў космасе згараюць,
Святло іх доўга шчэ ляціць.
Усе паэты паміраюць,
А творы застаюцца жыць.

Ды зор жывых на небе — мора,
І ты, паэт наш, не памёр!
Тады нашто пагаслым зорам
Памерлага паэта твор?

## Хіба такая капрызуля?

Ходзіць месяц па двары,
За страхой хаваецца.
Ты мне слова падары,
Што не забываецца.

Павяду цябе да хвой
Проста ў ноч дрымучую,
Непрыступнасцю сваёй
Аж да слёз намучаю...

Ды няхай тваё ў журбе
Сэрца не параніцца —
Пацалунак твой табе
Я вярну пад раніцу.

*Генадзь Бураўкін*

Творца, мабыць, маху даў
(Сэрца не расчульвае):
Закаханую назваў
Раптам капрызуляю.

І, падобна, асудзіў
Лёгкую гарэзлівасць.
Хто ж так сэрца астудзіў?
Хто ж так ацвярэзвае?

# Дзе вершы для дзяцей?

> «Калі ты пачнеш пісаць дзіцячыя вершы?» —
> пытаюцца ў мяне.
>
> А я не ведаю.
> Я шчэ вельмі далёкі ад пісьменнасці.
> Покуль я толькі вучуся хадзіць...
>
> *Андрэй Хадановіч*

«Калі пачнеш пісаць дзіцячыя вершы?» —
пытаюцца ў мяне.

А я адказваю,
што пішу толькі дзіцячыя,
бо шчэ вельмі далёкі ад пісьменнасці.

Калі пачну ствараць я вершы для дзяцей,
вы хочаце спытаць.

Я вам адказваю:
Спачатку трэба мне дзяцей прыдбаць!..

Пакуль я толькі вучуся хадзіць,
дай, Божа,
вялікім вырасці!

# Зацяганы, зняможаны

*Кароткі раман пра інтымныя пакуты ў дзвюх частках*

## Частка першая

Я шмат за табой пацягаўся,
Але, на бяду, не ўбярогся:
Так доўга цябе дамагаўся —
Што, ўрэшце дамогшыся,
Змогся!..

*Міхась Міранoвіч*

Цягала мяне, як анучу,
Цягала мяне як хацела,
І ўрэшце я добра намучыў
Душу ды і грэшнае
Цела!

Цягаў я цябе, нібы торбу
(Здавалася — з бочачкай мёду),
І ўрэшце хрыбетнік я згорбіў —
Такая вось мне ўзнагарода!

Той мёд не салодкі стаў — горкі:
Сто год за цябе я змагаўся.
І ўвогуле каюся шчыра:
Навошта цябе дамагаўся?

Ніяк ад цябе не збярогся,
Паддаўся — навек быў запрогся...
І вось аказаўся нястойкі,
Шукаю падпоркі, — знямогся!

## Частка другая

Стаў няўзнак трывожыцца:
Дзе былое дзелася?
Калі ўжо не можацца —
Хай бы й не хацелася!..

*Міхась Мірановіч*

Напісаў — і думаю:
Чым жа дзядзька хваліцца?..
Фу ты, не заўважыў, як
Стаў адкрыта жаліцца!

Рана стаў нямоглы я,
Хоць бы спаў пад коўдраю,
А то з крыўдай-жальбаю
Я па свеце сноўдаю.

Чытачы трывожацца:
«Што з табою сталася?»
Ляпнуў, што не можацца, —
Муза адцуралася!
(Ах, язык мой — вораг мой!)

## Эпілог

Пачытаў філосафа:
Ўсё цячэ, мяняецца...
Толькі змога даўняя
Не мінаецца.

# Патаемнае пераўтварэнне

Твой голас такі патаемны...
а можаш быць коткай ласкавай
і лагодна драпаць мне вушы.

*Адам Шостак*

АДАМАМ сябе ўяўляю,
Цябе адпаведна — ЕВАЙ.
Сябе ўсяго падстаўляю:
Бяры мяне, каралева!

Ты яблычкам частавала,
А я заварыў табе кавы.
Мне так цябе не ставала,
Ты будзь, калі ласка, ласкавай!

З табой сустракацца прыемна.
Магчыма, са мной заначуеш?
«Мяў-мяў» — голас твой
патаемны, —
Такі загадкавы! — чую.

Ты коткай гарэзлівай стала
І лапкай мяне дастала.
А я хваляваюся ўжо мушу:
Навошта мне драпаеш вушы?

Няхай ты мне драпаеш вушы
Пакуль што даволі лагодна,
Твой кайф я пытаннем парушу:
Няўжо цяпер гэта модна?

## Чытач, мне без цябе — хоць плач!

Скажы, чытач, ці тое я пішу?
Будзь мне замест суддзі, замест Галгофы.
Ці здолееў я крануць тваю душу
Сваёй душой, укладзенай у строфы?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ці ёсць ён дзе, загадкавы Парнас?
Другое мне вядома дасканала:
Без чытачоў стрыножыўся б Пегас —
І гэта, як ні што, яднае нас.

*Сяргей Давідовіч*

Я так цаню цябе, о мой чытач!
У поспехах маіх — твая палова.
Мне без цябе, суровы мой, — хоць плач!
З табою славу ўсю дзяліць гатовы.

На ўсё я згодны: будзь маім суддзём!
Маім прысудам будзь, маёй Галгофай!
З табой мы разам па жыцці ідзём,
Дзеля цябе душою поўню строфы.

Хутчэй скажы, ці тое я пішу?
Ў мякіне слоў дзе зерне залатое?
Ці недарэмна трачу я душу?
Ці пачуццё разварушыў святое?

К Парнасу інтарэс мой не пагас,
Ды факт мяне хвалюе дасканала:
Без чытачоў скапыціўся б Пегас
І муза разам з ім мая сканала б.

Хай чуе ўвесь загадкавы Парнас,
Што гэта, як ні што, яднае нас.

Голас чытача:

Паэце мой, ты расхінуў душу,
Ды ўцяміць да канца я ўсё ж не ў стане:
Калі табе я праўду ўсю скажу,
Ці ты пісаць на момант перастанеш?

## Паэт — не гандляр

Цукерку мастацтва
Смакчы і глытай:
Не грошы, а працу
Артысту давай!

*Леанід Дранько-Майсюк*

Цукерку натхнення,
Паэце, смакчы,
Пішы без стамлення,
Пра грошы маўчы!

Вядома ўсім гэта:
Паэт — не гандляр!
Навошта паэту
За твор ганарар?

За вершыкі — грошы?..
Рэзон тут які?!
Дранько мо і ўзяў бы —
Майсюк — не такі!..

# Не па ўзросту

> Узрост парою
> Б’е пад дых,
> Гады ўсё больш і больш
> Пужаюць.
> Дзяўчаты любяць маладых —
> Мяне ўжо толькі
> Паважаюць...
>
> *Міхась Міранові*

Калі ўжо б’е
Узрост пад дых,
Калі гады ўсё больш
Пужаюць,
Не клейся ўжо
Да маладых,
Пакуль хоць трохі
Паважаюць.

А як успомніш
Маладосць
І як пацягне
На прыгоды,
Знай, што кабет
Нямала ёсць
І ты для іх —
Узнагарода!

Пужлівым вельмі, брат,
Не будзь,
Глянь на гадоў багацце
Проста...
Але дзяўчат ужо

Забудзь:
Яны табе —
Не па узросту!

## Другім гатункам

> Чытачы, бывае, іншы раз пытаюць:
> Як ступіў я на сатыры шлях цярністы?
> У сур'ёзныя паэты не прымаюць —
> Вось таму падаўся я у гумарысты.
>
> *Міхась Міранові*

Чытачы, вядома,
Часта кажуць праўду:
Шлях сатыры,
Сапраўды, цярністы.
Ты ж прызнайся, аўтар:
На хаду прыдумаў
Версію, як стаўся
Раптам гумарыстам?

Пэўна ў крыўдзе зараз
Творцы-кар'ерысты,
Бо зрабіў міжволі
Ты намёк празрысты,
Што другім гатункам
У літаратуры
Лічацца ўсе чыста
Гумарысты.

# Трыпціх расстання

Раздрапаным сэрцам, у шнарах,
Скалечанай болем душой
Твой вобраз малюю у хмарах
Раздрапаным сэрцам, у шнарах.

Зноў клічу цябе я у марах,
Малітвай, світальнай імшой,
Раздрапаным сэрцам, у шнарах,
Скалечанай болем душой.

*Марына Весялуха*

1

Раздрапаным сэрцам малюю
Твой вобраз, мой грэшны Адам,
Кроў капне — ў малюнак дадам:
Раздрапаным сэрцам малюю.

Я клічу... Ты ў пекле? Ах, там
Мой голас цябе не хвалюе!
Раздрапаным сэрцам малюю
Твой вобраз, мой грэшны Адам.

*2*

Я помню, як ты спакусіўся
Не яблыкам — юнай красой,
Ласкавы о злодзею мой!..
Я помню, як ты спакусіўся.

Скалечанай болем душой
Я клічу, бо мне ты прысніўся.

Я помню, як ты спакусіўся
Не яблыкам — юнай красой.

3

Малітвай, світальнай імшой
Цябе клічу; вымалю, можа?..
Сабе мо душа дапаможа
Малітвай, світальнай імшой?
Вярні мне спакусніка, Божа,
Прашу я збалелай душой.
Малітвай, світальнай імшой
Цябе клічу; вымалю, можа?

## Інтымнае прызнанне

Дарую сэрца стогн у абцугах,
І тое, што чужы, што не са мною,
Што кожная хвіліна — мрояў крах,
Што кожны момант мой напоўнены табою...

Дарую ўсё: мой здратаваны свет,
Што стала я навек тваёй рабою...
Дарую ўсё табе, о мой Паэт!..
За шчасце быць натхнёнаю табою...

*Марына Весялуха*

О мой, ды і не толькі мой Паэт!
За ўсё, за ўсё табе я даравала.
Ты здратаваў ушчэнт мой мрояў свет,
Але ж цябе мне гэтак не ставала!

За ўсё табе дарую, мой Пясняр,
За боль, і страх, і сум, і адзіноту.

Мной завалодаў, спрытны гаспадар,
Граў на пачуццях, як скрыпач па нотах:

Князёўнаю, багіняю была!..
Інтрыгаваў... Займела — што хацела:
На п'едэстал імкліва я ўзышла,
Імкліва і ў рабыні заляцела.

Для плоці ты, ні грама — для душы.
Нікому ўжо не стала навіною,
Што быў ты і застаўся мне чужы,
Пабыў са мной, а болей — не са мною.

Сябе я перастала разумець:
Калі ты прычыніў мне столькі болю,
То як з майго кахання шчасце мець?!
Вар'ятка, я — натхнёная табою.

## Выплеснулася... з прабіркі

Проста вясна мне не стала сястрою,
проста залішняя радасць паўсюль:
кволае вецце, дымная мроя,
руні і парасткаў цела жывое,
толькі спакою няма ніадкуль.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Не па раскладзе, не пад капірку
вецер стварае сонечны рай.
Шчасце, вар'ятня ці чорная дзірка?
Мне цесна ў межах быційнай прабіркі
і я выплёскваюся цераз край.

*Аксана Данільчык*

Арыгінальна, не пад капірку
Сонца стварае зямны гэты рай.

А на душы — быццам чорная дзірка,
Мне цесна ў межах быційнай прабіркі
І я выплёскваюся цераз край.

Я не ў прабірцы зачатая, знаю.
Вырасла я. Нават вершам грашу.
Экстравагантнай такой выглядаю,
Толькі спакою чамусьці не маю, —
Нешта гняце маладую душу.

Проста бывае мне часта пагана,
Быццам бягу ад асколкаў і куль.
Зараз вясна, расцвітаюць цюльпаны,
Шчырыя творацца недзе раманы...
Мне ж паратунку няма ніадкуль.

Свет меркантыльны, наскрозь камерцыйны.
Паніка, нават адчай у мяне —
Скарджуся неяк нетрадыцыйна.
Хай бы ляжала ў прабірцы быційнай.
Што ні кажыце, а там спакайней!

# Мокры след

Ні мяне, ні лася, ні варону
Не міне сакавіцкі настрой.

Вось варона, лясная праныра,
Задумёна сядзіць на суку:
Што ні восень збіраецца ў вырай,
А прадвеснем зайздросціць шпаку.

Вось і лось між гаямі, барамі
Маразам напаслед пратрубіў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вось і я ўжо абрыдлыя боты
Намачыў у расталай вадзе.

*Віктар Гардзей*

Столькі ўсякіх вясной пераменаў,
Столькі ўсякіх наўкола падзей!
Распавесці пра ўсё так адметна
Абяцае вам Віктар Гардзей:

Ні лася, ні ката, ні варону
Ні, нарэшце, самога мяне
Пасля сцюжаў зімовых палону
Сакавіцкі настрой не міне.

Вось праныра лясная варона
Не так проста сядзіць на суку —
Больш змястоўна сядзіць, задумёна
З дыфірамбамі сакавіку.

А магчыма, і оду старая
Абмазгоўвае там, на суку?
Штосьці ў думках старая стварае,
Гэта лепш, чым зайздросціць шпаку!

Спаць нікому не даў наш кот Васька
(Што ўжо возьмеш з гулякі ката?):
Так крычала ўсю ноч яго Аська,
Быццам леў яе ўсю шкуматаў.

Вось і лось над расталым сумётам
Маразам пратрубіў напаслед.
Вось і я намачыў свае боты
І паклаў на асфальт мокры след.

## Куды ідзеш-плывеш?

> Ідзеш-плывеш, і дзівяцца табой
> Паэты, і музыкі, і акцёры.
> На скрыжаваннях нават святлафоры
> Зеленавока клічуць за сабой.
>
> *Мікола Шабовіч*

Не проста ходзіш па зямлі рудой —
Ідзеш-плывеш так плаўна, быццам лодка,
І вабіш і прыцягваеш, малодка,
Паставай статнай, лёгкаю хадой.

Ідзеш-плывеш — і дзівяцца кругом
Дзялкі, купцы, крутыя бізнесмены
І самыя славутыя спартсмены, —
Ўсе за табой спяшаюцца бягом.

Няхай бягуць і дзівяцца няхай,
Хай зоркі дастаюць і дораць зоры,
Праходзь спакойна каля святлафораў,
Ты аднаго мяне чакай, кахай!

Цябе натхнёна буду апяваць,
Абагаўляць цябе ўвесь вечар буду.
Хаця пасля, магчыма, і забуду —
Ідзі-плыві мяне расцалаваць.

## Сэрцагрэйныя словы

Гэта казка, ці ява, ці сон —
Чуць тvae сэрцагрэйныя словы.
О, які іх салодкі палон!
Так і слухаў бы: «Што Вы!
Ну што Вы!..»

*Мікола Шабовіч*

Як прыходзіла ў мройныя сны
Ты у вобразе краскі маёвай,
Я казаў: «О царыца вясны!»
Ты адказвала: «Што Вы!
Ну што Вы!»

Запрасіў цябе, юную, ў лес,
Ах, той лес разліваў пах мядовы.
Неўпрыкмет цалавацца палез —
І сказала ты: «Што Вы!
Ну што Вы!»

Меў я самы сур’ёзны намер,
Завіталі мы ў лес не па дровы…
— Ты не бойся, даверся, павер
І правер: я — мужчына здаровы!..

Лес маўчаў, і натхняла вясна.
Я шаптаў сэрцагрэйныя словы,
Хай сабе паўтарала яна

Непаўторнае: «Што Вы!
Ну што Вы!»

Гэта казка, ці ява, ці сон:
Крэпасць пала ад слоў адмысловых.
Ах, мяне не пакіне палон
Цёплай музыкі: «Што Вы!
Ну што Вы!»

## Адкуль ён, зорны пыл?

Над сціплай вясковай хатай,
над гордым сталічным гмахам,
над папараццю і мятай,
над зверам лясным і птахам —
бурштынавы звон.
Адкуль ён?
На неба зірнуў і ўспомніў:
Мікола Купрэеў кульбай
пастукаў у бубен поўні.

*Іван Лагвіновіч*

З самотнай вясковай хаты,
што ноччу стаяла панура,
выйшла цётка Агата,
да яблыні павярнула —
аж бачыць: паблізу хаты,
на мяце, яшчэ не прымятай,
зорнага пылу навалам.
«Адкуль ён?» — цётка гадала.
Ды ўбачыла гэтак дарэчы:
зямляк Лагвіновіч міла
шыбуе па Шляху Млечным,
страсаючы воблакі пылу...

# Трызненні паэта

Раблю для душы і для цела зарадку
пасля халадоў і слаты.
Дарозе да лесу на добрую згадку
свае пакідаю сляды.

Хаду прыпыняю, спыняю імгненне:
мясціны цудоўныя ў нас!
Лагчынка з калінай — Даліна Натхнення,
пагорак з бярозай — Парнас.

*Іван Лагвіновіч*

Найболей адкрыццяў у часе зарадкі
здзяйсняе паэт заўсягды.
Дарозе да лесу на вечную згадку
свае пакідае сляды.

Што сталася б з ім, на бягу разважае,
спартсменам ён стаў бы калі б?
І ў нізкім узгорачку у родным краі
убачыў бы, мабыць, Алімп.

Замерзлы ставочак палац мо лядовы
нагадваў бы неяк... Як знаць?
Манежам футбольным бугор выпадковы
спартсмену здаваўся б, відаць?

Спартсменам не стаў, піша вершы тым часам;
натхняе прыроды краса:
пагорачак з дубам здаецца Парнасам,
дзе дуб на пагорку — ён сам.

*P. S.*
Калісьці жанчыну вадзіў пад каліну
(І лепшых не зведаў ён спраў!).

Няхай бы з калінаю тою даліну
Далінай Кахання назваў!

## Шчасце не адмяняецца

...шчасце адмяняецца,
шчасця не будзе.
І не будзе блакітных экспрэсаў,
якія ідуць на захад,
і не будзе больш чорнай кавы
перад тым, як вагон скранецца,
а буду адна толькі я, —
адна між шэрых калонаў,
адна між ружовых прыцемкаў,
адна між рэек, шпалаў і перонаў...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А не дзве, не тры, не чатыры,
непадзельная і непадзеленая,
бо я — не Ганна Карэніна.

*Аксана Данільчык*

Адна на шэрым асфальце,
адна між шэрых калонаў,
адна між рэек, перонаў,
затое не дзве, не тры,
не чатыры мяне!
Увагу звярніце, родзічы
і ўсе паэты знаёмыя:
я — непадзельная
і непадзеленая,
бо я — не Карэніна Ганна,
я — Данільчык Аксана,
аб чым сведчыць білет
Саюза пісьменнікаў...

Не верыце? Гляньце ў пашпарт!
Словам, я застаюся САБОЮ.
Хай не будзе блакітных экспрэсаў,
якія ідуць на захад,
і не будзе больш чорнай кавы...
Будзе Аксана Данільчык,
якой не трэба інкогніта.
Інкогніта трэба шпіёнам
ды рэцыдывістам.
Аксана пакуль не мяняецца!
Шчасце не адмяняецца!

## Эстэт

> Як балерына, ты,
> Лілея,
> Як сімвал пекнаты.
> Гляджу праз чараты —
> Хмялею.
>
> *Яўген Хвалей*

Забудзем пра ялей.
Але
Хвала Хвалею!
Ты як мага часцей,
Яўген Хвалей,
Хмялей
Ад пекнаты лілеі!
Любуйся ёю ты
І не праз чараты.

## Найвышэйшая ступень панібрацтва

> Божа з цернем на ілбе,
> Мой Ісусе!
> Ты мне снішся, а табе
> Я ці снюся?
>
> Я ўсю ноч з гасцямі піў,
> Меў каханку.
> . . . . . . . . . . .
> Я спытаўся ўчора ў Бога,
> Ці не сніць мяне Гасподзь?
> Ды з нябёс —
>   ніхто нічога.
> Хоць бы слоўца.
> Знак бы хоць.
>
> Сёння ж з раніцы на ўсходзе
> надпіс
> з белых
> бліскавіц:
> «Ты не снішся мне, Валодзя.
> Бог не спіць».
>
> *Уладзімір Някляеў*

Нават Бога я не сніў
Аж да ранку:
Я ўсю ноч з гасцямі піў,
Меў каханку.

Потым, грэшны, спаць я змог
Суткі, можа.
І тады прысніўся Бог,
Святы Божа.

Быў я рады: Цар нябёсаў
Ушчуваў не надта хоць.
Зацікавіўшыся лёсам,
Гаманіў са мной Гасподзь:

«І не мала і не многа —
Крыху больш чым паўжыцця,
Паўжыцця свайго зямнога
Ты ішоў да адкрыцця:
«Бог не спіць!»
Што ж гэта значыць?..
Не падумай: Бог сядзіць...
Ўсё ён чуе, ўсё ён бачыць —
За грахі яму судзіць...

Ты прывык гуляць, Валодзя,
Кінь хоць бы, нарэшце, піць —
Будзь са мною ў добрай згодзе;
За цябе ж і мне баліць!

Як прызнацца мне ні прыкра,
Ты нібыта б'еш пад дых:
Падаеш учынкам прыклад
Цэлай плойме маладых.

Прыклад сам вазьмі з Рыгора
(Ён даўно не стаў куляць...):
Ты не будзеш знацца з горам —
Я не стану гараваць».

## Прынцыповыя адкрыцці паэта

> У парыльні — вароты ў рай,
> Нібы выйшлі на волю вязні...
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Толькі ў лазні мы ўсе — адно.
> Толькі ў лазні усё відно.
> Лазня — свята ў будзённы дзень.
> Лазня ў дружбе — асноў аснова.
> Толькі ў лазні сквірчыць камень.
> Толькі ў лазні — свабода слова.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Хто пяклуецца на палку —
> Таго ў пекла не возьмуць чэрці!
>
> *Міхась Скобла*

Оду лазні стварыў паэт,
Чым здзівіў навукоўцаў свет:
Продкі, ведае творца й сам,
Пакланяліся шмат даволі —
І агню, й валунам, багам,
Толькі лазні — нідзе, ніколі!

Хто ж у лазню, сябры, ідучы,
Ў захапленні так гучна крычыць?
Лазня ў дружбе — што за павеў?...
Калі ў дружбе аснова — лазня,
Тая дружба, дружа, павер,
Хутка дужа астыне, лясне!

Оду лазні ўхваліў бы люд,
Каб яна змыла слоўны блуд.
Ці свабодаю жыў паэт,
Ці яе апеў адмыслова?

Рассакрэціў ён свой сакрэт:
«Толькі ў лазні — свабода слова».

Хто хацеў бы такіх свабод?
Чаго варты ў лазню паход?
Можа, выдумка — ода, хлусня?
Плесці лёгкі сюжэт ці варта?
Мо жартуе ў одзе пясняр?
Ці ж дазволены ў одзе жарты?

## Паэт-фантазёр, або «Акопная» праўда М. Скоблы

Хай землятрус ці сусветны патоп —
А беларус баразны не пакіне.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
О баразна, наш прытулак і схоў!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
О баразна, эратычны пейзаж!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Рукі ў парэпінах, зморшчаны лоб,
Іншых памкненняў няма ані знаку.
О баразна — беларускі акоп,
Скуль нам аднойчы ісці у атаку.

*Міхась Скобла*

Меру, здаецца, паэт перабраў,
Што дазваляецца, ў прынцыпе, одай.
Можа, такую ён моду абраў?
Сёння ж усе захапляюцца модай...

Дзіўных гіпербалаў шэраг скразны —
Каб памяркоўнасць прыўзняць беларуса,

Быццам прырос да сваёй баразны
Добраахвотна вось так, без прымусу.

Ён баразною натхняецца аж
(Дыяпазон вершатворцы нявузкі!),
Бачыць у ёй эратычны пейзаж,
Болей за тое — акоп беларускі.

Што за атаку на ўвазе ён меў?
(Сам жа сказаў: «...баразны не пакіне»).
Пэўна, і сам яшчэ не зразумеў:
Вокам крытычным радкі не акіне.

Скоблаў герой толькі у баразне,
Дзе яму гэтак камфортна жывецца!
У баразне ён хутчэй і засне,
Чым ад яе хоць калі адарвецца.

## Сцёганы завірухай

...Круціць завіруха.
Снегам белым — шротам
Сыпле густа ў вочы,
Сцёгае па спіне
Нібы тонкім дротам.

*Лявон Валасюк*

Прачытаў, Лявоне,
Я амаль са скрухай,
Што ты моцна біты
Лютай завірухай.

Чым яе зняважыў,
Памяркоўны дружа,

Што яна знянацку
Зазлавала дужа?

Беразовым прутам
Сцёгала па спіне
Ды і ніжай спіны, —
Кроў у жылах стыне!

Так цябе лупіла
(Не супраціўляўся?)...
Хай бы за сцяною
Ад яе схаваўся.

О, табе здалося:
Смаліць тонкім дротам,
Больш за тое — густа
Сыпле вострым шротам!

Ўсыпала старая,
Пэўна, з асалодай.
Мо гарачым словам
Прычыніў ёй шкоду?

# Не маўчы, голубе!

Мы з любаю дзяўчынаю
Прыселі і маўчым
Пад соннаю калінаю
На беразе рачным.

Ля самых ног паплёсквае
Бяссонная вада.
Вандруе хмарка лёгкая,
А шчасця не відаць.

*Эдуард Гракові́ч*

Калі на летнім беразе
Каханая з табой,
Хай жар па жылах бегае
З крывёю маладой!

Калі прысеў з дзяўчынаю
На беразе на тым
Пад соннаю калінаю,
Глядзі, не спі ўжо ты!

Ля ног вада плюскочацца,
Шапоча пра любоў.
Калі абняць не хочацца,
Ганяй хоць камароў.

Калі яна цікаўная,
Хоць маўчуном не будзь,
Хоць што-нішто цікавае
Казаць ёй не забудзь.

Лянота не к дабру вядзе,
Яе перамагай,

І шчасцейка, што ў рукі йдзе,
Глядзі, не прамаргай!

## Паэта натхнілі... слупы

Дрот нацягвалі манцёры,
Надрываючы пупы.
Вось брыдуць па касагоры
Электрычныя слупы.

З добрай сілай стройны шэраг
Упіраецца ў пяскі,
А здаецца, што на бераг
Цягнуць сеці рыбакі.

Вечарам улоў багаты.
Тут і там, і за ракой,
Быццам рыбы, ззяюць хаты
Вокан срэбнаю луской.

*Віктар Гардзей*

Музу клікаў — не зважала,
Не натхняўся, што ні піў,
Творцу ўсё не шанцавала,
Аж такі прыйшоў матыў:

«Вось брыдуць па касагоры
Электрычныя слупы»...
Ані смутку ім, ні гора:
Надрываць не ім пупы!

Ды характар беларускі
Не дае слупам стаяць —
Дадатковую нагрузку
Кожны слуп гатовы ўзяць.

Сярод іх адзін, бетонны,
Гэткі лідар, правадыр,
«Брацця, — кажа манатонна, —
Цягнем невад-правады!»...

Рыбкі не ўзялі ні трошкі
(Дзе ж яе на сушы ўзяць?),
Але ж вывудзілі вёску —
Хаты гожыя стаяць.

Каларыт і стыль багаты
У карціне над ракой:
Быццам рыбы,ззяюць хаты
Вокан срэбнаю луской

Рыбай трызніць больш не сталі
Электрычныя слупы,
Вёсак вудзіць больш не сталі,
Хоць з іх кожны не слабы.

І, не ведаючы гора,
Дружна крочылі далей.
Пэўна, трапіцца ім горад,
Дзе жыве паэт Гардзей.

# Псіхалагічная залежнасць?

> Дзень добры, рыжая царэўна!
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Хай наша першае спатканне
> З падачы Лёні Майсюка
> Не прынясе расчаравання
> Для рамантычнага радка...
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Былі мы разам так нямнога,
> Ды будзем помніць між вятроў,
> Як нас з табой вяла дарога
> Ад Дома дружбы да метро.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> І, ўрэшце, вершык напісаць
> Пад Барадуліна...
>
> *Мікола Шабовіч*

Дзень добры, рыжая цароўна!
Як ні ляцелі б нашы дні,
Мяне ўзгадаеш ты ўсё роўна,
Не даўшы волі мітусні.

Ці ж выпадкова мяне стрэла
З падачы Лёні Майсюка?
З вачэй тваіх ляцелі стрэлы
Не дзеля лішняга радка!

Цяпер бярэ мяне трывога:
Чаму была сярод вятроў
У нас будзённая дарога
Ад Дома дружбы да метро?

Хаця было куды лагічней
Удачу блізкую лавіць —

Ісці сцяжынай рамантычнай
Ад Дома дружбы — да любві!

Расплата мне за грэх, магчыма,
За тое, можа быць, найперш,
Што я пісаў, спец па інтыму,
Пад Барадуліна свой верш?
Пісаць навошта пад Рыгора,
Калі інтым выключна наш?
Пісаць вярнуся, пэўна, скора
Я пад Шабовіча. Шабаш.

## Анатамічны разгляд прыгажуні

Рукі твае — дзве шчымлівыя казкі,
Пальчыкаў цёпла-танюткіх трымценне.
Хто дакранаўся, той помніць іх ласку,
Поўную самых найсмелых хаценняў.

Вочы — як дзве зіхатлівыя зоркі,
Столькі праменяць пяшчоты нязнанай.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вусны твае — два пялёсткі сваволі.
Столькі ў іх жарсці, спакусы, жадання...
Хто цалаваў, той раскажа вам болей —
Я ж толькі песціў-люляў спадзяванні...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Плячэй падатлівасць тваіх —
Спакусы золата.

*Мікола Шабовіч*

Рукі, і вочы, й свавольныя вусны
Я апяваў і дайшоў да плячэй.
Цяжка спыніцца ў імпэце спакусным.
Што застаецца апець мне яшчэ?

Некалі Пушкін пісаў і пра ножкі.
Часам гатоў паспаборнічаць з ім.
Ножкі дык ножкі!.. Падумаю трошкі
Над далікатным аб’ектам такім.

## Загадка чытачам

З’явіўся верш у сне салодкім:
Азёрны бераг, пах маліны,
Чарот заснулы каля лодкі
І вусны, быццам журавіны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
...Мы не маглі ніяк сагрэцца —
Мы, прытуліўшыся, дрыжэлі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І не давалі журавіны
Мне прачытаць той верш салодкі...

*Ігар Пракаповіч*

Скажы нам, аўтар, як жа можна,
Калі прытулішся да дамы,
Дрыжаць ад холаду бязбожна?
У чым прычына гэткай драмы?

Ах, зрэшты, ясная прычына,
Таму што вусны ў той жанчыны
Кіслючыя, бы журавіны,
А не такія, як маліны...

Ля кіслагубае маладкі
Паэт ніяк не мог сагрэцца.
Чаму ж ён сон назваў салодкім?
Мо крытык неяк разбярэцца?

## Не маўчы

Ў чаканні Божага прысуду
Так рэшту дзён пражыць хачу:
Аб тым, што знаў, крычаць не буду,
Аб тым, што помню, — прамаўчу.

*Змітрок Марозаў*

Бог даў язык табе, даў мову,
Ён прыйдзе на зямлю судзіць
За ўчынкі болей, менш за словы,
То можна маўчуном не быць.

## А там цішыня забяспечана

Пакладу я на шалі жыцця свае дні
І пайду ад людзей Шляхам Млечным,
Папрашу ва Ўсявышняга я цішыні...

*Змітрок Марозаў*

Не трывож без прычыны, паэт,
                                        пана Бога.
Ты на шалі жыцця пакладзі свае дні,
А калі ад людзей
                        пойдзеш лепшай дарогай,
Дастаткова, павер, будзе там цішыні.

# Прыходзь да мяне

> Ты прыходзь да мяне у восем,
> Прынясі мне ахапак зжаўцелых кляновых лістоў.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Не пачую, калі ты пойдзеш...
> Жоўты вэрхал лістоў на падлозе...
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Не апошні ты і не першы.
>
> *Ханна Чумакова*

Ты прыходзь з промнем сонца апошнім,
Прыхапі хіба вязку саломы,
А калі доўга ехаць да пожні,
Прынясі хоць кляновых лістоў.
Я да ночы адна буду дома,
Так зайдзі, каб не бачыў ніхто.

Знай, цябе не паклічу болей
Ні дамоў, ані ў лес, ні пад стог.
Адпушчу я цябе на волю,
Пойдзеш ты — і не выкліча болю
На падлозе вэрхал лістоў.

Не адразу, на жаль, адчула,
Што я мужа з цябе не зляплю.
Пойдзеш ты, а я выгляд зраблю,
Што, калі ты пайшоў, не пачула.
Не апошні ты і не першы
З тых, што любяць мяне не за вершы...

## Даспела ягада

> ...І я ягадай спеў калісьці
> на сунічным тваім плячы.
>
> *Міхась Скобла*

Мне падаўся палянай сунічнай
Твой нявостры жаночы плячук.
І на споведзі шчырай лірычнай
Я прызнацца табе хачу,

Што, заснуўшы ягадай смачнай,
На паляне цёплай саспеў
І тады захацеў, удзячны,
Каб мяне ты сарвала сабе.

Так яно і было, добра помню.
Дзесьці ў лузе скрыпелі драчы.
На кляновым сучку доўга поўня
Пакалыхвалася ўначы.

# Такая музыка

> ...я буду граць на залатым фагоце
> твайго ажурна-лёгкага хрыбта.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> ...я буду граць бяссонныя санаты
> на клавішах і рук тваіх, і ног.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> ...няхай гучыць пранізлівае сола.
> Калі цябе, як скрыпку, прытулю.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> ...мая кіфара, мой губны гармонік,
> мая ты акарына, не змаўкай.
>
> *Міхась Скобла*

Ўсё, што кажу, усведамляю часам...
Кажу й цяпер: цвярозы клёк збярог.
Ды я гудзець гатовы кантрабасам
Ля клавішаў і рук тваіх, і ног.

Дый патэфонам стаў бы я, шчаслівы,
І заставаўся б ім да зводу дзён,
Каб толькі ты рукой немітуслівай
Заводзіла нястомна патэфон.

Яшчэ з табою падзялюся марай
(Жаданне разам з тараю расце):
Зрабіцца ўжо гатовы я гітарай,
Каб толькі струны кратала часцей.

І рады быў бы стацца саксафонам,
Каб ім ты карысталася штодзень.
Ды, нават пасварыўшыся, трамбонам
Прашу, не называй мяне нідзе.

# Шпацыр па небакраі

Іду з табой па небакраі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І думкі, быццам ваўкалакаў зграі...
Іду, бо там жыццё,
Бо тут нічога не трымае.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Тут на праспекце душацца трамваі.

*Рагнед Малахоўскі*

Іду з табой
Па хмары, што на небакраі.
Баюся праваліцца на зямлю —
У галаве трывожных думак зграі,
І вось сябе на думцы я лаўлю,
Што гэта ёсць сапраўднае жыццё.
А на праспекце душацца трамваі,
Там, недзе на зямлі, гніе лісцё,
Здараюцца крушэнні і пажары.
Таму і шпацырую я па хмары
З табой, жывая творца маёй мары.
Глядзі ж, ты не кульніся на зямлю:
Як будзеш падаць, можа, й не злаўлю.

## Чытае вецер ноты

Чуў, вецер несамотны
Зімы чытае ноты —
Развучвае прыпеў.

*Іван Капыловіч*

У полі снег бялее.
Уся душа дрыжыць,
Стаю, ледзь не калею,
Аж бачу: вецер вее,
Задыханы, бяжыць.

Саджуся я ў машыну
І так ганю яе,
Ажно дымяцца шыны!
Круць галавой на шыі,
Гляджу — ўжо ён пяе!

Ой, шустры вецер гэты,
Бо на бягу паспеў
Дастаць у полі ноты,
Пераспяваць куплеты, —
Развучвае прыпеў.

Чыю спявае песню?
Падобна, не сваю.
Ды выканаўца чэсны
Настрой стварае весні,
А я вось лынды б'ю.

# На замежным рынку

Навучыўся гандляваць —
Навучуся красці.

*Уладзімір Скарынкін*

Загула перабудова,
Гэта больш, чым знак бяды.
Дэвальвацыя на слова,
Творцы едуць хто куды.

Збег ад музы я ў Варшаву,
О мой Божа, смех сказаць:
Не ў архівы, не па славу —
Павучыцца гандляваць.

У свой плашч я ўлез па вушы.
Тут і сорам, тут і злосць.
Толькі ўжо й галёкаць мушу:
— Проша паньство — вудка ёсць!.
— Цо за вудка?
— Ад Дайнэкі.
Праяўляю нейкі спрыт: —
Сум забудзеш з ёй навекі!
У Дайнэкі ёсць і спірт.
— Кто то ест?
— Такі паэта,
Кінуў ён даўно пісаць
(Марны стаў занятак гэты) —
Стаў гарэлку выпускаць.

Я, між іншым, тэж паэта,
Кінуў рыфмы й я шукаць,
Могуць кануць вершы ў Лету, —

Пачынаю гандляваць.
Ах, на сорам не зважаю,
Кажуць, з гандлю можна жыць,
Заадно ўжо заўважаю,
Што сям-там не так ляжыць.

— Не крадзі, — пан гучна кажа, —
Творцаў дужа я люблю. —
І па сэрцу мёдам мажа: —
Вудку ўсю тваю куплю.

## Гарэза

> Ды нешта было паміж намі святое.
> Пілі мы да дна...
> Наліце мне шампанскага ў лілею...
>
> *Зінаіда Дудзюк*

Не я адна, не я адна
Да дна піла, усё да дна;
Ішла на грэх дзеля святога,
Я слодыч з горыччу піла,
Пасудзін асушыла многа,
А нешта п'янай не была.
Ужо дайшла і да каўша,
Глушыць хацела,
Але стамілася душа
І разамлела цела
Ад гэтых ёмкасцяў зямных —
Мяне нявартыя яны.
Вось у руках маіх лілея,
Каб пахмяліцца, я нашу...
Дзе тут мужчыны? Я прашу:

Хоць раз наліце мне ў лілею,
Мо хоць з пахмелля захмялею.

Чытач, прабач, — пажартавала,
Даруй за выдумку маю:
Не п'ю ні многа ані мала,
Так, я ў жыцці зусім не п'ю.
Цяпер баюся — не паверыш,
Што п'ю да дна я толькі ў вершы.

## Закахалася... ў лася

> Я гукала радкамі: «Кахаю!..»
> Мне ў адказ — немата цішыні...
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Не раўнуй мяне, ласіха,
> Што лася твайго люблю.
>
> *Зінаіда Дудзюк*

Сэрцаеда я чакала
Сярод пушчаў, паміж рэк —
Не жадала, не кахала
Недацёпаў, недарэк.

Толькі праўда тут не ўся,
Бо якраз ля вадапою
Вечароваю парою
Напаткала я ласся.

Падышла да звера ціха
І сказала: «Ай лаў ю!»...
Не раўнуй мяне, ласіха,
Што ласся твайго лаўлю.

Ты ж не помсці, не карай,
Не вазьмі мяне на рогі,
Да парнаскае дарогі
З пушчы выбрацца мне дай.

# Змест

**Давайце, творцы, жартаваць**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Жуковіч** Васіль Аляксеевіч

ЦУДАДЗЕЙНЫ ВІТАМІН

*Кніга сатыры і гумару*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 23.08.2011. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 11,55.
Ул.-выд. арк. 8,61. Наклад 250 ас. Зак. 633.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.